

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

6 КРАСАВІКА 2001г. № 14/4098 КОШТ 124 РУБ.







# Карона Траецкай гары



На пачатку мінулага стагоддзя Менск — будучая сталіца, сваім архітэктурным аблічам не надта вылучаўся сярод іншых гарадоў нашага краю. Менск моцна саступаў па прыгажосці Вільні і Гародні, Віцебску, Смаленску, Магілёву. Але пасля першай сусветнай вайны захад Беларусі трапіў пад польскую акупацыю, а з усходняй часткі краю, што апынулася пад уладаю бальшавікоў, тыя "адшкадавалі" для марыянетачнай БССР усяго толькі Менскую губерню. Так што выбіраць не было з чаго — губернскі горад стаў горадам сталічным. Сталічны выгляд ён набыў пазней, напрыканцы 30-х гадоў. Калі чатыры будынкі архітэктара І. Лангбарда надалі ўжо Мінску новы маштаб, стварылі новы вобраз. Гэта Дом урада, Дом афіцэраў, Акадэмія навук, Опера. Як звычайна бывае, у часе будаўніцтва высветлілася, што грошай на ўсе чатыры аб'екты не хапае. Вырашылі зэканоміць. Недабудавалі Акадэмію і перарабілі ў бок памяншэння кошту праект Оперы.

Пасля вайны інтэр'еры Опернага тэатра былі перароблены ў адпаведнасці з нормамі "сталінскага ампіру", а ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў адбылася яшчэ адна рэканструкцыя інтэр'ераў. Іх упрыгожылі манументальныя габелены А. Кішчанкі. Выгляд Опернага тэатра ад моста праз Свіслач на праспекце Францыска Скарыны ўвайшоў ва ўсе даведнікі, фотаальбомы і энцыклапедыі, прысвечаныя Мінску і Беларусі. Плошча перад Операй — самая ўтульная і, мабыць, самая рамантычная сярод мінскіх пляцаў. Рэканструкцыя самога будынка і прастораў, што яго атачае (ужо ёсць праект), зробіць гэта месца яшчэ больш прывабным для мінчукоў.

У Парыжы на самай высокай кропцы горада, на пагорку Манмартр стаіць бачная адусюль базіліка Сакрэ-Кёр. Над Масквою, на Вераб'ёвых гарах — універсітэт. Над Кіевам каронаю ўздымаюцца храмы Лаўры. Самая высокая кропка Мінска — Траецкая гара, укаранаваная Оперным тэатрам. Дальбог, мы — у прыстойным шэрагу.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*





# КОЛА ДЗЁН

***Нарэшце вясна... На вуліцы пад дваццаць градусаў цяпла. Простыя людзі ўжо задумваюцца над тым, што пасадзіць у агародзе, каб восенню сабраць багаты ўраджай. У Палаце прадстаўнікоў дэпутаты думаюць-рыхтуюцца прызначыць дату выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Кажуць, выбары будуць восенню і хутчэй за ўсё ў верасні. Але як яно ўсё будзе, пакуль што толькі Богу вядома. А ў суседзяў на Украіне некаторыя змагаюцца з Кучмам, у Расіі — з НТВ, а ў Югаславіі Мілошавіча пасадзілі ў турму. Словам, вясна...***

## ВЫБАРЫ ТЫДНЯ

У мінулую нядзелю ў 11 акругах прайшоў другі тур паўторных выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У сярэднім на выбарчых участкі прыйшло больш за 55 працэнтаў выбаршчыкаў. Ва ўсіх акругах вызначыліся пераможцы. Сярод іх няма ніводнага члена палітычных партый. Ёсць два дэпутаты Палаты прадстаўнікоў першага складу — У. Ягораў і В. Аляксандраў. Такім чынам цяпер у Палаце прадстаўнікоў 110 дэпутатаў.

## УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ

У Дзень яднання Беларусі і Расіі 2 красавіка ў Крамлі прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку быў уручаны расійскі ордэн "За заслугі перад Айчынай II ступені". Гэтай узнагароды ён удастоены за вялікі асабісты ўклад у стварэнне Саюзнай дзяржавы, умацаванне дружбы і добрасуседства паміж народамі Беларусі і Расіі.

## АДЗНАКА ТЫДНЯ

Пісьменніка Васіля Сёмуху ў нашай краіне ведаюць як аднаго з самых аўтарытэтных перакладчыкаў. На працягу больш чым 40 гадоў ім перакладзены на беларускую мову амаль усе значныя творы нямецкай літаратуры. Гэтая акалічнасць не засталася не заўважанай у ФРГ. І вось 5 красавіка пасол Германії д-р Хорст Вінкельман уручыў Васілю Сёмуху Крыж кавалера ордэна "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія", якім пісьменнік быў адзначаны па рашэнні прэзідэнта ФРГ Йоханнэса Рау. Гэтая ўзнагарода — ацэнка вялікага ўкладу, зробленага Васілём Сёмухам у справу ўзаемаразумення і прымірэння паміж беларусамі і немцамі.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

На адным з апошніх пасяджэнняў праўлення Нацыянальнага банка Беларусі было прынята рашэнне аб зняцці абмежаванняў для насельніцтва па суме куплямай у абменных пунктах і касах банка замежнай валюты. Раней яно вызначалася ў эквіваленце 300 долараў. Апошняе рашэнне прынята для далейшай лібералізацыі валютнага рынку і ўдасканалення валютна-абменных аперацый. Цяперашняя валютная палітыка, як адзначаюць у Нацбанку, надоўга. Як гэта "надоўга" будзе доўга — пакажа час.

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

Аматары футбола і прыхільнікі нашай зборнай нарэшце дачакаліся свята на сваёй вуліцы. Гэта адбылося пасля таго, як нацыянальная зборная Беларусі згуляла ў нічыю з украінцамі (0:0) і перамагла нарвежцаў (2:1). Пасля пяці матчаў наша каманда займае другое месца, адстаючы ад зборнай Польшчы на тры ачкі і апярэджваючы ўкраінцаў на два. І хоць уся барацьба наперадзе, нашы футбалісты маюць шанц трапіць у фінал. Праўда, для гэтага трэба ў астатніх пяці матчах набраць калі не максімум ачкоў, дык хоць бы столькі, колькі ў першым крузе. Словам, поспехаў вам, хлопцы!

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

30 сакавіка ў Токіо на сустрэчы прадстаўнікоў беларускага і японскага Міністэрстваў замежных спраў было прынята рашэнне выдзеліць Беларусі 1 мільён долараў на закупку і транспарціроўку ў нашу краіну лекаў і медыцынскага абсталявання. Нехта скажа: "Малавата...". А нехта: "Дзякуем!" Ды галоўнае — японцы разумеюць, што мы жывём ужо амаль 15 гадоў на зямлі, якую напаткала чарнобыльская трагедыя і нам лекі патрэбны як нікому.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

З 1 красавіка 2001 года, і гэта не жарт, сутачныя за кожны дзень камандзіроўкі будуць выплачвацца ў памеры 2000 рублёў. Да гэтага часу камандзіровачным плацілася 1500 рублёў. Не так ужо і шмат было ды і стала нямнога, калі ў камандзіроўку едзеш на пару дзён. Але калі паехаць на два тыдні або тры... Толькі хто пусціць? Куды? І чаго?

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Калі ў нашай краіне і нашых блізкіх суседзяў апошнімі гадамі колькасць насельніцтва істотна зменшылася, то ў Індыі ўсё наадварот. Па стане на 1 сакавіка ў гэтай краіне жыло 1 мільярд 27 тысяч чалавек. Такім чынам, Індыя стала другой краінай у свеце пасля Кітая, дзе колькасць насельніцтва перавысіла мільярд. Паводле вынікаў перапісу насельніцтва, за перыяд з 1991 па 2001 год колькасць жыхароў Індыі ўзрасла на 181 мільён чалавек. Гэта амаль на 40 мільёнаў чалавек больш, чым цяпер жыве ў нашай суседцы Расіі. Але што нам да той Індыі, калі мы сваіх 10 мільёнаў не можам як належыць ні накарміць, ні апрануць... І ўсё ж...

## ПАЧЫН ТЫДНЯ

З 1 красавіка па 30 у нашай сталіцы праходзіць месячнік па ачыстцы горада ад смецця, што засталося пасля зімы. Мінгарвыканкам звярнуўся да мінчан з заклікам навесці чысціню ў сваіх дварах, пад'ездах, падвалах. Заклік добры, тым больш, што праз тыдзень праваслаўны Вялікдзень, а гэтае свята заўсёды сустракалі ў чысціні і духоўнай, і фізічнай.

## ЗАТРЫМАННЕ ТЫДНЯ

Мяжа паміж краінамі на тое яна і мяжа, каб праз яе ў краіну не пранікала кантрабанда, а з самой краіны без дазволу не вывозіліся каштоўнасці. Наколькі добра працуюць памежныя службы, настолькі ў нейкай ступені добра ў краіне жывуць людзі. Прайшоў ужо не адзін год, як паміж Беларуссю і Расіяй быў ліквідаваны памежны слуп. І ўсё ж мяжа паміж намі не знікла. І гэта нармальна, бо ў кожнай краіне свае клопаты і інтарэсы. Аднак не расійскія памежнікі, а супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі па Гродзенскай вобласці затрымалі партыю старадаўніх абразоў і прадметаў царкоўнага прызначэння, якія трапілі ў Гродна з Расіі. Па гэтай справе затрымана інтэрнацыянальная група кантрабандыстаў, у складзе якой па адным грамадзяніне з Польшчы, Беларусі і Расіі. Так што толькі дзякуючы беларусам расійскія каштоўнасці не сплылі далёка на захад. Але...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

## Ведаць і шанаваць мінулае

Па-рознаму складваецца лёс творцы. У адных, як, да прыкладу, дзесяцікласніцы Валерыі Куставай, імклівая і радасная: першая кніжка — у дванаццаць гадоў, публікацыі, прэміі, і вось ужо другі зборнік паэзіі падрыхтаваны ў выдавецтве; у другіх, як у жыхара Ваўкавыска Геральда Кісялёва — вучоба ў Літінстытуце, першы зборнік у Маскве, а потым — дзесяцігоддзі маўчання, пісання "ў стол"... Пра гэта гаварылася на апошнім пасяджэнні секцыі паэзіі, якое было прысвечана абмеркаванню творчасці гэтых і іншых аўтараў.

І калі, як сказаў старшыня секцыі паэт Мікола Мятліцкі, для Валерыі Куставай шлях у прафесійную літаратуру — гэта надзея, спадзяванні старэйшых, у некаторым сэнсе нават аванс, то для Геральда Кісялёва — гэта прызнанне шматгадовага творчага шляху, своеасаблівае вяртанне даўгоў, прызнанне даўно ўжо здзейсненага і знойдзенага месца ў літаратуры.

Дарэчы, "адкрыццё" Г. Кісялёва адбылося ў час леташняга "Траецкага кірмашу", калі своеасаблівы творчы семінар з сябрамі Ваўкавыскага літаб'яднання правялі Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч. Апошнім часам пераклады Г. Кісялёва з Рыльке з'явіліся ў часопісе "Всемирная литература", яго вершы прагучалі па радыё, з'явіліся ў перыядычным друку.

Цёплыя словы прысутныя казалі і пра паэтку з Віцебска Алену Гінько, кнігу яе вершаў "Самотная птушка", якая была выпушчана ў Полацку.

Наогул, размова на секцыі выйшла не толькі ў абмеркаванне твораў тых, хто "пастукаўся" ў нашу творчую арганізацыю. Прагучала нямала цікавых думак пра літаратуру, пра лёс Саюза пісьменнікаў, неабходнасць яго адзінства і пераемнасці слаўных традыцый папярэднікаў.

Пра гэта цікава і змястоўна гаварылі Эдуард Акулін, Яўген Хвалей, Янусь Малец, Мікола Шабовіч і інш.

Секцыя рэкамендавала Валерыю Куставу, Алену Гінько, Геральда Кісялёва для разгляду прыёмнай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў з мэтай папаўнення радоў пісьменніцкай арганізацыі краіны.

●

Дзейсную дапамогу раённым уладам у падрыхтоўцы да 120-годдзя Якуба Коласа аказваюць на Стаўбцоўшчыне пісьменнікі-земляк. На сустрэчы з намеснікам старшыні райвыканкама С. Галоўкам і загадчыкам райана У. Стомам Алесь Рыбак, Алесь Камароўскі і Яўген Хвалей вялі гаворку аб добраўпарадкаванні і рамонце Мікалаеўшчынскай школы, якая стане адным з асноўных пунктаў будучага свята. Са свайго боку пісьменнікі абяцалі падтрымку ў прыцягненні ўвагі рэспубліканскіх улад і грамадскасці да праблем старэйшай навучальнай установы.

Дарэчы, згаданыя пісьменнікі — выпускнікі гэтай школы, частыя госці ў яе сценах, як, зрэшты, і ў іншых калектывах Стаўбцоўшчыны.

Як паведаміў на сустрэчы Алесь Камароўскі, зараз рыхтуецца кніга 35 аўтараў, якія звязаны лёсам з Мікалаеўшчынскай школай. Шмат землякоў прадставілі свае творы ў кнігу пра Нёман, якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва".

**Н. К.**

Сувязь часоў, сувязь пакаленняў... Ці ж не імкнёмся мы яшчэ са школьнай парты зазірнуць у цікавы і дарагі свет мінулага роднага краю, каб ведаць, якім шляхам прайшлі нашы папярэднікі, як яны жылі, што было ў іх жыцці галоўным, якія былі іх духоўныя і матэрыяльныя набыткі? Гэтае святое імкненне не забываць гісторыі прашчураў, паважліва ставіцца да мінулага і ганарыцца вартасцямі сваёй Радзімы, каб памнажаць яе добрую славу і сёння, імкненне, патрыятычнае па сваёй сутнасці, вызначальнае ў выхаванні моладзі.

Менавіта маючы на ўвазе ўсё сказанае секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва сабрала "круглы стол" літаратараў, зацікаўленых у стварэнні своеасаблівага мастацкага летапісу гісторыі нашай краіны.

Што зроблена, што робіцца, як развіваецца ў нас жанр навукова-папулярнай літаратуры, прысвечанай мінуламу і сённяшняму дню Беларусі?

Без перабольшання можна гаварыць аб значным укладзе выдавецтва "Юнацтва", нашых дзіцячых часопісаў "Вясёлка" і "Бярозка" і іншых выданняў у гэтую надзвычай важную справу.

У сваім выступленні прадстаўнік выдавецтва "Юнацтва" Міхась Зарэмба назваў нямала цікавых выданняў гістарычнага зместу. Безумоўна, на першым плане — серыйнае выданне "Бацькаўшчына", ідэя стварэння якой належала пісьменніку Сяргею Панізніку. Шкада, безумоўна, што зборнік гістарычных твораў пакуль не ідзе ў заказ для бібліятэк рэспублікі...

Не менш папулярнае і серыйнае выданне "Эўрыка". Адна з кніг гэтай серыі прысвечана 2000-годдзю хрысціянства. Плённа супрацоўнічае выдавецтва з пісьменнікам Алесем Марціновічам, які з'яўляецца, у прыватнасці, аўтарам кніг: "Залатавуст з Турава" і "Сімеон, сын Полацка".

Пра займальнасць і карыснасць серыі "Бацькаўшчына" вельмі зацікаўлена гаварыў Сяргей Панізнік. Падзяліўся ён і планамі падрыхтоўкі наступных кніжак серыі. Так, ён плануе прысвяціць адзін са зборнікаў "Бацькаўшчыны" старадаўняй Вільні.

Паказальна, што значнае месца адводзіць выдавецтва "Юнацтва" перавыданню найбольш значных дзіцячых твораў, прысвечаных мінуўшчыне, гісторыі Беларусі.

Падсумоўваючы зробленае часопісам "Бярозка" ў асвятленні гістарычнай тэмы за апошні час, яго адказны сакратар Уладзімір Мароз адзначыў станоўча публікацыі, якія змяшчаліся пад рубрыкай "Беларусь-2000": рэдакцыя расказала пра кожнае стагоддзе існавання нашай Беларусі. Дзякуючы шырокаму аўтарскаму актыву, адрасным публікацыям і добраму густу тых, хто робіць часопіс, істотна вырас і тыраж выдання.

Член рэдакцыйнай калегіі часопіса "Вясёлка" Маргарыта Яфімава ў сваім выступленні акцэнтавала ўвагу на тым, што часопіс пастаянна далучае сваімі публікацыямі маленькіх чытачоў да цікавых старонак гісторыі Беларусі. Ёсць тут і адпаведная рубрыка: "Наша спадчына", якая цудоўна афармляецца мастакамі. Менавіта з гэтых публікацый часопіса і нарадзілася цікавая кніга — "Нам засталася спадчына". Гэтак жа сабралася пазнавальная кніжка і ў Міколы Маляўкі "Сядзіба, або Свечка на покуце", якая ўжо рыхтуецца да друку ў выдавецтве "Юнацтва" і ў якую ўвайшлі шматлікія публікацыі часопіса пра даўнюю сялянскую сядзібу з рознымі гаспадарчымі рэчамі і прыладамі хатняга ўжытку (рубрыка — "Музей Вясёлкі").

Правяла "Вясёлка" і цікавае завочнае падарожжа па Рэспубліцы "Беларусь", якое праца́валася на старонках часопіса два гады.

У гаворцы актыўны ўдзел прынялі пісьменнікі Павел Місько, Яўген Хвалей, Міхась Чарняўскі, Таццяна Мушынская і іншыя. З іх вуснаў прагучалі і слушныя прапановы.

У прыватнасці, Міхась Чарняўскі лічыць, што прыйшоў час выпускаць у рэспубліцы для моладзі навукова-папулярны часопіс.

На "круглым стале" адбылася своеасаблівая прэзентацыя першага тома "Гісторыі Беларусі", прысвечанага старажытнаму перыяду існавання нашай Радзімы. Усіх тамоў мяркуецца выдаць шэсць. Папулярна напісаныя кнігі разлічаны на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**Я. ІВАНОЎ**

●

Днямі адбылося пашыранае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу, на якім ішла гаворка пра новыя выданні, пра надзённыя пытанні практыкі і тэорыі перакладчыцкай дзейнасці на сучасным этапе, пра сённяшнія сувязі паміж літаратарамі розных краін. У цэнтры ўвагі былі такія выданні, як "Антალогія беларускай паэзіі", што выдадзена летась у Сафіі выдавецтвам "Панарама", зборнік перакладаў беларускай паэзіі Найдзена Вылчава "Беларуската моя тетрадка", што пабачыў свет у выдавецтве "Беллітфонда", новае, дапоўненае выданне кнігі Стэфана Паптонева "Беларусь — белая балада".

Сваімі меркаваннямі пра гэтыя выданні падзяліўся даўні сябра балгарскай літаратуры і перакладчык яе на беларускую мову Ніл Гілевіч. Ён, у прыватнасці, звярнуў увагу на тое, што над падрыхтоўкай "Анталогіі" працаваў вялікі творчы калектыў — укладальнік і аўтар прадмовы Румяна Яўцімава, рэдактар Стэфан Паптонеў, перакладчыкі Антоній Аляксееў, Элена Алекава, Здраўка Кісьёў, Зоя Васільева, Марка Ганчаў, Пырван Стэфанаў, Сімяён Уладзіміраў, Тэадор Ганчаў, Хрыста Папоў, Янка Дзіваў. Характэрна, што тут побач з майстрамі мастацкага перакладу выступаюць і паэты маладзейшага пакалення. Трэба адзначыць, дадаў Ніл Гілевіч, што "Анталогія" выйшла пры падтрымцы пасольства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі і пры фундатарстве балгарскіх фірмаў, неабыякавых да сяброўства двух нашых народаў, нашага творчага супрацоўніцтва.

Адбыўся ажыўлены абмен думкамі, у якім прынялі ўдзел Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Кастусь Цвірка, Яўген Каршукоў, Уладзімір Анісковіч, Уладзімір Сакалоўскі, Алесь Яскевіч, Васіль Жуковіч, Алесь Траяноўскі, балгарыстка Марына Абрагімовіч. Абмеркаванне выходзіла часам за рамкі тэмы беларуска-балгарскага супрацоўніцтва. Вольга Іпатава закранула пытанне правядзення семінараў перакладчыкаў. Кастусь Цвірка падзяліўся прапановай наконт выдання анталогій-хрэстаматый літаратур народаў свету. Алесь Яскевіч гаварыў пра вытокі і карані дзвюх старажытных славянскіх моў — беларускай і балгарскай.

На пасяджэнні секцыі было прынята рашэнне аб рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў перакладчыкаў Ірыны Качатковай і Валерыя Стралко.

**Марыя РУДОВІЧ**

●

У чарговым рэспубліканскім конкурсе "Мастацтва кнігі", які сёлета на Беларусі праходзіць у саракавы раз, сярод лаўрэатаў — маладое выдавецтва "Беллітфонд", якое працуе пры Саюзе пісьменнікаў і Беллітфондзе. Яно ўдастоена дыплома другой ступені за кнігу У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Дарэчы, гэта кніга адкрыла новую серыю "Беларускі гістарычны раман", у якой будуць выходзіць лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў на гістарычную тэму. Сярод бліжэйшых па часе выданняў гэтай серыі — раманы А. Пашкевіча, В. Іпатавай, Л. Дайнекі.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Прэміі — лепшым

Ужо традыцыяй стала святкаванне міжнароднага Дня тэатра на гасціннай сцэне Купалаўскага тэатра. Каторы год у гэты дзень становяцца вядомымі імёны ўладальнікаў узнагарод Беларускага саюза тэатральных дзеячаў і Міністэрства культуры.

"Крыштальная Паўлінка" — так называецца заснаваны ў 1992 годзе прыз за яркае таленавітае жыццё ў тэатры. Яго можна атрымаць толькі адзін раз. Гэта вышэйшая адзнака калег чалавеку, які прысвяціў тэатру ўсё сваё жыццё. Раней "Паўлінку" атрымлівалі С. Станюта, З. Канапелька, А. Саўчанка, А. Клімава, Н. Гайда, В. Раеўскі, Б. Герлаван, Р. Янкоўскі, Ф. Шмакаў. У новым тысячагоддзі да гэтага сузор'я далучылася імя актрысы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Ліліі Давідовіч.

"Крыштальную Зорку" за адданую дзейнасць на ніве тэатральнага мастацтва ў гэтым годзе атрымала артыстка Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Жанна Друцкая. "Крыштальную Кветку" за яркі дэбют аддалі артысту Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага Сяргею Чэкярэсу.

Год таму пайшла з жыцця вядомы беларускі балетмайстар Галіна Шалянкова-Воранава, якая плённа працавала ў Купалаўскім, Рускім, Музычным тэатрах, ТЮГу, на "Вольнай сцэне". Саюз тэатральных дзеячаў падтрымаў прапанову яе мужа, акцёра Канстанціна Воранава заснаваць прыз яе памяці. "Крыштальнай Ластаўкай" за яркае пластычнае вырашэнне спектакля першай была адзначана сама Галіна Шалянкова-Воранава, на жаль, пасмяротна.

У адпаведнасці з рашэннем камісіі па імянных прэміях Міністэрства культуры РБ і Беларускага саюза тэатральных дзеячаў у галіне тэатральнага мастацтва за 1999—2000 гады прэмія імя Ларысы Александроўскай была прысуджана салістцы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Тамары Глаголевай за выкананне галоўнай партыі ў оперы Пучыні "Турандот" і партыі Абігайл у оперы Вердзі "Набука"; прэмія імя Ігната Буйніцкага — заслужанаму артысту рэспублікі, акцёру-купалаўцу Мікалаю Кірычэнку; прэмія імя Еўсцігнея Міровіча — мастацкаму кіраўніку ТЮГа Андрэю Андросіку за пастаноўку спектакля "Палачанка"; прэмія імя Любові Мазалеўскай — заслужанай артыстцы Беларусі, актрысе гэтага ж тэатра Веры Кавалеравай; прэмія імя Кандрата Крапівы — доктару мастацтвазнаўства, прафесару Анатолю Сабалеўскаму. Кожны з іх, акрамя грашовай прэміі, атрымаў яшчэ і прыз "Натхненне".

Спецыяльнымі прэміямі і дыпломамі за кнігі, прысвечаныя тэатру, і за актыўную дзейнасць у друку былі ганараваны Таццяна Арлова, Уладзімір Шэліхін і Ганна Герштэйн.

Яшчэ адной новай прэміяй у гэтым годзе стала болей. Але яе заснавальнікам стаў не Саюз тэатральных дзеячаў, а прыватная асоба — Зоя Данілаўна Ушакова, удава Івана Міхайлавіча Ушакова, які працаваў у Купалаўскім тэатры з 1933 па 1954 год, трынаццаць з іх — галоўным мастаком тэатра. У гэтым імкненні Зою Данілаўну падтрымала Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры, Беларускі фонд культуры. Новая прэмія будзе ўручацца тэатральным мастакам. Паводле вынікаў І рэспубліканскага конкурсу мастакоў тэатра першая прэмія імя заслужанага дзеяча мастацтваў РБ Івана Ушакова была прысуджана Аляксандру Сідараву за сцэнаграфію да спектакля "Ладдзя роспачы" паводле Караткевіча (тэатр "Лялька", г. Віцебск).

Свае віншаванні дзеячам тэатральнага мастацтва Беларусі накіраваў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ФЕСТЫВАЛІ

# Сустрэчы па-еўрапейску

Вечар 6 красавіка адметны для нашага музычнага жыцця: у сталічнай філармоніі адкрываецца традыцыйны фестываль "Мінская вясна".

Яго канцэрты пройдуць пад агульнай назвай "Еўрапейскія музычныя сустрэчы". Гэта добры знак, калі на пачатку новай эры ладкуецца ў цэнтры Еўропы мастацкая імпрэза з удзелам прадстаўнікоў розных краін, розных народаў, якіх яднае агульнае: чалавечая душа, эстэтычныя пачуцці, высокія памкненні творчага духу.

У праграмах "Мінскай вясны" — змястоўныя сімфанічныя, камерныя, харавыя канцэрты, многія — з удзелам нашых гасцей. Яны завітаюць з Германіі, ЗША, Латвіі, Іспаніі, Польшчы, Расіі, Турцыі, Украіны, Францыі. Шэраг праграм паяднае ў супольнай творчасці замежных і айчынных музыкантаў.

Пералічыць усё, вартае ўвагі заўсёднікаў філармоніі, проста не выпадае. Аматары фартэпіянных дуэтаў, напрыклад, змогуць паслухаць братоў Лукашчыкаў з Польшчы, сёстраў Ондэр з Турцыі, маладых мінчанак, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Н. Пазнякову ды Г. Гетманаву. З сольнымі канцэртамі выступяць піяністы М. Лідскі (Масква), Алексій Грынюк (Кіеў), іх беларускія калегі. Іспанскія салісты і маэстра Ё. Марці разам з аркестрам Белтэлерадыё выканаюць музыку сваіх суайчыннікаў. Адзін з канцэртаў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пройдзе пад кіраўніцтвам дырыжора К. Ніксан Лэйн (ЗША). З калектывам жыночых хораў на чале з маэстра М. Казінцом будуць спяваць знакамітыя летувіскія салісты В. Нарэйка ды Э. Канява, а з аркестрам "Маладая Беларусь" пад кіраўніцтвам таго ж дырыжора выступяць французскія музыканты...

Сённяшні філарманічны вечар правядзе маэстра Г. Праватораў. З Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі выступяць лаўрэаты міжнародных конкурсаў піяністы М. Рамейка (Беларусь) ды У. Мішчук (С.-Пецярбург). Прагучыць музыка М. Равеля ды І. Стравінскага. Адбудзецца прэм'ера новага твора Л. Шлег "Велікодныя званы". Дарэчы, на афішах "Мінскай вясны" імёны сучасных айчынных творцаў сустракаюцца досыць часта. Хаця б таму, што Беларускае таварыства сучаснай музыкі праводзіць у межах фестывалю сваю імпрэзу. Але пра гэта мае быць асобная гаворка.

**С. Б.**

ВЕЧАРЫНЫ

# Марыс Карэм і іншыя

Беларуска-бельгійскае таварыства пры Доме дружбы і культурных сувязей стварылася ці не адным з апошніх, але з цягам часу прыкметна актывізавалася. Сведчанне таму — надаўняя літаратурна-музычная вечарына, якую з поўнай падставай можна лічыць паспяховаю.

У гэтай вечарыны свая перадгісторыя — перапіска з музеем бельгійскага сучаснага класіка Марыса Карэма. З Брусселя даслалі кнігі пісьменніка, ноты песень на яго вершы, аўдыёкасеты і г. д. Старшыня таварыства Тамара Антановіч вырашыла далучыць да тэмы і творчасць сяброў таварыства — паэтаў Галіны Каржанеўскай і Леаніда Дранько-Майсюка. Выстраілася ладная праграма, у межах якой бралі слова паэтка Людміла Сільнова, выкладчыкі, настаўнікі, студэнты, школьнікі. Так, студэнтка 2 курса ЕГУ Марыя Лысенка выканала лірычную песню на французскай мове.

Канчаткова інтэрнацыянальны характар надала імпрэзе прысутнасць перакладчыка Валерыя Стралко і віцэ-прэзідэнта асацыяцыі украінцаў "Ватра" Таццяны Бей, якая хораша прачытала вершы згаданых паэтаў у перакладзе на ўкраінскую. Эмацыйны выступ беларускай паэткі з Кіева Ірыны Снарскай таксама не стаў чымсьці іншародным у праграме. Можна лічыць, што ў Марыса Карэма з'явіліся новыя прыхільнікі.



**Г. З.**

*Фота К. ДРОБАВА*

ВЫСТАВЫ

# На фоне Вільні

У дзень аднаўлення незалежнасці Літвы амбасада Літоўскай рэспублікі ў РБ адкрыла ў Музеі сучаснага мастацтва фотавыставу Дзяніса Раманюка "Аўтапартрэт на фоне Вільні".

Вільня ў творчасць Дзяніса трапіла невыпадкова. Ён вучыўся ў Віленскай мастацкай акадэміі, там ён перыядычна жыве і зараз, заўжды выбіраючы кватэры ў межах старога горада. У Вільні даўно склаўся беларускі асяродак, увабраўшы ў сябе многіх беларускіх мастакоў. Былі гады блуканняў па вулках старой Вільні, здымак за здымкам складалася фотасерыя Дзяніса Раманюка. Гэта панарама змен горада за колькі апошніх год. Сам жа аўтар прысутнічае на здымках... сваім ценем, прывіднай прысутнасцю ў горадзе. Паявлічаны ў некалькі разоў, гэты цень не перашкаджае найперш успрымаць сам горад — ад вузкіх вулак да бясконцых панарам дахаў і комінаў.

Думаецца, што погляды яго бацькі, вядомага этнографа і мастацтвазнаўцы Міхася Раманюка, праца над выданнем яго спадчыны далучыла Дзяніса да этнаграфічна-гістарычнай дакладнасці навукоўцы ў фотаздымках, што не бракуе анізк і творчаму лёту мастака.

**Н. Ш.**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Дзень творчых сустрэч

Раман Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў" стаў прадметам гаворкі ў Гомельскай славянскай бібліятэцы, якую па запрашэнні Таварыства Кірылы Тураўскага наведала пісьменніца. Сваімі думкамі пра гэты твор падзяліліся дацэнт кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны Вольга Шынкарэнка і студэнт гэтага ж універсітэта Сяргей Падсасонны, мясцовая паэтэса і мовазнаўца Эма Усціновіч і іншыя. Вольга Іпатава расказала, як працавала над раманам, падзялілася творчымі планамі. Прыемны сюрпрыз для пісьменніцы зрабіў мастак Генадзь Говар — падараваў Вользе Міхайлаўне яе партрэт.

Цёпла прымалі пісьменніцу ва універсітэце. Госця адказвала на шматлікія пытанні, чытала вершы. Свае вершы прачытала таксама Ніна Шклярава, а вёў сустрэчу дацэнт і паэт Віктар Ярац.

Кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава сустрэлася і з мясцовымі літаратарамі. Яна расказала аб тых праблемах, якія існуюць сёння ў творчым саюзе, спынілася на тым, як вядзецца падрыхтоўка да з'езда, што павінен прайсці 29 мая. Свае думкі і меркаванні па хвалюючых пытаннях выказалі Віктар Ярац, Анатоль Бароўскі, Соф'я Шах, Ізяслаў Катляроў, Валянціна Кадзетава, Таіса Мельчанка, Ніна Шклярава, Аляксандр Сопат, Іван Афанасьеў і Ларыса Раманава.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў**

### Таленты зямлі палескай

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Пушкар у свой час стварыў у Мазыры знакаміты музей ганчарства. Але і ў іншых відах прыкладнога мастацтва зарэкамендавалі сябе палешукі з самага лепшага боку. Яскравае сведчанне таму — экспазіцыя з двухсот работ у абласным Цэнтры народнай творчасці. Прадстаўлены тут кераміка, ткацтва, вышыўка, вязанне, бісер, інкрустацыя, разьба па дрэве, вырабы з саломкі.

### "Студэнцкая вясна-2001"

У Гомелі прайшоў першы маладзёжны фестываль "Студэнцкая вясна-2001". У ім прынялі ўдзел лепшыя творчыя калектывы вышэйшых навучальных устаноў абласнога цэнтра: тэатры мініяцюр, інструментальныя, вакальныя ансамблі, салісты і танцавальныя калектывы. Вырашана, што фестываль "Студэнцкая вясна-2001" стане традыцыйным.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### На мовах сяброўства

Кожнага з лідчан, хто прыйшоў у музычны цэнтр "Панарама" на канцэрт ансамбля "Шалом", уразіла яго праграма. Яна складалася з народных песень і малітваў. Творы гучалі на беларускай, яўрэйскай і рускай мовах. "Шалом" з поспехам выступаў у Польшчы і Ізраілі, у Маскве і на Беларусі. Калектыў, які ўзначальвае Міхаіл Дзвілянскі, з'яўляецца лаўрэатам Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

## БРЭСТЧЫНА...

### Вобраз роднай зямлі

Краявіды Палесся, Панямоння, Наваградчыны ды іншых куткоў Беларусі адкрыліся наведвальнікам выставы сябра Саюза мастакоў Генадзя Сурмы ў Брэсце. Нястомны творца, вандроўнік, удзельнік шматлікіх пленэраў склаў экспазіцыю больш чым са ста сваіх лепшых пейзажаў і нацюрмортаў. Ён адзін з тых, каго з поўным правам можна назваць менавіта беларускім нацыянальным мастаком. Так на адкрыцці выставы характарызавалі аўтара многія яго калегі, адзначаючы адметнасць каларыту, лірычную настраёвасць і выразнасць карцін, якія, сабраныя разам, стварылі вабны вобраз роднай зямлі.

### "Барвінкі" і "Барвіначкі"

У вёсцы Хмелева, што на Жабінкаўшчыне, спяваюць і паказваюць старажытныя народныя абрады два фальклорныя гурты пад адной назваю "Барвінак". Гэта старэйшыя аматары фальклору прывабілі да свайго захаплення дзяцей, якім перадаюць веды і майстэрства. І амаль кожнае выступленне ладзяць разам з імі. Не так даўно, напрыклад, правялі вечарыну "Куточак мілы беражэ хай Бог..." пры актыўным удзеле юных артыстаў, якія дапамаглі старэйшаму гурту пацвердзіць званне народнага. "Барвіначкі" ж марадь аб званні "ўзорны" і — разам з дарослымі — рыхтуюць сваю новую праграму.

**Сымон АКСЕНІН**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Да землякоў

У Горацкім Палацы культуры адбылася творчая вечарына паэта Змітрака Марозава. Аўтар 22-х кніг чытаў свае вершы. Выступілі студэнцкі тэатральны гурток, мясцовыя кампазітары і выканаўцы, творчая інтэлігенцыя. Адбылася цікавая гутарка паміж творцам і слухачамі.

**Наталля ПАХАМОВІЧ**

## ВІЦЕБШЧЫНА

### Свет акварэлі

Выставы акварэлі Фелікса Гумена адкрыліся адразу ў трох залах абласнога цэнтра. Мастак адзначаў 60-гадовы юбілей і 40-годдзе творчай дзейнасці. Мастацтвазнаўцы і прыхільнікі таленту майстра даўно ацанілі асаблівы свет яго карцін, у якіх акварэль аўтар узвялічвае як каралеву мастацтва. Сотні работ мастака знаходзяцца ў прыватных калекцыях розных краін свету.

### "Гліняны Вялес" за "Цэнзарскія нажніцы".

Таварыства вольных літаратараў узнагародзіла прэміяй "Гліняны Вялес" гродзенскага празаіка Сяргея Астраўцова за кнігу "Цэнзарскія нажніцы". Урачыстасці праходзілі ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Як адзначыў пісьменнік Алесь Аркуш, пераможца сёлета быў абраны з дзесяці прэтэндэнтаў. Такім чынам, ТВЛ не спыняе сваёй дзейнасці па развіцці літаратурнага працэсу ў правінцыі... Тут жа адбылася і прэзентацыя новага літаратурна-мастацкага часопіса "Правінцыя".

**Святлана ГУК**

## "Перадусім..." Сяргея Панізніка

**Добрай традыцыяй сталіся ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зьніч" сустрэчы з цікавымі асобамі. Вось і 22 сакавіка адбылася сустрэча з лаўрэатам літаратурнай прэміі імя У. Калесніка, кавалерам Ордэна трох зорак Латвійскай Рэспублікі паэтам Сяргеем Панізнікам.**

**"Перадусім..." — назва паэтычна-музычнай імпрэзы. Распачалася яна невялічкай выставай кніжных серый, у тым ліку "Бацькаўшчыны", укладальнікам якіх з'яўляецца Сяргей Сцяпанавіч. Найцікавейшымі ў гэтай выставе былі першакрыніцы, што давалі магчымасць адчуць няпросты шлях кніг да чытача.**

**У цудоўным выкананні Таццяны Машанскай, салісткі ансамбля "Старажытная музыка" пад кіраўніцтвам Юрася Пшанічнага на вечарыне прагучалі песні на вершы Сяргея Панізніка.Выступоўцы гаварылі пра творчасць паэта, дзяліліся ўспамінамі. У выкананні артыста Вячаслава Галузы нечакана нават для самаго Сяргея Панізніка былі прадстаўлены яго вершы розных гадоў.**

**Напрыканцы сустрэчы паэт прачытаў верш, прысвечаны мастацкаму кіраўніку тэатра Галіне Дзягілевай у знак сяброўства і далейшага супрацоўніцтва.**

**Г. СПАСКАЯ,**
**загадчык літаратурнай часткі тэатра "Зьніч"**

## Свята кнігі

**З 23 па 31 сакавіка, падчас вясновых канікул, у Беларусі праводзіўся традыцыйны Тыдзень дзіцячай кнігі. А гэта заўсёды новыя выставы ў бібліятэках, знаёмства з кніжнымі навінкамі, сустрэчы маленькіх чытачоў з пісьменнікамі. Адна з такіх сустрэч адбылася ў мінскай школе N 188, куды прыйшлі загадчыца дзіцячай бібліятэкі N 8 Галіна Кізянкова (бібліятэка даўно сябруе з гэтай школай) і Таццяна Мушынская. Новая кніга вершаў пісьменніцы "Калі тата — дзед Мароз" і з'явілася падставай для сустрэчы, арганізаваць якую дапамагла загадчыца школьнай бібліятэкі Любоў Ільіна.**

**Школа N 188 — асаблівая. Яна знаходзіцца ў цэнтры Мінска, на вуліцы М. Багдановіча, а вучацца ў ёй дзеці з аслабленым зрокам. Яны прыязджаюць сюды з усяго горада. Старэйшыя — самі, малодшых прывозяць і забіраюць бацькі. Класы тут невялічкія, па 10—12 чалавек. Для такіх дзетак выдаюцца спецыяльныя падручнікі — з павялічаным шрыфтам. У кожным класе ёсць некалькі вучняў, кнігі і навучальныя дапаможнікі для якіх надрукаваны шрыфтам Брайля.**

**Але нягледзячы на ўсе жыццёвыя цяжкасці, гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі гэтак жа, як і іх аднагодкі, любяць чытаць вершы, любяць песню і танец. У гэтым пераканала і сустрэча. Падчас яе вучні пачатковай школы прачыталі тыя вершы з кніг "Калі тата — дзед Мароз", якія ім асабліва спадабаліся. Чытала свае вершы і аўтарка. Вядома, не абышлося і без гульні ў рыфмы, якая звычайна падабаецца кожнай дзіцячай аўдыторыі. Гульня захапіла і настаўнікаў, якія дапамагалі сваім выхаванцам.**

**Пачалася сустрэча песняй "Мама — наша сонца", якую напісала кампазітар А. Атрашкевіч на словы Т. Мушынскай, а закончылася вясёлым танцам дзяцей.**

**Атрымалася і цікава, і карысна — і школе, і маленькім чытачам, і аўтару.**

**Л. ІВАНКОВА**

## Будзе літаратурная прэмія імя К. Крапівы

**Рэдакцыя часопіса "Вожык" устанавіла штогадовую літаратурную прэмію ў галіне сатыры і гумару — імя Кандрата Крапівы, класіка беларускай літаратуры, першага рэдактара часопіса "Вожык".**

**Прэмія будзе прысуджацца за выдатныя сатырычныя і гумарыстычныя творы, надрукаваныя на старонках часопіса, і адметны ўклад у развіццё беларускай сатыры і гумару.**

**Кожны год 5 сакавіка, у дзень нараджэння знакамітага сатырыка і гумарыста К. Крапівы, лаўрэату прэміі будзе ўручацца спецыяльны дыплом і грашовая ўзнагарода.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

АДГАЛОСКІ

# Няма павагі да мовы — няма павагі да сябе

Чытала артыкул глыбокапаважанага мною Ніла Гілевіча "Бальшавізм прадаўжаецца", а ў душы рой пачуццяў і пытанняў.

Лёс нашай мовы... Колькі сказана аб ёй, гаротнай! Ды толькі зруху ніякага няма. Ці ў тым толькі справа, шаноўны Ніл Сымонавіч, што над мовай нашай чыніўся і чыніцца здзек? Бяда наша ў тым, што здзекуемся са свайго слова мы самі. Балюча, але трэба прызнацца сабе ў тым, што мы нейкім незразумелым чынам дзелім цэлае, непадзельнае — народ — на сябе і іх. Хто гэтыя яны? Гэта тыя, "хто... яе (мову. — **З. Ш.**) не любіць і не паважае, хоць часам і мусіць пакарыстацца..."

Вось тут, Ніл Сымонавіч, падстава для роздуму. Давайце паглядзім наўкол! Паглядзім і паслухаем. Дзе мы пачуем роднае слова? Можна, канечне, прыгадаць свой асяродак, рэдкія выпадкі службовага карыстання словам (выкладчыкі роднай мовы, напрыклад, дый то далёка не заўсёды). Але хто мы ў родным доме?! Дзівакі, як гэта ні сорамна і ні балюча. Дзіўны і страшэнны факт — быць беларусам на чужыне куды лягчэй і натуральней, чым у роднай Беларусі.

Восенню мне пашчасціла пабываць у Трускаўцы. Божа мой, як хораша! Куды б ты ні пайшоў — ты на Украіне. Да цябе ўсюды звяртаюцца па-ўкраінску, і сказаць у адказ па-руску не паварочваецца язык. Ты нават ні на хвілінку не задумваешся, як сказаць. Натуральна і проста, як з людзьмі свайго асяродка, гаворыш па-беларуску. І нікога гэта не дзівіць! Ніхто не рэагуе ні паглядам з-пад ілба, ні паблажлівай усмешкай, ні заўвагай кшталту: "Надакучыла ты са сваёй беларускай мовай"...

Калі тут чуеш рускую гаворку, так і знай — гэта беларусы. І менавіта сярод сваіх суайчыннікаў ты і будзеш "выкапнем". Будуць дружна гадаць, кім ты працуеш, здзіўляцца, абурацца. Усялякую рэакцыю сустрэнеш, не будзе толькі аднаго — спакойнага роднага слова ў адказ на тваё, не будзе звычайнай сустрэчы землякоў, прадстаўнікоў *аднаго народа*. Чаму? Вось яно, наша сакральнае пытанне. Роднае слова не ёсць знак яднання, як ва ўсіх народаў.

У далёкім 87-ым я стаяла ў чарзе па цукеркі ў літоўскім Каўнасе. Шакаладных медалькаў заставалася некалькі штук, калі да мяне падышла чарга. Гандлярка звярнулася да мяне па-літоўску, але я яе не зразумела. Тады жанчына, што стаяла за мною, сказала нешта па-літоўску гандлярцы. Шакаладныя медалькі былі аддадзены маёй суседцы па чарзе. Мусіць, здзіўленне ад таго яднання, якое адбылося праз слова на маіх вачах, не дало ходу маёй крыўдзе і абурэнню. Я атрымала ўрок, які не толькі паўплываў на мой светапогляд, але, можа, стаў вызначальным. Ці магчыма нешта падобнае ў нас? Чаму роднае слова не мае такой сілы? Знайсці адказ на гэтае пытанне зусім не проста. Ці адзін толькі складаны гістарычны шлях беларусаў і неабходнасць самазахавання сталі прычынай абыякавых, а часта і варожых адносін да свайго, крэўнага?

Хіба ж не было ўціску, тых жа паразаў у літоўцаў ды ўкраінцаў? Але ж яны пачуваюць сябе народам, а мы — давайце глядзець праўдзе ў вочы — не.

Сярод беларусаў, з якімі звёў мяне лёс у Трускаўцы, я знайшла толькі *дзвюх* беларусак, ды і тыя аказаліся палячкамі. Загаварыўшы са мной адразу па-беларуску, яны ўпарта настойвалі на тым, што абедзьве — полькі і нізашто не хацелі прызнаваць сябе нават беларускамі польскага паходжання. З якой цеплынёй я ўспамінаю вас, мае дарагія беларускія полькі, — Сабіна Іванаўна ды Караліна Адамаўна. Як нялёгка знайсці прытулак сэрцу сярод свайго народа, Ніл Сымонавіч. Думаю, вы гэта ведаеце вельмі добра.

Адсутнасць самапавагі, пачуццё непаўнавартасці — наша адметная рыса.

Там жа, у Трускаўцы, я чула і бачыла ўкраінскі хор. Штодня збіраліся адпачываючыя на свае спеўкі. Якая гэта асалода — чуць украінскі хор, што складаецца з людзей, выпадкова сабраных разам. Якая моц і які размах у гэтых песнях пра маці, каханне, "рідненьку Украіну", якія з аднолькавым захапленнем і любоўю спяваюць селянін і гараджанін, настаўнік і рабочы, навуковец і гандляр, менеджэр і культработнік (я спецыяльна апытала харыстаў). Вось найлепшы сімвал нацыянальнага яднання. І тут няма падзелу на "нас" і "іх".

Гэты хор я з болем у сэрцы ўспамінала, калі на Каляды запрасілі ў клуб "жаніць Цярэшку". Колькі паэзіі і шляхетнасці ў абрадзе, што гучаў як адгалосак не такога далёкага мінулага (што там нейкія 50 год для гісторыі!), колькі светлага і радаснага для душы ў прыпеўках, гульнях! Але ж як балюча чуць ад 70-гадовых мужчын і жанчын чужое слова ў родным фанетычным уборы. Быццам нам няма чым ганарыцца і няма за што сябе паважаць. Была ж спадчына, дык чаму мы яе не трымаемся, чаму гатовы ўзяць чужое і не хочам берагчы свайго? Дзе вытокі такога самазабыцця і прычыны ўсеагульнага *адчужэння*?

Што тычыцца роднага слова, тут увогуле становішча жахлівае. Нават настаўнікі роднай мовы, на жаль, не выключэнне. На пачатку студзеня давялося пабываць на абласной алімпіядзе па беларускай мове. Пра ўдзельнікаў алімпіяды не гавару: па-за межамі конкурсаў амаль усе гаворыць па-руску, нават тады, калі пішуць вершы на роднай мове. Але ж і сярод выкладчыкаў не пачуеш чыстай мовы, а то і зусім не пачуеш роднага слова! Пра шматлікія выпадкі вымаўлення мяккага "ч" сярод настаўнікаў, арганізатараў алімпіяды, членаў журы (работнікаў педуніверсітэта, дарэчы) гаварыць увогуле не прыходзіцца.

Міжволі ўспамінаецца Украіна, дзе і бацькі і дзеці гавораць адною мовай. У невялічкай майстэрні па рамонце абутку разгаварылася з майстрам, чалавекам сярэдніх гадоў, пакуль ён мяняў мне набойкі на абцасах. Узровень яго свядомасці не проста здзівіў мяне — уразіў. У адказ на маё захапленне іх адзінствам ён сказаў: "Ды які ж ты ўкраінец, калі не ведаеш роднай мовы". Праўда, заз-начыў пры гэтым, што ўся Украіна не можа пахваліцца такім адзінствам падыходу да пытання аб роднай мове.

У нас жа што ўсход, што захад — усё роўна. Павагі да свайго, роднага няма, як няма павагі да саміх сябе.

**Зоя ШКЛЯНІК**

*в. Бабынічы, Полацкі р-н*

ВЫСТАВЫ

# Беларускія відарысы

Так называецца выстава твораў Мікалая Пушкара, якая адкрылася ў зале Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры з удзелам Беларускага камітэта Міжнароднага савета музеяў (ІКОМ) і Мазырскага краязнаўчага музея.

Мікалай Пушкар — мастак надзвычай яркі, самабытны. Яго працы ў жанры дробнай пластыкі далі пачатак своеасаблівай плыні ў мастацкай кераміцы. Яго малыя гліняныя скульптуры асвечаны народным гумарам, многія з іх народжаны палескімі легендамі і паданнямі. І ў кожнай — свой характар, свой вобраз, узяты з жыцця палешукоў.

Мікалай Пушкар пражыў вельмі складанае жыццё. Ён нарадзіўся ў 1919 годзе на Украіне ў сям'і вясковага іканапісца. Рана страціўшы бацьку, у дзіцячым узросце пазнаў жабрацтва і беспрытульнасць. Лёс прывёў яго ў дзіцячую працоўную калонію імя М. Горкага, якую ўзначальваў вядомы педагог Антон Макаранка. Менавіта ён адыграў вялікую ролю ў жыцці падлетка, адправіўшы яго на вучобу ў Харкаўскае мастацкае вучылішча, пасля заканчэння якога малады мастак некаторы час выкладаў маляванне ў школе. З вайной пачаўся самы складаны перыяд яго жыцця. Ваяваў танкістам і трапіў у палон, дзе зведаў усе жахі фашысцкага канцэнтрацыйнага лагера. Пасля вызвалення сталінскі рэжым "аддзячыў" салдата пятнаццаццю гадамі зняволення. Адсядзеў дзевяць гадоў і быў рэабілітаваны.

У канцы пяцідзесятых гадоў прыехаў жыць у Мазыр і менавіта тут, у палескім краі, ён сфарміраваўся як мастак. У хуткім часе яго творчасць стала шырока вядома. Яго запрашаюць да ўдзелу ў выставах самага высокага рангу. Дастаткова сказаць, што М. Пушкар удзельнічаў амаль у 300 выставах, многія з якіх былі персанальнымі.

Мне давялося неаднаразова наведваць Мікалая Пушкара ў яго майстэрні ў Мазыры, сустракацца на розных выставах. На першы погляд не вельмі ветлы, са складаным характарам, Мікалай Мікітавіч быў вельмі добразычлівым да тых, каму мог даверыць. І тады раскрывалася яго светлая душа, ён так і сыпаў жартамі, прымаўкамі. А з твару не сыходзіла хітраватая ўсмешка, так характэрная для герояў яго твораў.

**Яўген КАЗЮЛЯ**



*На здымку: Мікалай Пушкар у сваёй майстэрні ў Мазыры (1988 год).*

*Фота аўтара*

# Адкрылася новая галерэя

Новая галерэя сучаснага мастацтва "P.S." адкрылася ў мінскай кніжнай краме "Кніжны свет" на праспекце Машэрава, 51. У краме зараз гаспадарыць Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў (БелАКК). Імкнучыся наладзіць там кнігагандаль, дый увогуле надаць краме пэўны еўрапейскі імідж, асобную залу перарабілі пад мастацкую галерэю. БелАКК добра вядомая сярод мастакоў як арганізатар выставаў-конкурсаў "Мастак і кніга", што адбываюцца на Беларусі апошнія пяць год і набылі немалую папулярнасць сярод мастакоў. Вялікую дапамогу ў распрацоўцы канцэпцыі новай галерэі яе дырэктару Таццяне Церашковіч аказаў Беларускі саюз мастакоў, асабліва рэферэнт, мастачка Ірына Кузняцова. Яна прапанавала аддаць плошчу галерэі менавіта маладым мастакам, студэнтам, чаргаваць выставы пачаткоўцаў з майстар-класамі вядомых мастакоў. У галерэі ўжо адбылася выстава жывапісу З. Луцэвіч і скульптуры К. Селіханава, прайшла новая экспазіцыя студэнтаў-графікаў чацвёртага курса Беларускай акадэміі мастацтваў Таццяны Восіпавай, Алены Воўчак, Любові Абрамавай, Юліі Качаргіной, Яны Аляксеевай, Вольгі Войткі, студэнта трэцяга курса БелАМ Паўла Лявонава.

Галерэя мае немалую плошчу, зацікаўлена ў супрацоўніцтве з моладдзю. На сённяшні дзень, як адзначыла І. Кузняцова, гэта мае важнае значэнне, бо маладым даводзіцца і майстэрню чакаць гадамі, і выстойваць чаргу на выставу ў Палацы.

Для дзяўчат-графікаў гэта выстава таксама стала этапам творчага сталення, навукай працаваць супольна над адзінай экспазіцыяй і канцэпцыяй. Маладыя мастакі назвалі выставу "Тыдзень" — па ліку ўдзельнікаў і дзён тыдня. Як зазначыў на адкрыцці выставы загадчык кафедры графікі БМА Уладзімір Вішнеўскі, яго цешыць такая творчая самастойнасць вучняў, пошукі імі новых сродкаў выяўлення, новых тэм. Усё гэта сведчыць, што беларуская школа графікі развіваецца. Адзінае, што засмучае і што хацелася б пажадаць гэтаму амаль на дзевяноста працэнтаў (на курсе — адзін хлопец сярод шасці дзяўчат) дзявочаму калектыву, не згубіцца ў віхуры бытавых праблем пасля заканчэння акадэміі. На жаль, горкая практыка папярэдніх выпускаў даводзіць, што з большасці таленавітых дзяўчат-мастачак на "вялікі" творчы шлях "вырываецца" добра калі адна-дзве. Хочацца спадзявацца, што гэты курс будзе выключэннем.

Нядаўна ў галерэі адкрылася новая экспазіцыя. Неэмацыянальную, геаметрычную графіку Таццяны Радзівілкі згарманізоўваюць у прасторы скульптурныя фантазіі Ігара Засімовіча...

# Эканоміка павінна быць...

## ПСЕЎДАНАВУКОВЫЯ НАТАТКІ ДЫЛЕТАНТА

— **НЕ ВЕДАЦЬ** эканоміку — сацыяльна-палітычнае невуцтва! — чыраванеў і абражаўся мой тэхнікумаўскі выкладчык. — Не, залік я табе, Рагін, пастаўлю — мне не шкада. Але не адчэпішся ад гэтай навукі да скону дзён. Абавязкова за горла возьме!

Прайшло гадоў дваццаць. Прароцтвы настаўніка збыліся. Пакутую неймаверна. Па начах, калі стомленая сацыялістычнымі эксперыментамі дзяржава захліпаецца ў нездаровым сне, мне не да спакою. Жахлівай пачвараю навісае штосьці чорнае і скрушнае. Халоднымі лапамі хапае за горла, спрабуе глянуць у вочы, рагоча без прычыны, дакучліва пераконваючы ў росце вытворчасці валавога прадукта. Гэтае дзіўнае стварэнне — эканоміка. Я яе не разумею, а таму баюся. Яна наша, "невыязная". Яна сілкуецца толькі тутэйшымі і жыве толькі тут. "З горам лёг і з горам устаў... Ой, гора ж маё!".

•

Заходні навуковец Людвіг Эрхард марыў пра эканоміку свабоднай канкурэнцыі. "Дзяржава, якая перашкаджае грамадзянам разгарнуць свае сілы і здольнасці, злоўжывае ўладай", — нястомна даводзіў ён сваім суайчыннікам. Суайчыннікі паверылі. Як сцвярджае эканаміст Канстанцін Скуратовіч, у цяжкім 1948 годзе аб'ёмы вытворчасці ў Заходняй Германіі склалі 57 працэнтаў ад узроўню даваеннага 36-га, а ў сярэдзіне 1950 года скокнулі аж да 107 працэнтаў. Упартыя немцы чамусьці заўжды жылі толькі для сябе. Аднак у кожнага свае інтарэсы, у кожнага свая эканоміка.

•

Кепская справа — лічыць чужыя грошы. Але, калі хранічна не стае сваіх, з чорнай зайздрасцю назіраеш за тым, што робіцца за роднымі весніцамі. Знаёмая японка з-пад Нагасакі, якая зрэдку наведвае Мінск па чарнобыльскіх справах, прыгадала неяк у размове, што звычайная медсястра на яе радзіме пасля дзесяцігадовага працоўнага стажу атрымлівае ў месяц каля трох тысяч долараў. І, пазіраючы на мяне, не без павагі дадала: "Ты працуеш у прыстойнай дзяржаўнай газеце. Ты, натуральна, вельмі заможны чалавек!" Я не слухаў яе. Я марыў нарадзіцца (даруйце, патрыёты!) у сям'і патомнага самурая дзе-небудзь ля падножжа Фудзіямы.

•

Два светы — два лады жыцця. Банальная і горкая ісціна... Шараговы італьянскі настаўнік шараговай (правінцыйнай) школы за сваю штомесячную працу ўзнагароджваецца (заўважце, слова якое дакладнае і прыгожае!) уласнай дзяржавай не горш, чым японская медсястра. Ягоная прафесія (як і пайсоль за мяжой) — бадай, самая пашанотная і адказная. Як жа інакш! Ён выхоўвае і ставіць на крыло сапраўдную змену сапраўднай нацыі. Таму колькасць урокаў на тыдзень — самая мінімальная. Каб грунтоўна падрыхтавацца да кожнага, каб застаўся час на самаадукацыю, каб не бавіць у класе час, а вучыць — цікава і эфектыўна. Таму кожны ўрок — свята. І для педагога, і для вучня... Нашага айчыннага настаўніка лёгка пазнаць па тужлівым зацкаваным позірку, па нудліва стомленай заклапочанасці. Для таго, каб зарабіць у месяц пад сто долараў (з вышэйшай настаўніцкай катэгорыяй і пры больш-менш важкім працоўным стажы), ён вымушаны "цягнуць" двайную гадзінную нагрузку — а гэта па сем-восем урокаў у дзень (як правіла, у дзве змены), пастаянная праверка незлічоных вучнёўскіх сшыткаў (да сотні штодня), класнае кіраўніцтва з рэгулярнымі наведваннямі сем'яў адстаючых школьнікаў, гурткі, факультатывы, замены. Так што наш настаўнік (пры ўсёй маёй павазе да яго фанатычнай сумленнасці) не столькі вучыць, колькі зарабляе — "сячэ капусту". Яму фізічна не стае часу ўспомніць пра тое, што грошы нармальнаму чалавеку ў нармальнай дзяржаве патрэбны для таго, каб на іх не звяжаць...

Незразумелы магнетызм статыстычных параўнанняў! Пасля наведвання нашых крам чамусьці пастаянна цягне супаставіць заробкі пухавіцкага калгасніка з даходамі, скажам, шведскага фермера...

•

Але досыць.Хопіць параўнанняў! Усё гэта ад эканамічнага невуцтва. І колішняга студэнцкага гультайства. У падсвядомасці, на нейкім мяшчанска-абывацельскім узроўні, я ўсё разумею і без статыстычных табліц з дыяграмамі. Японцы, немцы, італьянцы ў свой час не пакашталі крывавага смаку кастрычніцкай рэвалюцыі. Яны па буржуазнай наіўнасці сваёй проста ўважліва, без мітусні і палітычных забабонаў прачыталі "Капітал" Маркса, шматзначна сказалі: "Ага!" І спакойна пайшлі сваім шляхам. Японскім, нямецкім, італьянскім. Не, гузакоў на ім набілі процьму. Але, на іхняе шчасце, Савецкі Саюз надоўга заставаўся каштоўным (бясплатным) наглядным прыкладам, як рабіць не трэба. Так што пайшлі, дайшлі і знайшлі. І зрабілі гэта больш-менш упэўнена пад рознакаляровымі сцягамі самых розных нацыянальных ідэй. З імі, замежнымі і сытымі, усё зразумела. Як быць з намі?

•

— Што такое рынкавы сацыялізм? — наіўна пытаюся у знаёмага камерсанта (натуральна, былога настаўніка).

— Адсутнасць цывілізаванага рынку, — адказвае той са злой катэгарычнасцю. — Абдзіралаўка. З прадпрымальнікаў выжываюць той, хто прыхаваў частку даходаў ад падатковай інспекцыі. Прыватных інвестыцый у дзяржаўны бюджэт — ніякіх. Пакутуюць усе, у першую чаргу сацыяльна неабаронены люмпен. Сацыяльныя гарантыі — ледзь не міф. Пенсіі з лютага хоць і павялічылі, але ж і цэны не адсталі...

Доўга разважаю над сказаным. Ведаў не хапае. Мяне лёгка абдурыць. Майму колішняму настаўніку недзе добра ікаецца. Дай яму Бог здароўя! Нутром адчуваю, што "прыхаваў частку даходаў", гэта — не скраў (ці можна скрасці ў самога сябе?!). Мроіцца штосьці надта ідэалістычнае: дзяржава з кожным днём упэўнена багацее толькі ад таго, што бесперашкодна багацеюць яе грамадзяне. Далёкая ад ідэалу ява — проста забытая частка нейкай вялізнай эканамічнай гульні, правілы якой ведаюць, мякка кажучы, не ўсе. Тым больш, я... Згаджаюся і з тым, што рынкавая эканоміка без сацыяльнага страхавання — мыльны пухір, не больш чым здзек. Ад сённяшняга "сацыялізму" кожны сябе страхуе сам. Хто хабарамі, хто пасадамі і прывілеямі, хто фізічнай сілай, а хто сапраўдным раскраданнем таго, што кепска ляжыць. Звычайныя да суму "таварна-грашовыя" адносіны немаведама якога сацыялізму. І пры чым тут рынак?

•

— Жанчына, вы ж не ў магазіне! — ушчувае занудлівую жанчыну пакупніцу гаспадар базарнага латка са смятанай. — Калі штосьці не задавальняе — умейце таргавацца. Пераканаеце — абавязкова пайду насустрач!

Надта ж здзіўленая і бясконца ўзрадаваная жанчына не без задавальнення таргуецца. А гандляр, які, як агню, баіцца канкурэнта-малочніка на другім канцы рынку, хуценька саступае ў цане. І дадае ну зусім па-купецку:

— А слоік вам, паважаная, — бясплатна!

Жанчына сыходзіць, але заўтра абавязкова прыйдзе толькі сюды (няхай і са сваім слоікам, як і папярэджвае гандляр), смятану купіць толькі ў яго. Ён яе ўразіў, пераканаў, перамог. Дык што там казаў Эрхард пра эканоміку свабоднай канкурэнцыі?! Стаю побач і падлічваю. Хоць і натужліва, але прыходжу да высновы, што кошт слоіка, прыблізныя выдаткі на вытворчасць з лішкам кампенсуюцца "вытарганай" цаной. Хітры дзядзька-гандляр даўно дацяміў, як пераўтварыць звычайную павагу да пакупніка ў паўнавартасны рубель чыстага прыбытку... "Рынак — ён і ў Афрыцы рынак", — шматзначна і важна тлумачыць дзядзька. Ён ведае сабе цану. Як, зрэшты, і мне. А ад суседняга латка ўжо навязліва даносіцца:

— Людцы, купіце бульбачку! Не ў калгасе вырашчаная — на ўласным агародзе. Ніякай хіміі. Чыстая — як ваша сумленне! Сам бы еў, ды грошы трэба...

Рынак! Пры чым тут сацыялізм?

•

Я не разумею многага. Да прыкладу, як наш пухавіцкі калгаснік можа саступіць у спрактыкаванасці нейкаму спешчанаму перспектывамі шведскаму фермеру. Не разумею! Там у іх занята сельгасвытворчасцю 2 працэнты насельніцтва, тут у нас — 31? Ну і што! Тут доля ручной працы на фермах і палетках складае каля 56 працэнтаў, там — усё да драбніц механізавана? Якая розніца! Што для шведа радасць — для беларуса смерць!

Знаёмая прыдбала дзесьці за Нараччу хацінку-дачу. Бульбачку пасадзіла, кветкі. Абжылася, абзнаёмілася — і пацягнуліся да яе людзі. Ну, ёсць у жанчыны нейкі надзвычайны талент — падабаецца яна вяскоўцам, хоць разбіся. Яны не толькі ў тамтэйшым калгасе завіхацца паспяваюць, але й не без поспеху і на ейным дачным падвор'і. Дроў падвезці, траву скасіць, малачка занесці. Працавіты народ! Ніколі міма не пройдуць — заўжды заскочуць. А ўсё таму, што за кожную, нат дробязную, паслугу жанчына **плаціць**. І не праз паўгода, а ў гэты ж дзень. Тавар — і адразу ж грошы! Нават уперад шчодра пазычае. Кландайк для тутэйшых! Швейцарскі банк і маці Тэрэза ў адной асобе. Ды гэтым, нарачанскім, плацілі б своечасова на дзяржаўнай працы, ды замест калгаса хаця б крыху паэфектыўней што-небудзь прыдумалі, яны б, гэтыя няўрымслівыя нарачанскія, таго шведскага разбэшчанага фермера акурат па макаўку закідалі б бульбай, гуркамі ды кілбасамі. Дальбог!

•

Для цікаўнасці раскрываю энцыклапедыю. "Эканоміка" — **гаспадарчы** уклад грамадства. "Эканамічны" — **выгадны**. Як я разумею, выгадны не каму-небудзь, а ў першую чаргу акурат **нам**. І чамусьці проста пераканаюць, што выгадная эканоміка (даруйце за таўталогію) павінна быць **нацыянальнай**.

Мо я памыляюся, але ў любой дзяржаве тры цесна ўвязаныя, узаемападаўняльныя складнікі рухальнай прагрэсіўнай сілы: эканоміка — палітыка — культура, аб'яднаныя адзіным нацыянальным інтарэсам. Любы замежнік з пачуццём глыбокага задавальнення штодня здзьмухвае пылінкі са свайго дзяржаўна-нацыянальнага сцяга зусім не па прычыне гэткага вытанчанага эстэцтва. Проста менавіта гэты сцяг для яго — жалезны гарант стабільнай эканомікі, якая жорстка, але мэтанакіравана дыктуе палітыку (унутраную і знешнюю), ні на хвілю не забываючыся на ўласную культуру. Дылема, што першаснае — матэрыяльнае ці духоўнае, — вырашаецца сама па сабе. Быць свядомым грамадзянінам сваёй дзяржавы **выгадна эканамічна**. Таму сапраўдны грамадзянін сапраўднай дзяржавы ганарыцца сваёй самабытнасцю, шматвекавой гісторыяй, традыцыямі і культурай, з годнасцю і задавальненнем памнажае іх і ўмацоўвае, не забываючыся пры гэтым жыццярадасна знішчаць чарговы хот-дог ці гамбургер...

Няўжо сапраўднае беларускае трымаецца сёння толькі на культуры, найбольш яркія праявы якой назіраюцца не інакш як у літаратуры і мастацтве?! Пісьменнікі — пішыце! Мастакі — малюйце! Кампазітары — складайце паланезы і ўверцюры! Інакш проста загінем...

•

Доўга не было польскай эканомікі. Не, Польшча, натуральна, існавала, як існавала і тамтэйшая эканоміка, навязаная ў спадчыну "савецкімі сябрамі" з усходу. Ганарлівыя палякі, знясіленыя палітычнымі крызісамі, ледзь не страцілі патомную ганарлівасць. Мабыць, толькі шляхецтва на генным узроўні змагло выпрацаваць імунітэт на ўсё антынароднае (савецкае), асноўны прынцып якога — "Не тваё, а наша, а значыць — нічыйнае". Разабраўшыся з камуністамі, палякі зацята і вельмі салідарна ўзяліся за ўзвядзенне таго, што прынята называць нацыянальнай дзяржавай. Як і заўжды ў часіны перамен, не ўсё атрымалася зразу. Амерыканізацыя, рэзкі і хваравіты падзел на багатых і жабракоў, цяжар пачатковага этапу станаўлення сапраўды рынкавых адносін... Урэшце кожны зразумеў, што размаўляць па-польску — выгадна, купляць толькі польскае — не толькі патрыятычна і высакародна, але таксама й эканамічна выгадна. І ніякіх тут цудаў. Іх проста не бывае ў сапраўднай эканоміцы! Эканамічная залежнасць ад штодзённых нястомных намаганняў павысіць **рэальныя** грашовыя даходы насельніцтва абавязкова вядзе да незалежнасці нацыянальнай. Баюся быць катэгарычным, але іншых шляхоў да людскага жыцця проста няма!

•

Віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Георгій Бадзей паведамляе ў друку, што кожнае пятае прадпрыемства ў рэспубліцы — стратнае, кожнае чацвёртае не мае абаротных сродкаў, палова прадпрыемстваў — патэнцыяльна стратныя, запасы гатовай прадукцыі на складах у беларускім машынабудаванні склалі месячны запас аб'ёмаў вытворчасці, а ў лёгкай прамысловасці — перавысілі. Кажуць, ва ўмовах сучаснага рынку — галоўнае не так зрабіць, як прадаць. Не ведаю, мне цяжка меркаваць пра завышаныя сабекошты, дэбіторскія запазычанасці, палітыку цэнаўтварэння і "эвалюцыйныя этапы эканамічных пераўтварэнняў". Я ў чарговы раз хапаюся за тэхнікумаўскі падручнік па эканоміцы (у свой час не выкінуў — захаваў на памяць), але прага эканамічнай самаадукацыі знікае пасля першых жа старонак. Агідна страшэнна, хоць і падазраю, што маёй неадукаванасцю хтосьці пастаянна карыстаецца.

•

Цыклічнасць беларускага жыцця добра прасочваецца шостага і дваццатага кожнага месяца, калі ў цесна набітым грамадскім транспарце рабочы клас пасля напружанай змены патыхае свежым перагарам толькі што атрыманых авансаў і палучак. Праз некалькі дзён пасля знакавых месячных дат усе размовы на кухнях зноў зводзяцца да аднаго: "Дзе ўзяць грошай?!" Маятнікавая безвыходнасць жыццёвай бездапаможнасці. Культ грошай мацнейшы за культ асобы. Нашы суседзі прайшлі праз гэта. Мы толькі падступаемся, сумна ўглядваючыся ў неадольныя вышыні пачатковага этапу назапашвання капіталу. Пахмельны і злы сусед пасля чарговых пошукаў нейкай ісціны ў чыноўніцкіх кабінетах па-філасофску канстатуе: "Ежы стала менш, затое колькі г...а!". Так, не ўсё яшчэ адпавядае Марксу. Багатыя пакуль не баяцца бедных. Гэтае "пакуль" расцягваецца на дзесяцігоддзі. Багатых задавальняе стан сённяшніх спраў. Бедных — таксама. Ім проста няма чаго адстойваць. Штосьці карэнным чынам можа змяніць уласнік, але пад беларускім сонейкам ён хутка губляе здаровы колер твару і бляск эканамічнай зацікаўленасці ў вачах. Шараговы беларус між тым не жыве, а зарабляе — працуе і падпрацоўвае. Без асаблівага канчатковага выніку. Да стабільнага ўежнага дабрабыту — як да неба. Прыбіральшчыца супермаркета атрымлівае прыблізна столькі, колькі прафесар-навуковец. І гэта зусім не доказ таго, што гандаль наш апярэджвае ў развіцці навуку... Я не супраць колькасці багатых, я супраць колькасці бедных. Але штосьці з чымсьці пастаянна не стыкуецца, не спрацоўвае. Што канкрэтна — не разумею...

І па-ранейшаму пытанне "Колькі зарабляеш?" пераважае над пытаннем "Дзе працуеш?"

•

Штогод процьма нашых беларускіх дзяцей-чарнобыльцаў выязджаюць за мяжу. На летняе (і не толькі) аздараўленне іх запрашаюць ірландскія, нямецкія, італьянскія сем'і. Скажу шчыра, доўга не верыў у бескарыслівасць замежнай міласэрнасці. Ну, якая, сапраўды, выгода іншаземцам ад таго, што ў іхніх сем'ях некалькі месяцаў запар жыве чужое дзіця. Так, сям'я пазбаўляецца ад пэўнай часткі падаткаў. Але ж атрымлівае ўзамен лішні тлум і клопат. У чым справа? Аказваецца, у тым, што далёка не ўсё тлумачыцца на гэтым свеце катэгорыямі матэрыяльнымі і канкрэтнымі. Калі ў цябе ўдастатку рэчаў празаічных і рэальных (праца, кватэра, дача, машына з яхтай), хочацца ўрэшце чаго-небудзь гэткага вечнага і досыць абстрактнага. Сумлення, напрыклад, уласнага гонару, цеплыні, любові і дабрачыннасці. Словам, здаровая эканоміка непрымусова і ненавязліва падштурхоўвае чалавека ўсвядоміць, што ён — чалавек. Да гарчэчы простая ісціна! Як ні круціся, але чым хутчэй мы, беларускія пачаткоўцы, возьмемся яе засвойваць, тым хутчэй зразумеем, што й мы не горшыя, што й мы нарадзіліся не для пакут, а для жыцця. Дык бярыце ж у рукі грыфельныя дошкі, хутчэй пачынайце выводзіць, без арфаграфічных памылак і падказак, прыгожа і каліграфічна: "Мы не рабы..."

•

Даруй, мой колішні тэхнікумаўскі настаўнік, я і па сёння не надта ўсведамляю, што такое эканоміка. Неаспрэчна адно — яна проста павінна быць. Быць сваёй, блізкай і роднай, бо мачаха ніколі не заменіць маці, а чужы салодкі хлеб па смаку — ні ў якае параўнанне з горычу вырашчанага ўласнымі, хоць і няўмелымі пакуль рукамі. А мазгі і рукі ў нас, дзякаваць Богу, яшчэ засталіся.

**Яўген РАГІН**

**P. S.** *Прашу прабачэння ў дасведчаных за ўсе эканамічныя хібы і недакладнасці. Што возьмеш з дылетанта...*

**Я. Р.**

## Касцюм жыхароў Беларусі




**По тым, як чалавек апранаецца, можна шмат чаго даведацца пра яго. Аднак не будзем забываць, што касцюм, калі можна так сказаць, развіваўся ў залежнасці ад эканамічных асноў жыцця, а таксама — не трэба здзіўляцца — палітычнага становішча. Таму ён, як адно з праяўленняў матэрыяльнай культуры, з'яўляецца крыніцай па вывучэнні этнічнай гісторыі народа, а таксама яго культуры, сувязей з іншымі народамі. Пра гэта можна даведацца з "Уступу" да кнігі Людмілы Дучыц "Касцюм жыхароў Беларусі X—XIII стст.", выпушчанай выдавецтвам "Беларуская навука". Дарэчы, гэта другое выданне: першае выйшла ў 1995 годзе ў тагачасным выдавецтве "Навука і тэхніка". Цікавасць да кнігі невыпадковая, бо ёсць магчымасць перанесціся на некалькі соцень гадоў назад і даведацца, як апраналіся нашы продкі ў шырокім значэнні гэтага паняцця, бо "адзенне, — як сведчыць Л. Дучыц, — уключае ў сябе розныя віды покрываў чалавека — бялізну, наплечнае і паяснoе адзенне, шкарпэткі, абутак, галаўныя ўборы. Адзенне, дапоўненае аксесуарамі, упрыгожваннямі і прычоскай, складае касцюм. Па касцюму можна меркаваць і пра мастацкі густ людзей. На кожным гістарычным этапе адзенне змянялася па матэрыялу, крою, колеру, эстэтычнаму афармленню. Мода заўсёды ўяўляла сабой сінтэз усіх відаў мастацтва". У недасведчанага чытача можа ўзнікнуць пытанне, а як можна даведацца, калі карысталіся тым ці іншым адзеннем тыя, што жылі вельмі даўно да нас? Ды і не так складана, паколькі захавалася нямала крыніц. Найперш — летапісы, манументальныя роспісы, а яшчэ — абразы, вырабы дробнай пластыкі. Асаблівую цікавасць для навукоўцаў пры даследаванні гэтага пытання ўяўляюць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, агульная колькасць якіх дасягае 618. На іх адлюстраваны розныя бакі жыцця народа. Не абыдзены і народныя святы. Праўда, на падставе ўсіх гэтых матэрыялаў можна атрымаць уяўленне аб святочных уборах. "Асноўнай жа крыніцай для вывучэння касцюма пачатку 2-га тысячагоддзя, — зазначае аўтар кнігі, — асабліва вясковага, з'яўляюцца археалагічныя даныя, у прыватнасці вынікі раскопак пахаванняў". Аднак і ў гэтым выпадку пахавальны ўбор набліжаецца да святочнага. Кніга "Касцюм жыхароў Беларусі...", як значыцца ў яе падзагалоўку, і напісана "паводле археалагічных звестак", дзякуючы якім з'явілася магчымасць лепш уявіць убранні нашых продкаў. Да праблемы, што даследуецца, Л. Дучыц падыходзіць усебакова, а таму закранаюцца розныя яе аспекты. Аб тым, наколькі аўтар імкнецца не прапусціць нічога больш-менш важнага, відаць і з назваў раздзелаў: "Тканіны і асноўныя віды адзення", "Галаўныя ўборы", "Упрыгожванні і рэчы туалету", "Скураныя дэталі касцюма і абутак", "Сялянскі касцюм і яго рэгіянальныя асаблівасці", "Касцюм гараджан", "Касцюм знаці". Дарэчы, людзі вельмі даўно зразумелі, што хадзіць усё ж лепей апранутым: "Па палеалітычных выявах чалавека, малюнках на костках жывёл і старажытных пахаваннях устаноўлена, што ўжо ў палеаліце шылі футравае адзенне, якое закрывала ўсё тулава і галаву, а таксама штаны, накідкі накшталт сучасных плашчоў. Адзенне зашпільвалася касцянымі гузікамі. Упрыгожванні рабіліся з ракушак, клыкоў жывёл, костак. Ведалі і абутак". А спрабаваць апранацца пачалі і таго раней, калі пачалі выкарыстоўваць для гэтага шкуры жывёл і расліны, пераплятаючы і накідваючы на плечы і сцёгны. Кніга чытаецца з вялікай цікавасцю, бо мае нямала матэрыялу, які не лішне ведаць кожнаму. І ўвогуле — пазнавальнае значэнне яе вельмі вялікае, не кажучы, зразумела, пра навуковыя вартасці. Бадай, толькі нямногія ведаюць, што "для вырабу адной пары лапцей трэба было загубіць тры-чатыры маладыя ліпкі. Сярэдні тэрмін ноcкі ліпавых лапцей з патоўшчанай падэшвай складаў месяц", а лёгкія "з вязанага лыка рэдкага пляцення ці бярозавыя лапці вытрымлівалі не больш аднаго тыдня". Вялікі інтарэс выкліча і ілюстрацыйны матэрыял, дзякуючы якому можна яшчэ лепш уявіць, як выглядалі нашы продкі ў розным адзенні.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Апошні цвік

Кніга апаведаў Ігара Сідарука "Квадратная варона" выйшла ў серыі "Проза пераходнага перыяду", якую выдавецкая суполка "Полацкае ляда" як быццам спецыяльна прымеркавала да тых, чыя творчасць не ўпісваецца ў звыклыя стандарты сучаснай літаратуры. Непадабенства, адрознасць твораў гэтага пісьменніка тым больш уражваюць, што напісаны яны ў традыцыйнай манеры, якая нагадвае прозу Коласа, Бядулі, Цёткі, а з пазнейшых — Быкава і ранняга Дударава. Апавяданні Сідарука на сённяшні дзень ледзь не лепшы ўзор экзістэнцыяльнай прозы, прозы, якая, незалежна ад абранай тэмы, будуецца на такіх паняццях, як жыццё і смерць, свабода і выбар, лёс і наканаванасць.

Напісаныя добрай, сакавітай мовай апаведы чытаць надзвычай цяжка — занадта вялікая ў іх канцэнтрацыя болю. Ужо пасля аднаго-двух твораў застаецца ўражанне, што цябе нібы засмоктвае ў цёмны вір. Штодзённае, бытавое, звыклае і ўтульнае жыццё ў творах Сідарука пагрозліва мяняе свой колер з шэрага на чорны, пазбаўляючы чытача нават таго адноснага душэўнага камфорту, да якога мы так ці інакш прыстасаваліся ў сённяшні няпросты час. Аднак, адмежаваўшыся ад творчасці гэтага пісьменніка банальным "чарнуха", мы былі б вымушаны прызнаць, што таго ж вызначэння заслугоўваюць і стаўшыя хрэстаматыйнымі "Пяць лыжак заціркі".

"Пяць хлябоў з Дабравесця" І. Сідарука перагукваюцца з апавяданнем Бядулі не толькі назваю. Галеча, голад, безвыходнасць, пакінутыя ў спадчыну продкамі, здаецца, і не пакідалі беларускіх абшараў... Твор напісаны настолькі моцна, што чытач забывае на ўласны дабрабыт, ён цалкам захоплены неверагоднай гісторыяй пра тое, як маці накарміла паміраючых з голаду дзяцей сэрцам бацькі. Майстэрства пісьменніка выявілася не толькі ў тым, што з'яднаўшы два вядомыя сюжэты — фальклорны і бядулеўскі, — Сідарук здолеў стварыць твор, які не можа не скалануць (іншая справа, што эмоцыі будуць розныя — ад спачування да агіды), а ў тым, што чытач аказваецца цалкам падпарадкаваны ўнутранай логіцы развіцця сюжэта, падпарадкаваны настолькі, што канцоўка апавядання, у якім дзеці нарэшце наеліся, успрымаецца ледзь не як хэпі-энд.

Увогуле, апошнія радкі апаведаў Сідарука патрабуюць асобнай гаворкі. Аўтар, здаецца, робіць усё, каб "дacіснуць" чытача, як быццам забіваючы ў труну апошні цвік. Труны, нябожчыкі і сапраўдныя цвікі — тыповы антураж яго фіналаў. Пра што б ні пісаў аўтар, твор павінен скончыцца сакраментальным "недзе наперадзе ўпарта не хацела ўзыходзіць сонца". У гэтым радку не толькі адлюстраванне змрачнаватага нават для сённяшняга часу светаадчування пісьменніка, але і алюзія на агульнавядомае выслоўе пра неабходнасць святла ў канцы тунеля. Сідарук рашуча адмаўляецца дарыць надзею, магчыма шчыра верачы ў асуджанасць нашага існавання. Найбольш яркае яго апавяданне "Цвікі былі добрыя" пра тое, як вяскоўцы ў адчаі ўкрыжоўваюць чалавека і марна чакаюць яго ўваскрасення, якое павінна стаць іх збавеннем. Біблейскі сюжэт разгортваецца на тле занядбанай людзьмі і богам вёскі, такой пазнавальнай у сваёй беднасці і дурасці, што становіцца не па сабе. У гэтым апавяданні асуджанымі здаюцца не толькі людзі, але і сам гістарычны час, які запавольваецца, расцягваецца, быццам імкнучыся расцягнуць чалавечы адчай.

У гэтай прыпавесці ёсць і яшчэ адна лінія — тыя самыя "цвікі", што далі назву апавяданню.

"Але ён не ўваскрасаў. І не ўзнасіўся. Мёртвае цела там-сям агалілася пад шэрабруднае поўсцю, беспрытульнымі шматкамі перакочвалася яна па зямлі. Змарнелае тоўпішча раптам замёрла, ня ў сілах адарвацца ад ашчэрнай усьмешлівай пашчы.

І толькі Дрон Качалка ляпіў вока не туды, куды ўсе. Плешкі новых, яшчэ не пpаржавелых цьвікоў-сотак моцна прыціскалі да дрэва сухія сабачыя лапы.

"А добрыя былі цвічкі. Шкада!.." — думаў Дрон".

На першы погляд, гэтыя ўжо зусім гратэскныя "цвікі" — апошні прысуд пісьменніка народу, збыдлеламу, азлобленаму, які здольны паверыць у які заўгодна цуд, але не ва ўласныя сілы. Аднак варта пачытаць канцоўку апавядання "Табе што — болей трэба?" каб зразумець, што аўтар імкнуўся да іншага.

Сюжэт гэтага апавядання-фантасмагорыі нескладаны. У звычайнай вёсцы без дай бог прычыны пачынаецца эпідэмія самазабойстваў. Самаахвотная смерць звязваецца ў свядомасці людзей з пачуццём абавязку. І толькі "куркуль" і "разумнік" Міхал Шпакоўскі, нягледзячы на ўгаворы і прысаромліванні аднавяскоўцаў, адмаўляецца ісці ўслед за ўсімі. Ён працягвае правіць стары разбіты зэдлік нават пасля таго, як на яго вачах Грынь Боўдзіла наклытаўся да смерці граззю.

"Міхал нейкі час тупа глядзеў на яго, а потым, нібы крадучы нешта, нібы робячы штосьці страшэнна забароненае, падцягнуў да сябе нагою, падняў з зямлі раскурочаны зэдлічак ды пачаў ціха-ціха, асцярожна-асцярожна заганяць крываваты цьвічок на сваё належнае месца".

Не працавітасць, не пэўная абыякавасць, адмежаванасць ад чужога лёсу (згадваецца вядомае беларускае — "мая хата з краю"), не сквапнасць, а менавіта спрадвечная беларуская куркулістасць як злучэнне гэтых паняццяў супрацьстаіць навале. Куркулістасць, як спосаб ратавання, — гэта, безумоўна, новы паварот у гаворцы аб самазахаванні нацыі.

Такім чынам, Сідарук вяртае нас да труізму — выратаванне ў нас саміх. Аднак жа хочацца нагадаць гэта ж і самому аўтару. І папярэдзіць — не варта занадта доўга сядзець каля труны з адчыненым вечкам, бо з яе такі выйдзе Маленькі чалавек і забярэ душу, знясіленую працяглай адсутнасцю святла.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

---

*Сідарук Ігар. Квадратная варона. "Полацкае ляда", 2000.*

УРАЖАННЕ

# Ведаўшы аўтара...

Дзеля чаго друкуюцца рэцэнзіі на кнігі? Дзіўнае, скажаце, пытанне, бо адказ загадзя вядомы. Дзеля таго, папершае, каб паразважаць пра вартасці і недахопы твора або зборніка твораў. Ну і, па-другое, дзеля таго, зразумела, каб падказаць чытачу: спытай у кнігарні ці ў бібліятэцы тое, што рэцэнзуецца. Цікава, пагодзішся з маім, рэцэнзентавым, меркаваннем ці не пагодзішся.

У дадзеным выпадку гэты другі складнік прымальнага ўвогуле тлумачэння не спрацоўвае. Кніжкі Яўгена Ганкіна "Крыло ангела" ў кнігарнях Беларусі не было і быць не магло. У бібліятэках ёсць хіба ў адной-дзвюх выпадкова, прэзентаваная сваякамі аўтара. Зборнік успамінаў, эсэ, нарысаў слыннага беларускага кінамастака выдадзены на рускай мове ў ЗША. Як пазначана выдаўцамі, "благодаря помощи и поддержке тех, кто любил и знал Евгения Ганкина". У такія жывём дзесяцігоддзі, што людзей, якія ведалі і любілі яго, Ганкіна, апынулася ў Амерыцы звышдастаткова.

Чаму ж я ўсё-такі дзялюся ўражаннем ад прачытанага, калі кніжка для аўдыторыі, якой слова аб ёй адрасую, — няўлоўны журавель у заакіянскім небе? А таму, што выклікала яна ўва мне самаеднае пачуццё, якое чым болей жыву, тым часцей адчуваю: ведаўшы якогасьці чалавека, як жа мала, аказваецца, пра яго ведаў! І з гэтай прычыны як жа нямала, аказваецца, страціў!




Як падлічыць, дык больш за сорак гадоў быў знаёмы я з Яўгенам Маркавічам — Жэнем — Ганкіным. У пару свайго журналісцкага пачаткоўства ведаў яго як таленавітага карыкатурыста "Вожыка". Потым завыходзілі фільмы з ягоным імем у цітрах, і ўсё часцей бываючы ў калідорах кінастудыі як сцэнарыст і тэкставік дакументалістыкі, я чуў і бачыў, якой паважанай асобай быў ён там для калегаў. Яшчэ цягам часу засустракаў у розных выданнях яго публікацыі. Абразкі з мястэчковага малалецтва. Штрыхі да партрэтаў мэтраў мастацтва, вучыцца ў якіх ці працаваць з якімі яму пашчасціла. Згадкі аб колішнім кантактаванні з творцамі, чые імёны былі доўга забаронены для пашанотнага ўпамінання. Напісана ўсё было моцным пяром, уражліва, прачула.

Але з кніжкі адкрыў для сябе Ганкіна, якога не ведаў. Ці скажу лепей так: пра якога, разумею цяпер, ведаў вельмі мала. Хоць шчыра яму сімпатызаваў. Хоць пры сустрэчах рукаліся з узаемнай, здаецца, прыязнасцю. Бо вітаўся з найсціплым, найдалікатным маўчуном, у сур'ёзных, часта тужлівых вачах якога не-не ды гарэзліва прамільгне іскрынка гумару. Са змешчанага ж у кнізе паўстала перада мной постаць з крутымі і цікавымі паваротамі на пройдзенай жыццёвай дарозе, з мысленнем удумлівага і патрабавальнага (найперш самапатрабавальнага) майстра, з багаццем за плячыма зайздросных стасункаў у мастакоўскім, кінематаграфічным, літаратарскім асяроддзі.

Паўстаў падлетак з палескага мястэчка, які піша па-яўрэйску свежыя, ухваленыя самім Ізі Харыкам вершы і нават становіцца — мела тады гэтая арганізацыя такую магчымасць падтрымліваць творчы падлесак — стыпендыятам Саюза пісьменнікаў. Паўстаў наіўны правінцыйны юнак, які пры чысцюткім самавуцтве ў асновах малявання і жывапісу прымаецца строгай экзаменацыйнай камісіяй на мастакоўскі факультэт найпрэстыжнага інстытута кінематаграфіі, — разгледзела камісія ў самадзейных яго опусах шматабяцальнае. Паўстаў зялёны апалчэнец пры абароне Масквы ў 1941-м, пасланы потым у вайсковае вучылішча, але адшуканы там дырэкцыяй эвакуіраванай у Алма-Ату кінематаграфічнай вучэльні і вернуты ў інстытут на заканчэнне вучобы: найважная роля адводзілася тады кінематографу ў ідэалагічным уздзеянні дзяржавы на насельніцтва. Паўстаў адзін з выканаўцаў дэкарацыйных эскізаў Сяргея Эйзенштэйна пры рабоце вялікага рэжысёра над "Іванам Грозным". Паўстаў мастак фільмаў,якія і сёння — гонар беларускага кіно.

Пры шырыні і разнастайнасці таго, да чаго аўтар памяццю звяртаецца, перадусім гэта кніжка мастака. Які бачыць зямное ў нябесных сюжэтах гравюр тытана Адраджэння Дзюрэра. У якога "свае" знакаміты жывапісец Фёдар Багародскі, класік сцэнаграфіі і кінадэкаратарства Уладзімір Ягораў, асілак скульптуры Заір Азгур. Менавіта да якога, разумеючы, што гэтага чалавека такое жаданне не здзівіць, найслынны італьянец Джузепе дэ Санціс, быўшы ў Мінску, звярнуўся з просьбай замовіць у нашым мастацкім музеі магчымасць пазнаёміцца яму, сусветна вядомаму кінарэжысёру, са схаванымі ў музейных запасніках творамі любімага ім, а ў нас тады найкрамольнага Шагала, — атрыманае абяцанне выканаць просьбу ў апошні момант кімсьці вышэйшым за дырэкцыю музея было катэгарычна адменена, і беднаму Ганкіну давялося гарэць ад сораму перад госцем. Што ўключаныя ў зборнік рэчы напісаны мастаком, выяўляецца нават абавязковай характарыстыкай у кожным расказе знешняга аблічча персоны, пра якую расказваецца.

Сардэчная, багатая на цікавае кніжка. Шкада, што чытачам на радзіме аўтара недаступная.

**Уладзімір МЕХАЎ**

ВІНШУЕМ!

# Позірк на жыццё...

## Раману ТАРМОЛУ-МІРСКАМУ — 65



**Час заўсёды няўтольны ў сваёй хадзе, не могуць уратавацца ад яго і паэты, але калі талент іх яркага мастакоўскага даравання, яны ў творах сваіх не растрачваюць маладосці, аптымізму. Пацвярджэнне таму — паэзія Рамана Тармолы-Мірскага. Раман Якубавіч мае на сваім рахунку не адну кнігу. Нават і пералічыць усе цяжка: "Асколкі і росы", "Поўня", "Абнаўленне", "Міранка", "Вобразы вечара", "Толькі б дагаварыць" і іншыя. Плённа працуе ў галіне дзіцячай літаратуры, займаецца перакладам, напісаў некалькі сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Іншы б пасля такіх важкіх набыткаў даўно спачываў бы на лаўрах, а ён па-ранейшаму няўрымслівы, прапануе рэдакцыям свае новыя творы. У іх — і роздумнасць аб пражытым, і засяроджанае жаданне шмат што пераацаніць, а нечаму даць сваю бескампрамісную ацэнку. Але ў іх нязменна прысутнічае і той зацікаўлены позірк на жыццё, які з гадамі не блякне, бо душа і самога паэта і яго лірычнага героя разнасцежна адкрыта і свету, і людзям.**

**З 65-годдзем, шаноўны Раман Якубавіч! Ранейшага вам аптымізму, доўгіх год жыцця і новых твораў!**

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ

# Не стамляйцеся жыць...

●

*Круглеюць даты нараджэння,*
*Цана ім залатнік ці грош.*
*Як выпадковае здарэнне,*
*Год новы прычаканы ўсё ж...*

*Нам ставяць крытыкі ацэнкі*
*Усё спагадлівей, але*
*Мы як прыстаўлены да сценкі,*
*Стрэл вось-вось выблісне ў імгле.*

*Ахвяру выхапіць ці Постаць*
*Падсветка гэтага агню?*
*Смерць — узвышэнне альбо помста*
*Ізноўку чалавекадню.*

*Усе мы варты гэтай кары.*
*Пра святасць не святыя лгуць.*
*Пасеяныя думкі, мары*
*Адно ў адзінак прарастуць.*

## З ліста ўсім і нікому

*Глядзі, брат, небна*
*нават з фота,*
*Як маці божая глядзіць*
*З іконы ў куце... Нібы ўпотай*
*Прыйшла адна... І ты адзін...*
*Размову гэтую вачыма*
*Адно па-свойму перайнач —*
*І не запомніць немагчыма*
*Душэўны ўзлёт, спакусу, плач...*
*З такога першага пагляду*
*Часцей за ўсё бывае цуд —*
*Жывы агонь, нямая звада*
*І думак і пачуццяў гурт.*
*Спатканняў*
*адцурайся з тымі,*
*Каго гняце разбойны свіст,*
*Хто жыць жахаецца ў інтыме,*
*Бо генамі калектывіст.*

●

*Меркай вартасці паэта не была*
*І не будзе маладосць ці сталасць:*
*Ён у д'ябальскім і ў боскім стане*
*Бог застолля альбо раб стала.*

*Гэтая палярнасць — яго лёс,*
*Яго крылы і яго ж вярыгі,*
*Ён яе так рэдка бярэ ў кнігі*
*І таму распяты, як Хрыстос.*

*Хто, калі разгледзець мог да дна*
*Акіян душэўнасці паэта?*
*Перад Летай,*
*як і перад летам,*
*Аднабокая ў яго віна.*

*Для народа кожнага заўжды*
*Паўжыцця паэтава хапала,*
*Каб забыць на доўгія гады*
*Альбо ўвекавечыць, бо не стала...*

●

*Прыйшоўшы паглядзець кіно,*
*Дзе глупства, дураты даліха,*
*Як добра,*
*што свіціцца "выхад" —*
*Выратавальнае акно.*

●

*Ля піраміды Хеопса*
*Як зернетка чалавек,*
*Зоркі нібыта проса,*
*Дробны сённяшні век.*
*Над фараонам з агідай*
*Здзекуецца малакасос...*
*Са сваёй пірамідай*
*Працягвае жыць Хеопс.*

●

*Хаціны, хатачкі, дамы.*
*Пабудку пеўняў не праспала вёска —*
*Пускае ў неба кольцамі дымы*
*І ветах растае, нібы ён з воску.*



Марыя Захарэвіч, Раман Тармола, Алег Чыркун, Вольга Іпатава і Анатоль Грачанікаў ля Мірскага замка.

Фота А. КАЛЯДЫ

## Сярод адных і тых

*Ці мы паўсвета абхадзілі,*
*Ці свет вадзіў ля дома нас...*
*Жыццё — прыпынак на Радзіме*
*Памерам у пражыты час.*

*Ён увабраў жа наваколле,*
*Дзе Млечны шлях і Маладзік,*
*Жыццё, што пройдзена, як поле,*
*Бо ўсё-ткі лёс па ім вадзіў...*

*І доляй многіх блаславёны,*
*Зямшар не просіць перадых,*
*А новыя людзей імёны*
*Раскручвае... сярод адных і тых.*

## У запалоханым прыцемку

*Навобмацак ідзе тралейбус*
*У прыцемку зімовай вуліцы,*
*Бо вуліца зімою — рэбус,*
*Не людзі, а яна да людзей туліцца.*
*Расцягнутай, нібы п'яны гармонік,*
*Кампаніі ёй трэба чалавечае,*
*І горбіцца яна ў глухім сутонні*
*Зімовага прастуджанага вечара.*
*Мы з Месяцам сягоння два прыблуды*
*І з хмары ў хмару*
*кожны прадзіраецца,*
*І брэх сабачы не вылазіць з будак*
*І кожны з нас пудліва азіраецца.*
*Мне гэта наўздагон*
*сабакаў смеласць*
*Нагадвае людскую дэманстрацыю,*
*Падбеленую страху мелам —*
*Баяцца ўсе... І, пэўна, маюць рацыю.*

●

*Апала лісце. Дзе палёў стракатасць?*
*Над галавою рэдкі госць блакіт.*
*Замнога ў небе стала хмарных латак,*
*Гарбуз апошні адляжаў бакі.*
*Яму ніяк не выбрацца з разоры,*
*Куды перваліўся ён з грады,*
*Рыхтуючыся да адпору*
*Суседзяў, што нібыта жалуды...*
*Дзівак таўсмач: здаецца, многа семак*
*У галаве, ды семкі не мазгі —*
*Яго шануюць, як быка для семя,*
*Да самае глыбокае смугі.*
*А потым яго ўскоцяць на гарышча,*
*Адкуль нам назіраць здаля:*
*Саломы кучы гоніць па іржышчы*
*Паўночны вецер, журыцца зямля.*
*І я маршчынюся з людзьмі больш лобам,*
*І што рабіць мне, словаў пастуху?*
*Кручуся, быццам пад рукою глобус,*
*Кудлачу валасоў страху*
*І з перападам розных варыяцыяй*
*Душэўна-атмасферных сіл*
*Я разумею — цяжка мне змагацца*
*З гадамі, хоць мой родзіч дзівасіл...*

●

*Не стамляйцеся жыць,*
*Не прасіце ў жыцця адпачынку,*
*Хто з нас ведае, як пабяжыць*
*Наша сэрца пасля прыпынку.*

*Перакур, перадых*
*Тут прыродаю не спланаваны,*
*Хто аднойчы прыціх,*
*Больш ці будзе зноў апантаны.*

*Гонка формулы "Смерць"*
*Бессмяротна для ўсіх кальцавая,*
*Часта першасць хто марыў мець,*
*Самы першы з яе выбывае...*

●

*Патрохі выміраем, беларусы,*
*Без мовы у радзімай старане?*

*Сукі на дрэвах, нібы тыя куксы*
*У неаб'яўленай лясной вайне.*

*Баліць не ўсім... І гэта горш хваробы*
*Найноўшай самай*
*з назвай страшнай СНІД:*
*Адбіты розум — горай, чым вантробы,*
*Няма каму расплакацца наўзрыд.*

## Язык

*Язык наш гнуткі, як вудзільна,*
*Згінаецца і так і сяк,*
*Трымае важкі верш адзіны*
*І падхалімскіх слоў касяк.*
*Ды што касяк... Ён ад прамоваў*
*Патрэбных у патрэбны час*
*Не зломіцца, нібыта голаў,*
*Як да адказу клікнуць нас.*
*Не патурай жа, чалавеча,*
*Разбэшчанаму языку:*
*Ён сёння твой, а заўтра нейчы,*
*Сабакам злым на павадку.*
*Калісьці языкі ў нас рвалі,*
*Праз іх не раз вялі вайну,*
*Знямеласцю людзей каралі*
*За праўду... як і за ману.*
*Будзь блаславёна кара божа!*
*Хаця не выйсце гэта ўсё ж:*
*Там, дзе язык не дапаможа,*
*Дапамагае людзям нож...*

●

*Хто, што скажа,*
*Хто як гляне...*
*Самі ж мы,*
*як не ў разлік.*
*Так святое нешта вяне,*
*Нейкі нерв кахання знік.*
*Прападае следам вера,*
*Што галоўнае ўсё ж — мы.*
*Галаву часцей аберуч*
*Мы трымаем,*
*бо грамы*
*Перашэптаў разрываюць...*
*Мы з табой ужо на Вы.*
*Ты пакуль яшчэ жывая,*
*Я пакуль што паўжывы.*

## Цень замка

*Над Мірскім замкам хмарны дзень.*
*Ды сонейка пакажа голаў —*
*І кіне замак хмарны цень,*
*Пакланіцца нібыта долу.*

*Цень важка, хораша ляжыць,*
*А то здаецца тонкай рамкай*
*І боязна па ім хадзіць*
*Па гэтым па ляжачым замку.*

*Ён і ляжачы — вышыня,*
*Ён і паванены — асоба,*
*У ім і часу глыбіня*
*І нашай вечнасці аздоба.*

●

*Ідзе пераацэнка*
*Жыцця, нібы тавару...*
*Не страшаць смерці сцэнкі,*
*Не мулка і на нарах.*
*Санлівыя ў нас людзі*
*Цяпер на кожным кроку,*
*Жахае: не разбудзім*
*Сляпых душой і зрокам.*
*Уражанне — махнулі*
*Усе на ўсё рукою,*
*Яшчэ на век заснулі*
*Разбуджаныя мроі...*





## "Падаюць даспелыя ранеты"




**Сапраўды: усё вяртаецца на кругі свае. Ніна Маеўская, як вядома, хораша зарэкамендавала сябе ў якасці празаіка. Яе кнігі "Агата", "Надзеевіч", "Холад доннай вады" і іншыя сведчаць аб тым, што аўтару па сіле вырашэнне значных маральных праблем, глыбокае спасціжэнне характару герояў у самых розных жыццёвых абставінах. Але Н. Маеўская, праўда, пра гэта ведаюць далёка не ўсе, у свой час пачынала літаратурны шлях з паэзіі. Колькі гадоў назад яна ўспомніла сваё даўняе захапленне і пачала зноў выступаць у друку з вершамі. Паступова іх набралася на кнігу, якая пад назвай "Падаюць даспелыя ранеты" нядаўна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Дарэчы, назва надзіва арыгінальная. І нават не столькі па сваім змесце, колькі па ўменні Н. Маеўскай гэтымі словамі пачаць кожны з пяці раздзелаў зборніка. Радкі верша, за рэдкім выключэннем, не паўтараюцца, але настрой пастаянна аднолькавы: у чымсьці элегічны і разам з тым не пазбаўлены той роздумнасці, якая як непазбежнасць з'яўляецца, калі шмат пражыта і перажыта, хочацца пэўнага падрахункавання, з'яўляецца жаданне і азірнуцца на колішнія свае сцяжыны і паспрабаваць уявіць, як будзе далей. Той жа варыянт (дазволю сабе падобнае азначэнне) верша "Падаюць ранеты", што стаіць у пачатку першага раздзела, як бы запеўка да кнігі і, не ведаю, як у каго, а ў мяне адразу выклікае адпаведны настрой, што затым дазволіць глыбей і лепш зразумець тое, чым жыве сёння лірычная гераіня Н. Маеўскай, аб чым баліць яе душа і да чаго яна імкнецца:**

*Падаюць даспелыя ранеты,*
*Мы завём іх проста — шлапакі.*
*На зыходзе, на краёчку лета*
*Цягне прахалодай ад ракі.*
*Выйду я, самотная, на ганак,*
*Зябкімі плячыма павяду,*
*Вухне ў садзе, падаючы, яблык.*
*Прадчуванне — клікае бяду.*
*Сэрца перапоўніцца тугою,*
*Затрымціць напятая струна.*
*Вухне яблык... Ведаю, з табою*
*Расстаёмся. Зноўку — я адна.*
*Засмяюся, нібыта заплачу.*
*Ў яблыку адчую гаркату.*
*Можа, лёс таксама перайначу —*
*Яблыкам у травы упаду.*

**Ступаць сцежкамі памяці — у нечым прыемна, а ў чымсьці і балюча, бо разумееш, што нішто на гэтай зямлі не вечна і няма вяртання назад. Элегічны настрой напаўняе кнігу Н. Маеўскай ад першай да апошняй старонкі. У ёй знаходзіш нямала вершаў, блізкіх па сваім унутраным змесце. Лірычная гераіня іх адначасова прысутнічае ў дзвюх часава-пpасторавых рэаліях: у дні сённяшнім і ў тым учарашнім, што на адлегласці часу становіцца мройным, але нярэдка надараецца і так, што з'яўляецца магчымасць перакінуць паміж сённяшнім і ўчарашнім свайго роду масток:**

*Прымоўклі гулкія трамваі*
*У раннім золку туманоў:*
*То мне насустрач йшла сівая*
*Мая апошняя любоў.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*І я стаяла, бы нямая.*
*Нібы з далёкіх весніх сноў,*
*Ішла насустрач мне сівая*
*Першая й апошняя любоў.*

**Ёсць у кнізе і іншыя вершы, у тым ліку ў Н. Маеўскай з'яўляецца жаданне разабрацца ў рэаліях сённяшняга дня ("xxxНаслухалася дарадчыкаў..."), аднак думаецца, што ўсё ж твар зборніка вызначаюць менавіта гэтыя, што якраз і падпадаюць пад вызначэнне "падаюць даспелыя ранеты". Яны дазваляюць добра зразумець, чым жыве сёння лірычная гераіня Н. Маеўскай, зазірнуць у яе ўнутраны свет.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Анэля
ТУЛУПАВА



## І я малюся, і спяваю я...

### Анэля, што з Капані

*Я — з Капані.*
*Я — з Беларусі.*
*Тут і зоркі спеюць,*
*І — райкі.*
*Дзетак тут нам*
*Прыносіць Бусел.*
*Бай*
*Спявае вясёлыя байкі.*

*Я — з Капані,*
*Я — з Беларусі.*
*Тут і снег,*
*Бы гусіныя пёркі.*
*Песню ўчую,*
*Дадому вярнуся*
*У чарнобыльнік наш*
*Пахкі і горкі.*

*Я — з Капані,*
*Я — з Беларусі.*
*Дзе ўплятаюць*
*У косы настуркі.*
*Да зямелькі сваёй прытулюся*
*І шапну ёй:*
*"Ратуй, матулька".*

### Вясёлыя сенцы

УСПАМІН

*Вёска ў бела-ружовай акацыі,*
*Нібы ў цёплай сунічнай пенцы.*
*Я рукой язычок клямкі мацаю*
*І трапляю ў вясёлыя сенцы.*
*Тут пярэсты пявун кукарэкае,*
*Намывае гасцей нам каток.*
*Хто тут*
*Пыхкае,*
*Пухкае,*
*Крэкае,*
*Курыць трубку,*
*Нібыта дзядок?*
*Медны, тоўсты, пузаты, бліскучы*
*Знакаміты спадар*
*Самавар!*
*Выдаваў ён нам кіпень пявучы,*
*Голы вар, голы вар, голы вар...*
*З варэннем, у прыкусачку,*
*(Кожны чай хваліў.)*
*...гадоў чароды-гусачкі,*
*Ціха праплылі.*
*...Хустка матчына ў сінюю клетачку,*
*Нібы той васілёк у жыце...*
*Ты пакліч, ты пакліч мяне — дзетачка!*
*Буду ўсмешкай тваёю жыцьме.*

### Мае сяброўкі

*Я не люблю прамоў дзяжурных,*
*Але ж — дзяжурнае жыццё...*
*Мае сяброўкі, прыгажуні,*
*Вы — як уздых, як адкрыццё.*

*Адно замучаныя бытам,*
*Усмешка й тая — на бягу.*
*І вершаў не было нібыта...*
*Авоську ў рукі і ў чаргу.*

*Паэтак цэлыя радоўкі,*
*Філасафіняў гожы сад.*
*Яшчэ чарнеюць вашы броўкі,*
*Яшчэ ў вачах і дым, і чад.*

*Медычкі, верніцы, акторкі*
*І проста ладныя жанкі.*
*Яшчэ салоўкі вам уторацъ,*
*І ўслед зірне хтось з-пад рукі.*

*Але не дораць гіяцынтаў,*
*І анемонаў не відно,*
*Адно што буркне змрочны цынік:*
*"У бабах кісліцца віно".*

*Вы — маладзіцы-саладзіцы,*
*Пахмурай ночы сонцацвет.*
*Вам не ляжыцца, не сядзіцца,*
*Так і пайшлі б у Божы свет.*

### Жывая кніга

*Усе жывем мы ў часе*
*І ў прасторы.*
*Адведзена нам месцейка*
*Тварцом.*
*У Бараўлянах выспяваюць*
*Зоры,*
*Запаленыя Велічным*
*Айцом.*
*Жывую Кнігу жыццяў Ён гартае.*
*Чытае нашых Душаў чарнавік,*
*І пыл грахоў страсае і змятае.*
*І чуе Кожны Крок наш.*
*Кожны Крык.*
*Вялікі Божа! Як мы невялічкі!*
*Што ў нас разгледзеў*
*ты і што знайшоў?*
*Перад Табою мы — расінкі-знічкі.*
*Жабрачым вечна Вечнаю Душой.*
*Трапечам, як лістота*
*На расхрысці.*
*І чуем штось і бачым,*
*Ды — няўцям.*
*А гэта Ты, Ісусе,*
*Любы Хрысце,*
*Нас клічаш да Высокага*
*Жыцця.*
*Ды кожны мітусіцца з нас і пнецца.*
*А там глядзіш*
*І часу не стае.*
*Але Душа да Бога прыхінецца, —*
*Якое тады С В Я Т А*
*Настае!*

### Хрышчэнне

*Сыпце, снягі, мяціце.*
*Такое і ў сне не прысніць!*
*Можа, Іаан Хрысціцель*
*Прыйшоў Беларусь хрысціць?*
*Другое Хрышчэнне. Дзіва.*
*Бруіцца людскі паток.*
*Глядзіце, няверы, глядзіце*
*На ўзлёт духоўны.*
*Віток.*
*Якая чарга хрысціцца,*
*І — каяцца. Не злічыць.*
*А за свячонай вадзіцай*
*Займаюць чаргу з начы.*
*Стаім ля царквы ціхутка,*
*Кожны ў грахах сасклеў.*
*Багатыя, бедныя тут-ка,*
*Радасна й пазалець!*

*...Ля Іарданскай купелі*
*Снег чарнеў і рыпеў*
*(О, як мы ў грахах паспелі!);*
*Гучыць велічальны спеў.*
*Хто з венічкам тут, хто з мылам.*
*Нібыта ў лазню ідуць.*
*Вада баганосная змыла*
*З маёй Беларусі бяду.*

### Я за вас памалюся

*Ападаюць пялёсткі*
*Ненапісаных вершаў маіх.*
*Завіхурыў на ростанях*
*Вецер жнівеньскі іх.*

*Паяднае іх вецер,*
*Раз'ядпае туман.*
*Толькі голае веце,*
*Як надзеі падман.*

*А ці позна, ці рана —*
*Хай рассудзіць зіма.*
*Вельмі многа пазваных,*
*Ды абраных няма.*

*Наша еднасць — як рознасць.*
*Я другой не хачу.*
*Як бялюткая роснасць,*
*Ад вятроў я трымчу.*

*А было ж,*
*А бывала,*
*Я вачэй не хавала,*
*І без Божага страху*
*Дзёрзка ў Неба спявала.*

*А цяпер каму ў вочы*
*Я і глянуць збаюся.*
*Супроць дня,*
*Супроць ночы*
*Я за вас памалюся.*

### Дабравесце

*Да зернетка*
*Хачу*
*Спазнаць*
*сябе*
*спярша.*
*Каб чула,*
*Што — лячу!*
*Крылатая душа,*
*Дай сонцам*
*набрыняць,*
*Як*
*чэрвеньскі*
*папас.*
*Званы мае звіняць*
*Званочкамі для вас.*
*І сэрца зашчыміць,*
*І страпянецца*
*зноў,*
*Далёка*
*яшчэ ім*
*Да голасу званоў.*
*Ды дабравесціць*
*звон,*
*І набірае*
*сілу,*
*І мой уздых —*
*як скон:*
*"Госпадзі, памілуй".*
*...Куды ўпадзе*
*зярно?*
*У глебу ці на камень?*
*Ці выспее*
*яно?*
*І хто яго чакае?*

### Непагасная лампада ў Міры

*Вісіць туга, як кропелька расы,*
*І на паўтона паніжае гукі.*
*На клавішы самотнае красы*
*Паклала восень трапяткія рукі.*

*Глядзіць Хрыстос*
*з разбуранай сцяны*
*На Хрэсны Ход з Лампадай Непагаснай.*
*Стаю прад Ім з бяльмом сваёй віны,*
*І зірк душы то ўспыхвае, то гасне.*

*Крыжуе неба высакосны стрыж,*
*Нібыта піша слова — хрысціяне.*
*І я бяру. Бяру нарэшце Крыж.*
*Спалохана. Як браў кірынеянін.*

*І, грэшная, Бязгрэшнага прашу:*
*"Цягні мяне,*
*ратуй з-пад слізкай раскі,*
*Што апляла і цела і душу,*
*Не адлучай мяне ад Тваё Ласкі".*

*І Пасху хор шчымліва прапяяў.*
*Сышоў Агонь —*
*на тоненькія свечкі.*
*І я малюся, і спяваю я...*
*О, Госпадзі, пасі свае авечкі.*

### Споведзь

Духоўнаму айцу, святару СЦЯФАНУ

*Няма ні мудрасці ў мяне,*
*Ні пасталення.*
*Скажы мне, Госпадзі:*
*— Я — тваё збаўленне.*

*Няма ні тытулаў, ні славы,*
*Ні ўхвалення.*
*Скажы мне, Госпадзі:*
*— Я — тваё збаўленне.*

*Няма жарсцей,*
*Багаццем адалення.*
*Скажы мне, Госпадзі:*
*— Я — тваё збаўленне.*

*Ды вера ёсць.*
*І ціхае маленне.*
*Скажы мне, Госпадзі:*
*Я — тваё збаўленне.*

# ТРАЛЕЙБУСНАЕ ШЧАСЦЕ

Анатоль КАЗЛОЎ



АПАВЯДАННЕ

АД ЭКСТРАСЕНСА Эльвіра Львоўна ляцела, быццам на крылах. Ейная цёмна-зялёная “Вольва” шархацела коламі па асфальтавай стужцы дарогі з мяккай лёгкасцю, падобна настрою гаспадыні. За вокнамі машыны стаяла набрынялая дажджамі восень з купкамі апалай лістоты, з калюжкамі бруднай вады на выбоістых тратуарах, але Эльвіру Львоўну зараз гэта ніколечкі не хвалявала, не псавала настрой, як раней. Нават нудна-ўедлівыя штодзённыя дажджы жанчыне былі даспадобы. З сённяшняга дня яна нарэшце ўпэўнілася: жыццё зменіцца да лепшага. Даўно чаканага ёю, па чым збалелася жаночая душа і цела. Іначай не магло і быць! Так сказаў вядомы ў горадзе экстрасенс.

Эльвіры Львоўне споўнілася пяцьдзесят. Ну няхай крыху больш. Тое, што ў пашпарце пазначана, не заўсёды адпавядае выгляду. Асабліва ў жанчын. Ды такіх, як Эльвірачка, наша Эльвіра Львоўна — выпеставаных і дагледжаных, па-кашэчы ласкавых і мілых — з масляністасцю ў паглядзе і мяккасцю ў рухах. Пра такіх мужчыны звычайна кажуць: жанчына не лянуецца есці. Але ж не тое, што пад руку патрапілася, а — выбарачна. Адным словам — гурманкі.

У Эльвіры Львоўны і сапраўды быў кідкі знешні выгляд. Самавіта-імпазантны. Чорная смоль валасоў, высакаваты лоб, падфарбаваныя дугі броў, густыя доўгія вейкі. Праўда, завелікаваты крыху нос. Але ж гэта не загана. Калі яшчэ дадаць, што пульхнаватыя і ружовыя, як свежаспечаныя булачкі, шчокі скрадвалі гэты недахоп. Львоўна была асаністай, вузкай у плячах і шыракаватай у бёдрах жанчынай. Так бы мовіць — мара любога нармальнага мужчыны. Калі ж яшчэ дадаць, што і забяспечана яна была добра, ды з работай дэфіцытнай — ну чым не нявеста. Шакаладная цукерка ў яркай абгортцы. Вось толькі адна бяданястача — не шэнціла ёй з самой маладосці ў асабістым жыцці. Бывае ж такое!

Напачатку — у зорныя гадкі — яна чакала свайго адзінага і непаўторнага прынца. Чакала настойліва, да мазахізму. Перабірала. А пад трыццатнік ужо, калі зварухнулася дзесьці глыбока ў падсвядомасці думка, што ейны прынц ці ненароджаны яшчэ, ці мо заблудзіўся ў беззваротнай невядомасці, — Эльвірка спахапілася. І пачаліся прыгоды.

Першым быў элегантна-педантычны Воўчык... Эльвіра Львоўна, успомніўшы яго, ледзь не праскочыла на чырвоны знак святлафора. Своеачасова спахапілася. “Дзякуй Богу,” — уздыхнула яна. Пярэдні бампер машыны за нейкі метр замёр ад бабулькі, якая, прыкрываючы звешаную долу галаву парасонам пяцідзесятых гадоў, пераходзіла дарогу. На вуліцы няўшчукна імжэў кастрычніцкі дождж.

“І куды брыдзе гэтая старая нягегліца? Сядзела б сабе дома. Непагадзь жа. Эх, нарабіла б яна мне бяды”. Эльвіра Львоўна абуралася напаўголаса. Але без злосці. Яна проста не магла злавацца пасля размовы з экстрасенсам. Ягоныя залатыя словы ўсё яшчэ гучалі ў вушах.

Блісную зялёны колер. “Вольва” зноў пакацілася па мокрай шасейцы. Мільгалі з бакоў заплаканыя каштаны і таполі сквера. З шыкам пераганялі Эльвіру Львоўну маладыя бязвусікі, якім усё няцерпіцца і якія спяшаюцца жыць хутчэй і хутчэй. Ёй жа, паважнай жанчыне, спяшацца няма куды. Ва ўсялякім разе, сёння. У яе ўсё пачнецца заўтра.

“Эх, заўтра, — яна шчыра ўсміхнулася. — Але на чым я спынілася? Ага. Воўчык. Якімі шчаслівымі здаваліся першыя дні пасля вяселля. У вушах гучаў украдліва-меладычны голас маладога мужа. Ягоная ўгодлівасць падабалася. А далікатная ўвага, кветкі, пацалункі, ну і вядома ж — пасцель? Я была шчаслівай. Сапраўды шчаслівай. Тыдзень...

Забралі Воўчыка раніцай — за забойства ранейшай палюбоўніцы. І ўсё — скончылася шчасце. Плакала, перажывала доўга. Мо з месяц, — Эльвіра Львоўна скептычна скрывіла пульхнаватыя губы, абмаляваныя занадта яркай памадай. — Нічога не зробіш. Я абяцала Воўчыку прыходзіць да яго ў адведкі. Абяцала дзеля слова, а сама разумела, што не збіраюся чакаць любага дзесяць, ды не-не — значна больш гадкоў. Жыццё ж бяжыць. Яго не спыніш, не ўхопіш за хвост і не прывяжаш да каменнага і нязрушнага слупа...

Другім быў Петрык. Збродліва-нягеглы кот. — Твар Эльвіры Львоўны ператварыўся ў грэблівую маску. — Абчысціў, паскуднік, да ніткі. Прахіндзей! І самае неверагоднае, што праз той жа злашчасны тыдзень. Воўчыка забралі праз тыдзень, а Петрык праз тыдзень пакінуў мне голыя сцены і ў ваннай пару брудных наскоў ды засцаныя трусы. Да прыкрасці банальна, але — факт. Сёння пра такіх прахадзімцаў пішуць у газетах адкрыта. Папярэджваюць. Я ж тады была дурніцаю, пнём. Нічога — перажыла і такое. Хоць вывез, гад, у далёкую невядомасць нават любімую сукенку. Міліцыя шукала. А ці зловіш вецер у полі? Бацька — царства яму нябеснае, рай светлы — памог. Купілі-дасталі новае. Праўда, па блаце і з пераплатамі. Сёння не тое, што ў гады застою. Ёсць грошы? Ідзі і бяры. А на той час усё з-пад прылаўка, з-пад палы, па блаце-пераплаце. Бацька дужа не сварыўся, не ўшчуваў. Ён жа, нябожчык, і кватэру ёй здабываў-аддзяляў яшчэ да Воўчыка. Хацеў, каб ягоная донька жыла балерынаю. Была ва ўсім сама па сабе. Багатаю нявестай. — Эльвіра Львоўна цяжка ўздыхнула. Здалося, што і слязінка нават накацілася на вочы. Дворнікі нястомна і бесперапынна працiралі лабавое шкло машыны. На перакрыжаванні вуліц нешта здарылася на дарозе. Таму тут і выцягнулася даўжэзная чарга рознакаліберных машын, якія сціпана пыхцелі смярдзючым дымам. Яго шызавата-блакітная плёнка слалася нізка над зямлёю — марасісты дожджык прыбіваў яе да шурпатага асфальту. У бязветрыцы і сціснутасці дамоў, між якімі заставаліся нібы калідоры-тунелі, можна было задыхнуцца ад гэтага смогу. Так падалося Эльвіры Львоўне. Цывілізацыя, хоп яе за нагу! Во завярнула. Магу яшчэ, магу. Глядзі ты, нават у рыфму. Не ўсё яшчэ страчана, дзевушка”, — Эльвіра Львоўна лена пацягнулася, закінуўшы рукі за галаву.

Экстрасенса ёй параіла лепшая сяброўка Мальвіна. Вечарам, калі звычайна яны гадзінамі размаўлялі па тэлефоне, Эльвіра Львоўна папыталася ў сяброўкі, як там маецца ейны Пётр Сямёнавіч. Мальвіна з прыдыханнем у трубку зашаптала: “Сяброўчка мая дарагая, дай кожнай жанчыне ў свеце такое шчасце! Я ж цяпер, як з’явіўся ў мяне Сямёнавіч, ніякага клопату не маю. Усё складна і *ладна*. *Інтэлігент*, якога днём са свечкай не знойдзеш, рукі залатыя, сэрца брыльянтавае, кожную парушынку з мяне здзімае, кроку зрабіць не дае. Раніцой, мая ты Эльвірачка, каву з бутэрбродзікам у ложак прыносіць. А які магутны мужчына ў ложку! Нястомны гігант. Замучвае. — Мальвіна задаволена хіхікнула. — Калі паўгода б таму хто-небудзь сказаў мне пра такое, яй-богу ў твар бы плюнула і на парог не пусціла. Гэта мне, ды з маёй знешнасцю так пашчасціць? Дурнем бы назвала такога прарока. Аж не, бываюць у свеце цуды. І папялушкам шчасціць. Я ж табе не гаварыла праўды, як і дзе з Сямёнавічам пазнаёмілася. Баялася, што сурочыш, ці горш таго — дурніцаю палічыш. Маўляў, з галавою ў бабы не ў норме. Люська, ну памятаеш, на дні нараджэння мінулагоднім у мяне была? Спраўлялі палцiннік з паловай. Памятаеш громбабу? Во-во, з задніцай, што ледзь у дзверы праціскаецца. Я ёй і пажалілася на долю. На кухні былі, а вы ўсе ў зале танчылі. Дык і гавару табе, што Люська мне параіла схадзіць да экстрасенса, які зрабіў Люську шчаслівай, указаў месца, дзе яна знойдзе свайго мужа. Указаў нават гадзіну. Так усё і здарылася. Слова ў слова. Бо, аказваецца, што не ведаем мы, бабы, дзе павінна перасекчыся сцежачка кожнай з нарачоным. Некаму выпадкова шчасціць, а большасці — не. Дык слухай! Ён, гэты экстрасенс, вылічвае, праўда, за немалыя грошы, патрэбнае месца. Паглядзіць на тую, што прыйшла, і зробіць разлікі. Доўга і засяроджана глядзіць, а пасля і ўказвае, дзе твой лёс ходзіць-бродзіць. Спачатку я не паверыла. Думала — лухта. А праз некалькі дзён усё ж вырашыла, што было не было, а і я паспрабую шчасце сваё знайсці. З грашамі ж, сама ведаеш, у ложку грэцца не будзеш. І не пашлыкочуць яны там, дзе трэба і хочацца. Пайшла я, мая ты Эльвірачка. Сімпатычны мужчына, гэты экстрасенс. Вочы ў яго, як у гіпнацізёра, а пальцы даўжэзныя і выпеставаныя, быццам у князя. Прадказаў ён і маю сцежку, дзе павінна яна перасекчыся са сцежкаю Сямёнавіча. Смяяцца будзеш, а адбылося тое ў гарадской лазні, што на Загрыўі месціцца. Параіў экстрасенс тры дні мне ў пасляабеддзе хадзіць у мыйню, а пасля ўжо, калі чысцюткай буду, то зазіраць у піўны прылазенны бар і з куфлем піва сядаць за апошні столік. Адсёрбваць піва і гадзіну не сыходзіць з месца. Мой суджаны і з’явіцца там, і ўпадабаем адзін аднаго, і завяжацца вузельчык нашага лёсу. На трэці дзень усё і здарылася. Божа мой, якая цяпер я шчаслівая, Эльвірачка. Шча-слі-ва-я”.

Нарэшце аўтамабільная чарга крыху пасунулася. Эльвіра Львоўна з палёгкай уздыхнула. Ёй і сапраўды надакучыла ўжо чакаць, калі яна нарэшце даедзе да сваёй утульнай кватэркі. Хацелася адпачыць на канапе, памарыць, уявіць таго, з кім прыйдзецца жыць у шчасці і згодзе. Адно яна ведала канкрэтна — яе будучы муж абавязкова павінен мець вусы. Абавязкова. Бязвусікі для яе не існавалі. Эльвіра Львоўна пазірала на бязвусых мужчын, як на сяброўак. Так-так, іменна сяброўак. І на сваёй рабоце з галатварымі жанчына паводзіла сябе як з аднаполымі, не саромелася паправіць калготкі, магла памасіраваць грудзі, калі станік дужа занявольваў за дзень ейнае багацце. І ўсе яе трое папярэдніх мужычкоў былі з вусамі, а Міколка нават насіў зграбненькую бародку. Так-так, быў у Эльвіры Львоўны і трэці муж — Міколка. Архітэктар. Яго жанчына прапёрла з кватэры аж праз чатыры месяцы. Дужа ж улягаў ён у чарку. Напачатку, пакуль не пабраліся, то трымаўся. А як толькі атабарыўся ў Эльвіры Львоўны — запіў па-чорнаму. Ні просьбы ні грозьбы на чалавека не дзейнічалі. Хоць і быў ён у Эльвіры Львоўны самы пакладзісты, душэўны. Адна бяда — без двух, а то і трох бутэлек беленькай жыць не мог. Прапаноўвала жанчына лячыцца — куды там. “Лепш на волю вольную, чым у сіло. Без гарэліцы, мая любачка-любімая, я не мужчына, нямашака тады ў мяне сілы багатырскай. А такі навошта табе?” — ёрнічаў Міколка на жончыны папрокі. І паказала Эльвіра Львоўна на дзверы свайму барадаціку.

А пасля, быццам у пакаранне й *Усявышнім* — ніхто не сватаўся, ніхто поедам не еў развядзёнку прагнапажадлівымі вачыма. І пачалася страшэнна пустая адзінота. Іншым разам ёй хацелася выйсці вечарам на вуліцу, асабліва вясною, і сілком зацягнуць да сябе ў кватэру ўпадабанага вусача. Гонар. Гонар не дазваляў Эльвіры Львоўне такое зрабіць. І хочацца і колецца, а нешта тое, што сядзела глыбока ў яе душы, — не пускала. І самотна ўздыхала наша Львоўна, адзінока прагульваючыся па вясенніх скверах і парках. Здавалася, што нейкі зласлівец знарок сурочыў яе жаночы лёс. І так год ад году.

І вось нарэшце загарэўся агеньчык, які, здавалася, даўно ачах пад залевай лёсу...

Эльвіра Львоўна, перш чым дабрацца да сваёй кватэры, заехала ў гараж, які мясціўся не так і блізка ад яе жытла. Асцярожна аб’язджаючы распаўнелыя ад няўшчукных дажджоў калюжыны, яна прытармазіла каля масіўных дзвярэй. Расчыніўшы насцеж, загнала машыну.

— Цалюткі месяц ты мне не спатрэбішся. — Пагладзіла рукою жалезную бакавіну.

А справа вось у чым: экстрасенс паабяцаў Эльвіры Львоўне, што сустрэне яна свайго нарачонага, ездзячы ў тралейбусе на працу. Менавіта ў тралейбусе, і на працягу месяца.

“Месяц дык месяц, — падумала Эльвіра Львоўна, пачуўшы словы экстрасенса. — Гэта ж не гады, што правяла ў адзіноце”.

Дрэнна спалася жанчыне ў тую ноч, перад тым днём, які павінен нарэшце пачаць адлік новаму і жаданаму. На досвітку яна прахапілася, хуценька глытнула кавы і на паўгадзіны прысела каля люстэрка. Ёй хацелася выглядаць як ніколі прыгожай, вабнай і абаяльнай. Нарэшце ўважліва агледзела сябе і засталася задаволенай.

“Усё як трэба, дзяўчынка. Сто адзін працэнт на тваю карысць”. Наперад, па шчасце!”

Бразнуўшы дзвярыма, Эльвіра Львоўна лягуткай паходкай скіравала на тралейбусны прыпынак. Тут ужо было людна. Вельмі людна. І ёй, чалавеку, адвыкламу ад грамадскага транспарту, стала нават жахліва, калі людскі натоўп рынуўся да расчыненых дзвярэй тралейбуса.

“Божухна! Як вытрымаць месяц у гэткай калатнечы?”

Але нехта падпіхнуў яе са спіны, і вось Эльвіра Львоўна ў здушлівым салоне тралейбуса.

“Адлік пачаты!”

Жанчына кінула позіркам па галовах пасажыраў. Вусатых мужчын было зашмат.

“Дзе тут угледзіш свайго? — мільганула скрушная думка. — Але ж Мальвіна толькі на трэці дзень сустрэлася з Сямёнавічам. Тры дні прасядзела ў піўбары і дачакалася. Цярпі і ты, Львоўна, — супакойвала яна сябе, — нічога, калі трохі патаўкуць бакі”.

Першы дзень прайшоў упустую. Праўда, калі вярталася пасля працы дамоў, нейкі вусач папрасіў Эльвіру Львоўну пракампасціраваць талончык. Але ж гэты мужчына быў дужа брыдкім. З ім, падалося жанчыне, сорамна і ў людзі выйсці.

“Але ж нейкая дурніца жыве, а мо ён і халасцяк? Хоць наўрад. Цяпер усіх падбіраюць”.

Другі, трэці, чацвёрты, пяты дні нічога новага не прынеслі, калі не лічыць падранае крысо моднай скураной курточкі, якую набыла яна зусім нядаўна ў модным буціку.

Кожную раніцу, падыходзячы да тралейбуснага прыпынку, Эльвіра Львоўна запэўнівала сябе, што менавіта гэтым днём ёй, нарэшце, пашчасціць. Спадзяванні не спраўджваліся, але ж і адведзены для сустрэчы месяц яшчэ не канчаўся.

“Надзея памірае апошняй, — часта паўтарала сама сабе Эльвіра Львоўна. — Другім пашчасціла, а чым я горшая? Лагічна? Так. Вось і чакай”.

Вечары праходзілі аднастайна. Як і раней, калі не ўлічваць толькі спадзяванні жанчыны не заўтрашні дзень. У гэтым сяброўку пераконвала па тэлефоне і Мальвіна. Яна кожны вечар званіла і замест прывітання адразу пыталася: “Ну як, Эльвірачка?” А ў адказ чула завучана-аднастайнае: “Пуста”.

— Ты вачамі больш па салоне страляй. Не будзь цюхцяй. Умей паказаць сябе. — Раіла сяброўка.

— Нягож, пакажаш. Ты ездзіла калі-небудзь у праклятых тралейбусах? Маўчыш. Паспрабуй разок уціснуцца ў дзверы праклятага тралейбуса. Душу вытрасуць, вантроб’е выціснуць. Але ж я, Мальвіначка, гляджу, сяку вачыма наўкола, ды пакуль не фарціць. Буду чакаць, яшчэ застаўся тыдзень, — горка ўздыхала Эльвіра Львоўна. — Кожную раніцу запіхваюся ў тралейбус, душой адчуваю, што тут ён, тут, але пазнаць пакуль не выпадала. Не прыціснуліся яшчэ адзін да аднаго. Многа кідкіх вусачоў, але ўсе — не мае, з пячаткамі жанацікаў на лбах. Праворнейшыя бабы *пахапалі*.

— А што? Жанацік не можа стаць тваім? Ты ж, здаецца, сучасная жанчына, а мысліш дапатопна! — ушчувала Мальвіна Эльвіру Львоўну.

— Мыслю я нармальна. Толькі скажы: ці шмат знойдзецца дурняў нешта мяняць? Мужчыны баязліўцы. Яны, калі прыраслі ўжо да нейкай клуні, то, лічы, назаўсёды. Праўда, крок, паўкроку ў бачок змогуць зрабіць, а каб кардынальна ўсё мяняць — не тут то было. Дудкі.

— Менш псіхалогіі, дарагуша. Мужа шукаюць не па кніжках.

— Вось і я пра тое. У тралейбусах. — Зласнавата выпаліла Эльвіра Львоўна.

— Не нервуйся, сяброўчка. Будзь спакайнешай. Добра высыпайся, гэта галоўнае. Які сон, такі твар-тавар. Ну, пакуль. Заўтра паразваню.

Наступная раніца Эльвіру Львоўну здзівіла. Здзівіла па-сапраўднаму. На заўсёды людным тралейбусным прыпынку стаяла толькі некалькі чалавек.

“З-за чаго б гэта? Сёння ж не выхадны і не свята, а бач ты, бязлюддзе. Трэба спытацца”.

Эльвіра Львоўна падышла да маладзенькай дзяўчыны-студэнткі і, папрасіўшы прабачэння, спытала.

— З сённяшняга дня памянялі маршрут. У Куцяранку пусцілі аўтобус, а тралейбус цяпер да інструментальнага завода ходзіць, — ахвотліва патлумачыла дзяўчына. — Вунь бачыце, колькі стаіць людзей, там, дзе аўтобусы спыняюцца?

Дзіўна, але Эльвіра Львоўна з палёгкаю ўздыхнула. Быццам з яе плячэй знялі непамерна цяжкую ношу. Яна адчула душэўную і фізічную лёгкасць. Тую гармонію адзіноты, з якой звыклася і якую падсвядома не хацела губляць.

— Такі твой лёс, Эльвіра Львоўна! — выдыхнула яна і спыніла таксоўку.



своеасаблівага, унікальнага старажытнага горада. Гэта мова інтуіцыі ўлюбёнага ў Вільню чалавека, які ўглядаецца ў рытмы і праявы жыцця горада з пазіцый дасведчанасці, апантанасці і мастакоўскай сталасці.

Старажытная Вільня не адзіны гарадскі мастацка-фатаграфічны праект Міхася Баразны. Былі і іншыя, прысвечаныя Мінску, Рыму ды іншым гарадам. У кожнага з праектаў асабовыя мастацкія коды, свае вартасці ды актуаліі. Натуральна, маюць яны і агульныя прыкметы і асаблівасці.

Найперш, погляд на горад. Найчасцей ён скіроўваецца знізу ўгару. З аднаго боку, такі пункт гледжання дазваляе аўтару пазбавіцца атрыбутаў гарадской мітусні. З другога — можна адчуць павагу да помнікаў і рэштак гісторыі і культуры.

Погляд на чалавека. Людзей на фотаздымках Баразны не назіраем. За рэдкім выключэннем. Праўда, часам можа з'явіцца прывід у выглядзе ценю чалавека, ды запоўніць ледзь не ўсю прастору кадра.

Погляд на рэчаіснасць. Побыт не вельмі цікавіць мастака. Але рэчы з іх унутранай сутнасцю, прыналежныя да культуралагічных, гістарычных з'яў, становяцца персанажамі інтэр'ерных ці экстэр'ерных фотакампазіцый аўтара.

У віленскім фотапраекце мастака прагглядае штосьці большае, чым проста прыязнасць да старадаўняй сталіцы. Сам аўтар цікава апавядае пра свае стасункі з Вільняй:

"У студэнцкія гады мы мелі магчымасць і ездзілі калі не кожны тыдзень, то раз на месяц у Вільню. Я самастойна расшукваў выставачныя залы, адметныя архітэктурныя будынкі і вулачкі, па памятных шыльдах распазнаваў гістарычныя мясціны. Потым, калі ўжо вярнуўся ў Мінск, імкнуўся прачытаць пра Вільню ўсё магчымае ў розных літаратурных зборах, распытваў знаўцаў Віленскай гісторыі. Далей пачыналася стадыя параўнання бачанага з выявамі на рэпрадукцыях і аналіз. Паступова ў свядомасці вымалёўваўся вобраз МАЁЙ ВІЛЬНІ, які я і будаваў у прасторы свайго фотапраекта, прысвечанага гораду".

Відаць, што віленская серыя мастацкіх здымкаў Міхася Баразны яшчэ не дасягнула свайго лагічнага завяршэння і патрабуе працягу.

**Таццяна ГАРАНСКАЯ**

ленне, — герой раптам пачынае ўзгадваць сваё мінулае, — але рэжысёр спрабуе ператварыць гаворку Фігаро ў кульмінацыйны момант. Менавіта зараз ускрываюцца патаемныя думкі камердынера. Аказваецца, пад маскай весялосці ён заўжды хавае журбу. Яго з'ядае крыўда на лёс. Ён адчувае сябе чалавекам "другога гатунку". Бо Фігаро — падкідыш. Усё жыццё яму даводзілася прыніжацца, змагаючыся за сваё месца пад сонцам, тады калі Графу яго высокае становішча было дадзена з нараджэння. І цяпер, калі "яго высокасць" намеўся разбурыць шчасце вернага слугі, калі ён запрашае нявесту Фігаро на спатканне, камердынер проста плача ад роспачы.

Аднак фінал камедыі не можа быць сумным. Ланцуг інтрыг і выпадковых супадзенняў прымушае Графа згадзіцца на шлюб свайго слугі. У Фігаро нечакана "з'яўляюцца" бацькі — ключніца Марселіна (Алена Хрысціч) і ўрач Бартола. Керубіна таксама знаходзіць сабе нявесту — сваю аднагодку Фаншэту (Наталля Дуванава). Яе бацька, садоўнік Антоніа (Сяргей Шаранговіч), заўжды гатовы напіцца, нават раней, чым суддзя Дон Гусман (Віктар Маўчан) з'ядае дзяцей шлюбам. Такім чынам, Графіня ўратоўваецца ад сораму. Граф — таксама. Усе атрымліваюць свой кавалак сяточнага пірага. Але...

Фігара зноў апранае чорны плашч і сядае на авансцэну. З журбой ён глядзіць у далеч. Успаміны канчаюцца. Уздыхнуўшы, ён устае і выходзіць. Лёс чалавека без роду і імя не можа быць лёгкім...

Рэжысёру не заўсёды ўдаецца ўтрымліваць увагу гледачоў на галоўнай гісторыі сюжэта — інтрыгах, звязаных з вяселлем Фігаро. Час ад часу галоўным робіцца драма закаханай Графіні ці гульня з пераапрананнем Керубіна — у дзяўчынку. А каханне Сюзаны і Фігара бегцам праходзіць "другім планам". Хаця менавіта яно — прычына ўсіх інтрыг.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ПАМЯЦЬ

# Працяг яе любові

Дзевяноста пяць гадоў мінула з дня нараджэння Лідзіі Савулаўны Мухарынскай. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, з вялікай літары Настаўнік, вядомая збіральніца і даследчыца фальклору, эрудзіраваны музыкант, яна мела бясспрэчны аўтарытэт у прафесійным асяроддзі. Яе любілі і студэнты, і калегі.

Зрэшты, слова "любілі" — можа, і не зусім дакладнае. Лепш сказаць — яе любяць і памятаюць усе, хто быў сярод яе вучняў, з кім яна супрацоўнічала, сябравала. Нездарма памяці Л. Мухарынскай яе ўдзячныя "музычныя нашчадкі" прысвяцілі зборнік, у які ўвайшлі артыкулы, успаміны, фрагменты ліставання, фатаграфіі. І хаця выдадзены ён быў восем гадоў таму, актуальнасці не страціў. Укладальніца гэтай сціплай вонкі, але ёмістай паводле зместу кніжачкі — этнамузыколаг Т. Якіменка пісала: "Даўно заўважана: чым больш маштабнай з'яўляецца творчая асоба, тым больш шырокія плыні духоўнага працэсу яна сваёй дзейнасцю лучыць і тым больш грунтоўныя праграмы закладае для будучага развіцця".

Асоба Л. Мухарынскай захапляла (захапляе!) узнёсласцю памкненняў, мэтанакіраванасцю, глыбінёй, адкрытасцю да нязведанага. Ураджэнка Тыфліса, яна пасля заканчэння Маскоўскай кансерваторыі атрымала накіраванне на працу ў Беларусь, з якой зрадніласа да канца свайго жыцця. Медсястра-добраахвотніца, яна ў дзеючай арміі прайшла праз Вялікую Айчынную вайну... Апантаная даследчыца беларускага фальклору, збіральніца партызанскіх песень. Знаўца творчасці І. С. Баха і Д. Шастаковіча, з якім, дарэчы, перапісвалася. Аўтар навуковых прац, кніг, яна любіла і аператыўнае рэцэнзаванне новых музычных з'яў, пісала, між іншым, і для "ЛіМа"...

Лідзія Савулаўна любіла творчую працу і ўзоры музычнага мастацтва, любіла навуку і чын педагога. Любіла людзей. Невыпадкова менавіта ў яе памяць Беларуская акадэмія музыкі ўжо некалькі гадоў запар арганізуе навукова-тэарэтычныя чытанні. Са сваімі дакладамі, паведамленнямі, рэфератамі выступаюць музыказнаўцы ўжо новага пакалення, у тым ліку й студэнцкая моладзь. Сёлета гэтыя традыцыйныя чытанні, натхнёныя удзячнасцю да Настаўніка, праходзяць 5—6 красавіка. У іх — працяг вечнай любові да музыкі, да ведаў, да пошукаў і творчасці — любові, якая лучыць стагоддзі, яднае многія пакаленні настаўнікаў і вучняў...

**С. ВЕТКА**







*Лідзія Мухарынская ў дзяцінстве. 1914 г.*

*У 70-я гады.*

*Сярод выпускнікоў Маскоўскай кансерваторыі — трэцяя злева ў верхнім радзе; трэці справа ўнізе — музыказнаўца Б. Смольскі. 1939-40 гг.*

*Фота з Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі (асабісты фонд Л. Мухарынскай).*

ВЕЧАРЫНЫ

# Памяці Міхася Раманюка

У касцёле святога Роха прайшла вечарына-прэзентацыя кнігі Міхася Раманюка "Беларускія народныя крыжы", выдадзеная сям'ёю пасля яго заўчаснай смерці. На вечарыне выступілі Дзяніс Раманюк, Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан, Анатоль Сабалеўскі, Гаўрыла Вашчанка, Алесь Марачкін, Алесь Шатэрнік. На аргане граў К. Шараў, спяваў хор "Унія" (кіраўнік К. Насаеў).

Тры з паловай гады таму на пачатку верасня пайшоў з жыцця Міхась Раманюк, прафесар-мастацтвазнаўца, загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва ў БелАМ, этнограф, буйны даследчык матэрыяльнай культуры беларусаў XX ст. Кола інтарэсаў Міхася Раманюка было шырокім, і ён паспяваў паўсюль. Колькі было этнаграфічных экспедыцый разам з сябрамі, мастакамі і студэнтамі, якія прынеслі яму звыш ста тысяч адзінак унікальнага этнаграфічнага матэрыялу (дарэчы, апошняя адбылася за год да яго смерці). Плёнам сталіся — кандыдацкая дысертацыя, выданне артыкулаў і сабраных матэрыялаў, сярод якіх найважнейшае месца займае альбом "Беларускае народнае адзенне" (1981). Гэта кніга адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Прапаганда аўтэнтычнага народнага адзення працягвалася на персанальных выставах, у выданнях паштовых марак, буклетаў-плакатаў, у стварэнні сцэнічных касцюмаў для Дзяржаўнага акадэмічнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча, ансамбля танцаў Беларусі. Пра сустрэчы ў майстэрні М. Раманюка, поўнай даматканых і вышываных строяў з бабульчыных куфэркаў, памятаюць многія мастакі, пісьменнікі і навукоўцы. Застаўся ад Раманюка і вялізны архіў каштоўных і унікальных фотаздымкаў. М. Раманюк паспеў занатаваць той пласт народнай культуры, які зараз знікае для сучаснікаў і становіцца недаступным для даследчыкаў.

Апошні свой год Міхась Хведаравіч прысвяціў дапісванню аўтарскай манаграфіі "Беларускія народныя крыжы". Калі ўжо не быў здольны працаваць самастойна, дыктаваў жонцы. Ідзя выдаць кнігу ў гонар і памяць, як каштоўнае даследаванне для беларусаў, прыйшла ледзьве не адразу пасля смерці М. Раманюка яго сыну Дзянісу. Значную дапамогу аказалі яму Сяргей Дубавец, Андрэй Верацяно, Сяргей Кавалёў. Далей быў доўгі і складаны шлях: адабраць з архіваў бацькі неабходныя фотаздымкі, дазняць некаторыя рэчы, давялося некалькі разоў перапрацоўваць макет, а самае складанае — шукаць грошы на выданне. Дапамагалі, як кажуць, усім светам, сярод спісу ахвяравальнікаў — многа беларусаў-эмігрантаў, найвялікшую дапамогу аказаў Беларускі дабрачынны фонд у Вялікай Брытаніі.

Да выдання бацькавай манаграфіі Дзяніс Раманюк ішоў тры гады. І калі, нарэшце, перад новым годам сярод сяброў разнеслася чутка пра выхад манаграфіі, не верылася. Не верылася, нават калі гарталі тоўсты фаліянт. Выдатная папера, цвёрдая вокладка, 224 старонкі вялікага фармату 24х30, 303 фотаздымкі, 83 графічныя малюнкі...

Для Беларусі такое выданне нешараговае. Сама манаграфія, якая рыхтавалася аўтарам на працягу 25 гадоў, з'яўляецца грунтоўным даследаваннем беларускіх надмагілляў, пахавальнай атрыбуткі, класіфікацыяй разнастайных крыжоў і месцаў іх усталявання. Для чытача гэта кніга — магчымасць глыбока і ўсёбакова пазнаёміцца з унікальнай часткай традыцыйнай культуры беларусаў, з повяззю язычніцтва і сучаснай пахавальнай традыцыі. У кнізе можна знайсці такія нязвыклыя рэчы, як магілы самагубцаў, жальнікі, нарубы, "сіямінутныя" крыжы. Многа гаворыцца пра курганы, валуны, памятныя дрэвы, літыя, металічныя, мураваныя, каканічныя крыжы, пра розніцу між прысядзібнымі, абракальнымі, мемарыяльнымі, памятна-засцерагальнымі, прыкрыжнічнымі ды іншымі крыжамі. Гэтая тэма ў такім аб'ёме і з дадаткам такой колькасці ілюстрацый паднята ў даследаваннях упершыню.

Паказальны і той факт, што да выдання аніякім чынам не спрычыніліся дзяржаўныя беларускія выдавецтвы, кніга выдадзена ў Вільні на беларускай мове з англійскім рэзюме. Здаецца, з яе старонак з чытачамі гаворыць сама наша старажытная гісторыя, дзе пераплялося і язычніцтва, і хрысціянства, дзе валадарыць філасофія і эстэтыка продкаў.

"Гартаеш кнігу, — сказаў на вечарыне Адам Мальдзіс, — і напрошваецца вывад, што Беларусь — краіна найперш хрысціянская, а потым ужо праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая... Нас аб'ядноўвае крыж. Другая думка, Беларусь — краіна высокай духоўнай і мастацкай культуры. Якая разнастайнасць у праявах пахавання, крыжах. Беларусь, што мае такую высокую культуру, не можа не быць самастойнай цывілізацыяй, якая стасуецца з іншымі цывілізацыямі і істотна ўзбагачае іх. Безумоўна, гэта трагедыя Беларусі, што яна знаходзіцца на культурным пагранічы паміж усходам і заходам, праваслаўным і каталіцкім светам. Але гэта і шчасце, бо такое становішча вядзе і да ўзаемаўзбагачэння... Усё гэта вы пабачыце ў кнізе Міхася Раманюка, які ў 70-я гады, калі распачыналася яго даследаванне, адзін араў ніву народнай культуры. І калі б была такая намінацыя — кніга 2000 года, я б назваў прэтэндэнтам на гэты тытул кніжку "Беларускія народныя крыжы". Яна годна будзе прадстаўляць духоўную і матэрыяльную культуру Беларусі на радзіме і за яе межамі".

Пазнаёміцца з кнігай "Беларускія народныя крыжы" можна на выставе Таварыства беларускай мовы, а набыць у кнігарні "Акадэмкніга".

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

## І паэт, і празаік, і крытык



**За які жанр Валянціна Коўтун ні возьмецца, можна не сумнявацца, што вынікі атрымаюцца вартымі ўвагі і крытыкаў і чытачоў, бо ўсё, што яна ні піша, адпавядае высокаму мастакоўскаму ўзроўню. Выступаючы ў друку з 1966 года, Валянціна Міхайлаўна дэбютавала ў 1971 годзе кнігай паэзіі "Каляровыя вёслы", якая, як і наступныя "На ўзлёце дня", "На зломе маланкі", "Метраном" (у 1986 годзе адзначана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова), "Лісты да цябе", прывабіла тым, што аўтар піша нязмушана, а застаючыся лірыкам, не абыходзіць складаных момантаў жыцця. Празаічныя ж набыткі В. Коўтун — найперш раман у дзвюх кнігах "Крыж міласэрнасці". Не адмаўляючы яе поспехаў і ў галіне апавядання, трэба сказаць, што менавіта зварот да незабыўнага вобліку Цёткі дазволіў пісьменніцы глыбока спасцігнуць сутнасць здзейсненага гэтай выдатнай нацыянальнай дзяячкай, а адначасова раскрыць тыя няпростыя працэсы, што адбываліся ў пачатку мінулага стагоддзя на шляху да беларускасці. Зборнік жа апавяданняў "Калінавая гронка залатая" — імгненні з жыцця, якія падгледжаны таленавітым аўтарам, атрымліваюць сваё ўсебаковае раскрыццё, ператвараючыся ў праўдзівыя малюнкі дня сённяшняга і ўчарашняга. А да ўсяго В. Коўтун — і даследчык літаратуры, і яе гісторык (мае навуковую ступень кандыдата філалагічных навук): выйшлі даследчыцкія працы "Святло народнага слова. Паэтычны лад беларускай народнай песні" і "Крыніца паэзіі. На шлях эпізацыі".**

**Родам жа Валянціна Міхайлаўна з вёскі Дземяхі Рэчыцкага раёна, дзе нарадзілася 6 красавіка 1946 года. Пасля заканчэння сярэдняй школы працавала піянерважатай. У 1964 годзе паступіла на філалагічны факультэт Львоўскага дзяржаўнага універсітэта, з чацвёртага курса якога перавялася ў Беларускі дзяржаўны універсітэт (скончыла ў 1969 годзе). Настаўнічала, была літаратурным кансультантам "Сельской газеты", літсупрацоўнікам, рэдактарам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства "Полымя", загадвала рэдакцыяй літаратуры для юнацтва выдавецтва "Юнацтва". З 1990 года зноў працуе ў рэдакцыі часопіса "Полымя". У 1977—1980 гадах вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

**З 55-годдзем вас, шаноўная Валянціна Міхайлаўна! Доўгіх гадоў жыцця вам і нязменных творчых поспехаў!**

## "Крыніца", N 63

**На першых старонках трэцяга сёлетняга нумара часопіса "Крыніца" змешчана гутарка Леаніда Галубовіча з Нілам Гілевічам. У рубрыцы "Ты" друкуюцца таксама вершы народнага паэта. Пра ягоную творчасць і грамадзянскую пазіцыю пішуць Леанід Галубовіч, Усевалад Гарачка, Вольга Шынкарэнка, Алесь Бельскі, Яўген Стасевіч і Уладзімір Конан.**

**У нумары змешчаны вершы Святланы Явар, Іры Голубевай і Алеся Макрацова.**

**Увазе чытачоў прапануецца новая аповесць Міколы Купрэева "Рэчкаю плывём, плывём..." Усевалад Гарачка і Алесь Астраўцоў публікуюць свае нататкі на літаратурныя тэмы.**

**У рубрыцы "Ён" прадстаўлена постаць слыннага філосафа Хасэ Артэгі-і-Гасэта. Валянцін Акудовіч падае асноўныя звесткі з жыццяпісу вялікага іспанца, а ў перакладзе Сяргея Верацілы (ён жа аўтар прадмовы) і Анатоля Прасаловіча друкуюцца эсэ "Дзецям Іспаніі", "Касмапалітызм", "Пра трамвай і эстэтыку" і ўрывак з эсэ "Ад Мадрыда да Астурыі, або Два краявіды".**

**У перакладзе Ірыны Клімковіч надрукавана "Камедыя памылак" Генрыка Сянкевіча.**

**Ф. ТРОНКА**

# Мілыя сэрцу падручнікі

## ВЫДАВЕЦТВУ "НАРОДНАЯ АСВЕТА" — 50 гадоў

З выдавецтвам "Народная асвета" мяне звязваюць даўнія і добрыя адносіны. Не раз, па справах службы, сустракалася я з Ігарам Мікалаевічам Лапцёнкам, дырэктарам выдавецтва. Мне імпануе яго шчырасць, пачуццё гумару і тое, з якой асалодай гаворыць ён пра будзённыя выдавецкія справы. Больш за 10 гадоў ведаю Яўгена Сяргеевіча Гучка, вядучага рэдактара падручнікаў па геаграфіі, эрудыта, таленавітага паэта і вельмі спагадлівага чалавека. Вялікую сімпатыю выклікае ў мяне абаяльная і інтэлігентная Надзея Гаўрылаўна Ляўчук, якая рэдагуе падручнікі па фізіцы і матэматыцы. Калі ж я прыходжу ў дом на праспекце Машэрава і падымаюся на 10-ы паверх, мяне агортвае пачуццё уласнай недасканаласці, таму што нават у калідорах там пануе дух вялікіх ведаў, часткай якіх у школьны час па ляноце сваёй, ці па няўважлівасці я не авалодала...

Асветаўцы — людзі ў нейкім сэнсе апантаныя сваёй справай, яны працягваюць працаваць нават у пенсійнным узросце. Трэба мець немалыя веды, каб рыхтаваць і рэдагаваць падручнікі па гісторыі, мове, літаратуры, геаграфіі і дакладных навуках. Асветаўцы трымаюць факел ведаў высока, на іх кнігах выхоўваюцца ў нашай краіне адукаваныя грамадзяне. Дзеці не надта задумваюцца над тым, як і дзе ствараюцца падручнікі, але несумненна памятаюць словы ўнізе падручнікаў: "Выдавецтва "Народная асвета".

Сёлета ў "Народнай асветы" залаты юбілей — 50 год, узрост творчай сталасці. Галоўная задача — ранейшая: добрыя і разумныя падручнікі для вучняў, зручная метадычная літаратура для настаўнікаў і бацькоў, усе неабходныя матэрыялы для забеспячэння вучэбнага працэсу, у тым ліку і спецыяльныя камплекты, якія ўключаюць у сябе падручнік, вучэбны дапаможнік, рабочы сшытак, кнігі для настаўнікаў і бацькоў.

А гісторыя выдавецтва пачалася пасля вайны, калі ў складзе адзінага тады дзяржаўнага выдавецтва стварылі спачатку рэдакцыю вучэбнай літаратуры.Потым, пастановай Савета Міністраў БССР, зрабілі структуру і больш сталую. І адбылося гэта 1 красавіка 1951 года. Тады існавала адзіная сістэма адукацыі, таму асноўная частка падручнікаў паступала з Масквы і перакладалася на мовы нацыянальных рэспублік. З 1956-га года ў Беларусі пачалі ствараць свае першыя нацыянальныя падручнікі, але асновай усё ж быў падручнік саюзны. Свае выпускалі слоўнікі: руска-беларускі, беларуска-рускі, падручнікі па мове для пачатковай школы і г. д. Усё гэта адбывалася адначасова з рэформамі, якія праходзілі ў школе: абавязковае сямігадовае, потым дзесяцігадовае прафесійнае навучанне, пераход на адзінаццацігодку. Разам з гэтым мяняліся і задачы, якія стаялі перад выдавецтвам.

Акрамя вучэбнай, выпускалася ў "Народнай асвеце" і мастацкая літаратура — таксама для школьнага працэсу. Друкаваліся творы М. Танка, А. Куляшова, З. Бядулі, Я. Маўра, М. Багдановіча, К. Буйло, Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, П. Панчанкі. Асобнымі кніжкамі прадстаўлена паэзія Я. Купалы і Я. Коласа, творы У. Шэкспіра і М. Твэна. Выходзілі спецыяльныя альбомы для школы, прысвечаныя жыццю і творчасці класікаў беларускай літаратуры — М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, К. Чорнага. У напісанні навукова-папулярнай літаратуры для дзяцей прымалі ўдзел і пісьменнікі: згадаю тут "Салігорскае дзіва" М. Паслядовіча, "Старонкі нашай гісторыі" В. Вольскага. Аўтарам дзеючага "Буквара" з'яўляецца член СП Анатоль Клышка, які падрыхтаваў яшчэ некалькі кніг для мастацкага чытання. Алесь Якімовіч на працягу многіх гадоў быў складальнікам кнігі для чытання "Роднае слова". У выдавецтве ў свой час пачыналі творчы шлях і атрымалі добрую школу паэты і празаікі Еўдакія Лось, Янка Непачаловіч, Уладзімір Ляпёшкін, Уладзіслаў Нядзвецкі, Уладзімір Ляўданскі, Уладзімір Дамашэвіч.



*Здымак зроблены ў адным з пакояў выдавецтва. Злева направа: мастацкі рэдактар Л. Паўленка, вядучы рэдактар А. Пыльчанка, аўтар "Буквара" А. Клышка, мастак У. Пашчасцеў, загадчык рэдакцыі мастацкага афармлення Р. Фралоў, кіраўнік гуманітарнага напрамку А. Дзераш.*

Цікавасць юных чытачоў выклікалі гісторыка-літаратурныя нарысы "Незабыўнымі сцежкамі" Сцяпана Александровіча, "Падарожжа ў 19-е стагоддзе" Адама Мальдзіса, "Зямля пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча, кніга Валянціна Рабцэвіча "Аб чым расказалі манеты".

Найбольш пераломны этап супаў з прыходам у выдавецтва на пачатку 90-х гадоў новага дырэктара - Ігара Лапцёнка. Гэта былі апошнія часы перабудовы і набыцця незалежнасці. Тады якраз і паўстала пытанне стварэння нацыянальных падручнікаў для 11-гадовай агульнаадукацыйнай школы, а гэта не больш і не менш, а — 750 назваў! Дагэтуль у рэспубліцы выдавалася 250, а ўсё астатняе было завознае. Не было сваіх падручнікаў ні па матэматыцы, ні па хіміі, ні па фізіцы, ні па натуральных прадметах, ні па сваёй гісторыі. Задача была — стварыць іх у самыя сціслыя тэрміны. Сумесна з Міністэрствам адукацыі распрацавалі спачатку праграмы, а потым пачалі выдаваць і падручнікі. У 1991-1992 гадах вельмі цікавай з'явай стала выданне 32 сваіх падручнікаў па гісторыі і геаграфіі. Яны былі, магчыма, не зусім дасканалыя, але сталі добрым падмуркам для далейшай працы. З пераходам школы да 12-гадовага навучання выдавецтвам былі распрацаваны і выдадзены падручнікі па гісторыі Беларусі з 1-га па 11-ы клас, па сусветнай гісторыі з 5-га па 11-ы клас, завершаны выпуск "Геаграфіі", а зараз распрацоўваюцца вучэбныя матэрыялы для 12-га класа на рускай і беларускай мовах. З'явіліся і новыя, якіх не было ў савецкай школе. Напрыклад, упершыню ў нашай краіне распрацаваны інтэграцыйныя курсы: "Чалавек і свет" з 1-га па 4-ы клас, які складаецца з трох раздзелаў — "Чалавек і прырода", "Чалавек і грамадства", "Чалавек і здароўе". Гэты курс плаўна пераходзіць у другі — "Сусвет" — для 5-га і 6-га класаў на рускай і беларускай мовах, затым — "Мой свет" (8-ы і 9-ы класы), а зараз распрацоўваецца курс для 10-га і 11-га класаў.

У сувязі з тым, што адбылася чарнобыльская аварыя, створаны падручнікі з 1-га па 11-ы клас па радыяцыйнай бяспецы.

І яшчэ. Выдавецтва заклапочана і стварэннем падручнікаў для спецыяльных школ — для дзяцей, якія адстаюць у фізічным і псіхічным развіцці. Для іх, пачынаючы з 1996-га года, выйшла ўжо каля 150 падручнікаў розных напрамкаў.

Яшчэ выдавецтва выпускае даведнікі і слоўнікі, а гэта таксама вялікі кавалак работы. Без слоўніка сёння праблематычна штонебудзь вывучаць. Выдадзена больш за 40 слоўнікаў-даведнікаў па ўсіх напрамках, ёсць і даведнікі па мовах і па літаратуры.

На заканчэнне хочацца ўзгадаць пра самае каштоўнае — супрацоўнікаў выдавецтва, таму што за ўсімі рэформамі, лічбамі, поспехамі — іх праца, іх лёсы. Многія з іх аддалі выдавецкай справе ўсё жыццё. Як не ўзгадаць першапраходцаў "Народнай асветы"? Гэта Б. Кімбар, В. Дзебалтоўская, Р.Мінц, К. Кобызева, М. Казбярук, Г. Ягорава, Т. Белая, В. Матукоўская, В. Курбека, С. Майхровіч, С. Грабчыкаў, Н. Лапіцкая, Я. Рапановіч і шмат іншых — усіх пералічыць проста немагчыма.

Ігар Лапцёнак з вялікай цеплынёй гаворыць пра людзей, з якімі яму выпала працаваць: пра вядучага эканаміста Л. Рамановіч, вядучых рэдактараў выдавецтва К. Лукашэвіч, С. Аніскевіч, А. Пыльчанку, Я. Гучка, Н. Ляўчук, начальніка фінансава-эканамічнага аддзела Э. Васіленка, галоўнага мастака Г. Фралову, мастацкага рэдактара Г. Красінскага, эканаміста Л. Поздневу, карэктараў І. Яромчык, С. Яновіч, намесніка дырэктара па вытворчасці В. Чуліцкую і іншых супрацоўнікаў.

Пад залаты юбілей можна гаварыць і пра ўзнагароды. А было іх за ўвесь час нямала. У 1965 годзе беларускі падручнік упершыню атрымаў Залаты медаль на ВДНГ СССР, у 70—80-ыя гады — 2 ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР. У 1999 годзе Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь быў праведзены конкурс "Лепшы падручнік года". Сярод 3-х намінантаў былі 2 назвы "Народнай асветы": комплекс "Буквар" А. Клышкі атрымаў першы Дыплом і трэці Дыплом — "Сусветная гісторыя" на беларускай і рускай мовах. "Народная асвета" за апошнія 10 год атрымала каля 40 дыпломаў. "Буквар" А. Клышкі ў свой час быў узнагароджаны сярэбраным медалём ВДНГ СССР, залатым медалём на міжнароднай Лейпцыгскай выставе.

Поспехаў — нямала, а наперадзе — шмат новых планаў і задумак. Няма сумневу, што "Народная асвета" будзе па-ранейшаму радаваць маленькіх і юных нашых суграмадзян выдатнымі падручнікамі і кніжкамі, такімі мілымі нашаму сэрцу на ўсё астатняе жыццё.

**Люба ЯГОРАНКАВА**




***Вось ужо больш дзесяці гадоў кіруе літаратурным аб'яднаннем "Нёманец" (г. Узда) Віктар Сабалеўскі. І не таму, што работнік рэдакцыі "Чырвоная зорка", а таму, што сам паэт-лірык, аўтар дзвюх кніг "Чабаровая паляна", "Абранніца". У "падпарадкаванні" Віктара каля 30 чалавек, большасць — паэты. Узрост — самы розны — ад 10 да 80 гадоў. Не пакрыўлю душой, калі скажу, што амаль кожны ўздзенскі паэт сваім "адкрыццём" абавязаны Віктару. Ёсць у яго гэта цудоўная здольнасць — адкрываць, падтрымліваць. Сёння "ЛіМ" знаёміць чытачоў з вершамі Віктара Сабалеўскага.***

## Віктар Сабалеўскі



●

*Ад цябе мне не схавацца*
*Па-за сценамі муроў,*
*Не ўцячы, не ўратавацца*
*За віном сярод сяброў.*

*Не астудзіць час кахання,*
*Ён над намі — не ўладар,*
*Нават доўгаму расстанню*
*Не згасіць жадання жар.*

*Хай вятры гудуць над полем,*
*Замятае сцежкі снег —*
*Перашкодаў нам чым болей,*
*Тым хутчэй насустрач бег.*

*Дык не буду шкадаваць я*
*Цёплых слоў для пачуцця.*
*Не ўтаіць свайго мне шчасця,*
*Не схавацца ад жыцця.*

### На возеры

*Кроплі вады на тваіх плячах,*
*На руках тваіх і на шыі*
*Яркім сонейкам вабна блішчаць,*
*Як агеньчыкі залатыя.*

*Грацыёзна ідзеш па вадзе*
*Каралеўнай азёрнай гладзі,*
*Пераможна глядзіш на людзей,*
*Нібы ружа ў асеннім садзе.*

*Адчуваеш сваю пекнату,*
*Але не звяртаеш увагі,*
*Што на беразе хлопец-пастух*
*Прагна губы кусае ад смагі.*

●

*Не канчаўся б гэтым жнівень,*
*Не мінала б наша лета!*
*Хай пачуццяў шчодры лівень*
*Не спыняецца на гэтым.*

*Хай і восенню каханне*
*Абсыпае нас цяплом,*
*Будуць шчырымі спатканні,*
*Жыццё будзе дзіўным сном.*

*Ні халодны дождж, ні вецер*
*Нам не стануць перашкодай.*
*Не наступіць шчасця вечар*
*Ні праз тыдзень, ні праз годы.*

*Не разлучаць нас дарога*
*І жыцця выпрабаванні.*
*Дзён шчаслівых шмат у бога,*
*Калі верыць у каханне.*

# Адкуль пачынаецца рэха

ДВА ЭЦЮДЫ АБ ПАЭЗІІ

## Сцяжынка да верлібра

### ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ "ЛІСТКІ КАЛЕНДАРА"

***Вы хочаце ведаць,***
***Аб чым гаварылі ў суботу***
***Дваццатага верасня***
***У Пількаўшчыне, у нашай хаце,***
***Калі ўсе пад вечар***
***Вярнуліся з поля, з работы,***
***І свежымі дранікамі частавала***
***нас маці?..***

Верш Максіма Танка "Проза". Дакладная дата, дакладны адрас... Так пачыналі свой аповед даўнія хранікёры-летапісцы... Паэт даверліва вядзе чытача на гэтую сямейную асамблею, дзе

***Хвалілі пагоду...***
***Падлічвалі, колькі хто***
***На працадні атрымае***
***І колькі спатрэбіцца дрэва***
***На новыя сцены...***

Потым ад клопатаў хатніх пераходзілі да спраў вясковых:

***Прыкідвалі, колькі***
***Згуляем вяселляў, хрысцінаў.***
***(На вёсцы — усё на вачах,***
***Не схаваеш нічога:***
***Вядома, хто з кім***
***І калі начаваў у адрыне,***
***Хто брагу схаваў***
***У глушы хмызняку баравога).***

Далей — маштабы шырэюць. Быццам сама планета наша прыходзіць са сваім неспакоем і садзіцца за сялянскі стол:

***Змярканнем святло запаліўшы,***
***Газеты чыталі.***
***Цікавіліся ўсе справамі***
***Міру найболей...***
***— Скажы нам, —***
***пыталіся ў мяне, —***
***Чалавек ты бывалы,***
***Мо варта крыху прызапасіць***
***Запалак ды солі?..***

Так: не адпускае адчуванне, што гэта не верш разгортваецца, а ідзе нязмушаная гаворка. Вольная, не скаваная адбітай на лічыльніках колькасцю складоў рытміка, гнуткая, гутарковая фраза, але радок трымаецца моцна, ён мускулісты, і страфа не распаўзаецца, хоць і рыфма праглядвае неяк нясмела, яе як бы і няма, яна як бы і непатрэбная тут ("непатрэбнымі мыліцамі" назваў аднойчы рыфмы Максім Танк, — у палемічным запале, разумецца. Бо не дужа далёка па часе ад гэтага выказвання паэт, як бы застрахоўваючыся ад папіканняў, што ён "слабак зрыфмаваць", занатоўвае такія сакавітыя сугучы: няпрошаны — гарошыны, белае — беглае, пасланцом быў — бомбы... — проста гэтак, гуляючы...).

Нязмушана і натуральна нараджаўся танкаўскі верлібр. Гарманічную аснову яго паэт знаходзіў у жывой гутарковай мове, у гуках навакольнага жыцця. Вось: "у лесе з бацькам пілуем на дровы... сухастой... Як смык, звініць і звініць наша піла. Перш мне здавалася, што звон яе аднастайны. Але потым я пачаў адрозніваць яго адценні. Іначай спявала наша піла, уразаючыся ў асіну, іначай — у сасну, іначай — у настылую ардзель, скручаныя жылы чачоткі ці стрыжнявую, сукаватую, быццам кавальскімі цвікамі збітую елку"... (Хай сабе ў скрыпцы і не смык гучыць, а струна, але тут жа смыкам ходзіць піла — то й гучаць будзе!) А то яшчэ: "дождж усё шуміць, усхліпвае, уздыхае, булькае, хлюпае... Аж дзіва, колькі ў яго голасе адценняў"...

Вось перад гэтым дзівам і спыніўся верлібр, і загаварыў Танкавым голасам. На суровай жыццёвай глебе ўзрасталі і выспявалі эстэтычныя прынцыпы, паэтыка Максіма Танка. "Сапраўдная паэзія, — перакананы ён, — пачынаецца не са слоўнай і рытмічнай эквілібрыстыкі, але — ад думкі". І прызнаецца: "Стараўся пазбегнуць таннай патэтыкі і позы"...

Як дапытлівы псіхолаг, разважлівы мысляр і як чуйны музыка, услухоўваецца паэт у людскую гамонку. Бо: "па тым, як гучыць твая мова, песня, можна здагадацца, і як жыве народ". Сувязь самая непасрэдная. Пошук паэтычнай формы ў Максіма Танка грунтуецца найперш на паліфанічным ладзе жывой народнай мовы, на яе лексічным і сінтаксічным багацці, рытмічнай рухавасці, на тонкім адчуванні этымалагічных каранёў, семантычных глыбіняў і таямніц, шматзначнасці і трапнасці роднага слова — як духоўнай выявы і жыццядзейнага гаранта народнага светаўспрымання і светаразумення...

Вось адзін з такіх "лінгвістычных мосцікаў" — з 1938 года, ад сямейнага штрышка пра тое, што "дзядзька Фадзей,якога дзед часта называе бадзіняй, задаволіў сваю прагу да вандровак" — і аж у 1978 годзе, калі ўспыхнула гэтае дзедава "бадзіня" (пэўна ж — ад "бадзяга") у "Быліне пра касмічнае падарожжа Мураша-Бадзіні" — вясёлым і займальным творы для дзяцей, з сучасным казачным сюжэтам...

А то яшчэ — гэта ўжо я адкрыў для сябе нечаканую і радасную знаходку: калісьці (таксама гадоў сорак праскочыла) "зачапіўся" я за наша, "дамашняе", мачулінскае, слова "капані" — і завязаўся з яго, вырас аднайменны верш (зноў жа — дзіцячы). Думалася, што нідзе больш і няма такога слова. І во — толькі што, перачытваючы "Лісткі календара", — раптам сустракаюся з ім у Максіма Танка: "палазамі-капанямі", — аж на другім краі Беларусі адгукнулася!.. Раней са слоўнікамі не звяраўся, а цяпер пачаў шукаць. Знайшоў — у "Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі...": "Капані — палазы, якія зроблены з выкапаных з коранем дрэў..." — і прыклад: з Вілейшчыны... А "Тлумачальны слоўнік" — маўчыць... І шкада: каларытнае слоўца!..

Сувязь з роднай зямлёй, глыбокія карані высока ўзносяць крону паэзіі Максіма Танка. Ад песеннай душы, ад казак і легенд народа, яго творчага генію ідзе паэт да пошуку і адкрыцця самых сучасных рытмаў і фарбаў. На гэтай глебе, а не на фармальным штукарстве і выкрутасах словам, вырастае вольны верш — верлібр — Максіма Танка:

***Я пісаў зямлі многа лістоў***
***Пяром, якім пішуць лірычныя песні...***
***...Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак,***
***Якія смяюцца і плачуць;***
***Пісаў спіцамі дрогкіх калёс,***
***Якарамі і мачтамі караблёў...***
***...Але пакуль што***
***Адказ атрымаў я***
***Толькі на ліст мой,***
***Напісаны плугам.***
***Вось ён.***
***Паразжце не скібы яго.***
***Частуйцеся.***
***Ешце.***

Рытмы верша Максіма Танка, спалучаныя з багатай асацыятыўнай вобразнасцю, арганічна выяўляюць інтанацыйнае багацце нашай мовы і, галоўнае, — даносяць да чытача самыя тонкія і патаемныя адценні лірычнага пачуцця і думкі.

Занатоўваючы ў "Лістках календара" штодзённыя назіранні, уражанні, разважанні, Максім Танк марыў скласці з іх "сваю табліцу жыццёвых элементаў"... Гэтая пераклічка з геніяльнай Перыядычнай сістэмай элементаў Мендзялеева — не выпадковая: у ёй засведчана памкненне паэта да мастацкага асэнсавання жыцця ў фундаментальнай яго паўнаце і завершанасці, у яго адзінстве і шматграннасці, у штодзённай шматаблічнасці і вечнай прыгажосці і красе... І ў гэтым сэнсе кожны чалавек не толькі часцінка сусвету, але і дзейсны творца яго, духоўны сейбіт на яго ніве. І таму пры ўсёй сваёй маштабнасці паэзія Максіма Танка засяроджана і клопатна, з сардэчнай цеплынёй і спагадай углядаецца ў лёс канкрэтнага чалавека. І таму — стыхія роднага слова, музычны лад мовы, а ў ім — і вольны верш, верлібр, — крылы, на якіх узлятае жар-птушка яго паэзіі...

## Згубіцца, каб застацца,

### АБО ПАДВОЙНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА РАДКА

Напэўна, спачатку неўсвядомлена, ды так яно, хутчэй што, і ёсць, бо іначай як жа з паэзіяй можа быць? — але пачынае акрэсліваца пытанне, адкуль гэты сустрэчна-паралельны, люстраны, рух? Ад сумежнай рыфмоўкі? Магчыма, — як у вершы "Шлях Максіма Гарэцкага":

***Цёмна, цёмна — хоць ты плач, —***
***З неба зоры ўкраў крумкач.***
***Да святла дайсці ўсё ж трэба.***
***Тут зямля, тут наша неба,***
***Тут шынок, а тут турма,***
***Нават нашая зіма.***
***На крыжах завея грае.***
***Кожны крыж свой выбірае.***
***А ў Гарэцкага дарога***
***Да вясны, святла і Бога...***

Розныя сэнсавыя і лагічныя сувязі яднаюць паралелі двухрадкоўяў: прычынна-тлумачальныя, узмацняльныя, пабуджальныя, пярэчлівыя і сумоўныя... Але несумненна: радок як бы дагукваецца да радка, шукае і чакае сваё рэха... Несумненным выглядае і спрыянне гэтаму іх непасрэднай блізкасці, абвостранай судакранальнасці, змацаванай сумежнасцю рыфмы. І ўсё ж, магчыма, — і найбольш верагодна: спосаб арганізацыі верша яшчэ не ўсё вызначае. Ён толькі знешняе выяўленне, сігнальны знак чагосьці карэнна-сутнаснага, пакліканага не адно толькі фармальнымі высілкамі...

***Згубіцца ў восеньскім***
***густым тумане,***
***Нібы згарэць у восеньскім агні,***
***Нібы разбіцца на аэраплане,***
***Упаўшы з неанёльскай вышыні...***
***. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .***
***А тут ля вокан лётае сарока***
***І нас заве ў бярэзнік залаты,***

***Нібыта ў Храм,***
***дзе нас даўно з табою,***
***Шчаслівых, як ніколі, не было.***
***Згубіцца, каб застацца, быць з ракою,***
***Дзе стронга, як застылае святло.***
***Згубіцца і глядзець у цемру неба,***
***І не баяцца, што жыццё міне***
***І будзе нам нічога ўжо не трэба,***
***Як пылу, што прыгрэўся на акне...***

Рыфмоўка мяняецца (там была сумежная, тут — перакрыжаваная), і паралелі як бы падвойваюцца, але іх суразмоўе трымаецца на той жа хвалі сустрэчнага палёту. Верш сам па сабе, здаецца, ціхі, не бунтоўны, прынамсі, не крыклівы. Ён не грукаецца з настойлівымі намаганнямі ў сэрца, але ўваходзіць туды па-сяброўску даверліва, і ты па-сяброўску жадана сустракаеш яго... З ім ёсць пра што пагаманіць... І гэты траісты паўтор — "застацца..." — вядзе, паглыбляе думку: ад простага, сузіральнага, пейзажна-замалёвачнага "згубіцца ў восеньскім тумане..." да метафізічнага (у сэнсе "дамарксавым": непадуладнага вопыту) угрунтавання чалавека ў космасе прыроды: "згубіцца, каб застацца...", і, нарэшце, — вечнае жыццё ў спасціжэнні душою Вечнага Духу: "згубіцца... і не баяцца, што жыццё міне..." Элегічную настраёвасць падмацоўвае рэха — нібы звон у сусветнай цішыні. Далёкі, але суцешны...

Падвойная перспектыва радка. Ці перспектыва голасу... Тут дзіўнае адчуванне, калі ўдумацца. Загадкавае. Не арыфметычна разлічанае. І такое заманлівае ў сваёй недамоўленасці, — накшталт вось гэтых "нашых" (хто яны? што яны?..):

***Нашы не прыйдуць, бо нашых няма,***
***І нам чакаць іх з табою дарма.***
***Ім не вярнуцца. Адкуль і куды?***
***Ім не вярнуцца ніколі сюды,***
***Так, як ніколі не вернецца дым***
***Да папяліішча назад, дзе сядзім,***
***Нібы трава, што шуміць да пары,***
***Покуль завеі няма на двары...***

Сапраўды — радок за радком — неяк па-русалчынаму кліча, заваблівае. Навяваецца штосьці шчымлівае. А разгадкі ўсё няма і няма... Яна няўлоўна аддаляецца, нібы ўцякае, пакідаючы агеньчык надзеі — як папараць-кветка...

***Покуль снягамі ўсё не замяло,***
***Снег успрымаецца, нібы святло,***
***Што асвятляе апошнія дні,***
***Дзе мы з табою, як на далані***
***Бога, якому сябе аддаём,***
***Быццам матыль,***
***што ляціць над агнём,***
***Вогненнай смерці сябе аддае,***
***Не разумеючы сэнсу яе...***

І зноў — вяртанне-рэха. Апошняе. Але — не адамкнёнае. Усё з той жа таямніцай. Шукай ключык сэрцам сваім:

***Нашы не прыйдуць, бо нашых няма,***
***Нашы не прыйдуць, бо заўтра зіма...***

Чуецца штосьці магічнае ў паралельных паўторах... Ляціць голас, — ён жа, безумоўна, ахіхае, каб недзе не знікнуць — а растварыцца, у нешта матэрыялізавацца зусім іншаснае, ужо не даступнае табе, няўлоўнае... І ён жа — вяртаецца. Вяртаецца рэхам. Значыць, рэха недзе там, на самым пачатку сваім, мусіць быць моцным — каб вярнуцца. Павінен быць сілавы момант, момант энергіі, каб нарадзіць той, сустрэчны, штуршок. Інача — не будзе вяртання. Будзе самотная глухата. Будзе абсалютная маўклівасць, як у стане касмічнай бязважкасці, і нулявая магчымасць "пачуць" сваю прысутнасць...

І так па-дзіцячы хочацца гукнуць у прастору і перабегчы туды, адкуль пачынаецца рэха — каб паглядзець сюды, дзе ты толькі што быў. Паглядзець, як на сябе самога, на свой голас — у момант існасці, які ўжо адляцеў у вечнасць. Зрабіўся рэхам. Але ж ён ёсць!..

Калі слухаеш музыку, калі паглынаюць цябе незямныя хвалі гукаў, хіба задумваешся тады аб іх прыродзе? Душа твая проста жыве іх жыццём — жыццём іх ладу, іх гармоніі. (Гаворка, ясна ж, пра музыку, якая мае правы так называцца, — гвалтоўнае гукаспалучэнне пацізу абмінём...).

Так і з паэзіяй. Та́к і з гэтымі радкамі, прынесенымі лютаўскай кніжкай часопіса "Полымя" (год 2001): чытаеш — і нібы твае крылы разгортваюцца, і перад табою адкрываецца прастор, які толькі што быў вядомы выключна аднаму чалавеку — аўтару, паэту. Імя яго — Віктар Шніп.

Яшчэ адзін сустрэчны палёт...

**P. S.** *І ўсё ж — як самапрысуд: немагчыма ніякім пераказам "ахапіць" паэтычны твор. Яго трэба чытаць. Бо па-за "канцэпцыяй" "пераказчыка" могуць застацца без "ацэначных курсіваў" не толькі такія іскрынкі, як з працытаваных фрагментаў: "стронга, як застылае святло"; "з неанёльскай вышыні" (якою адразу робіць "вышыню" гэтае "не" ў спалучэнні з "анёльскай"!..), але і з вершаў суседніх, ды не згаданых: "...іду..., /пакуль стамлюся вечнасцю зямной, / пакуль не ўбачу, хто ідзе за мной..."; "жыве ўва мне, як смерць мая, Іуда, / што знае час, калі мяне прадаць..."; "жыць паэту нялёгка, тым болей — жанчыне..."; "засыпаны снегам дамы і платы, / і ты сярод снегу, нібыта святы, / ідзеш без дарогі па белым святле, / нібыта па хмары, па белым сяле..."*

*Калісьці непаўторны і непараўнальны майстар прозы і мысляр Аляксей Рэмізаў спытаўся і адказаў: "...што трэба чалавеку ад чалавека? — так мала: кроплю сардэчнасці — і лёд растае..."*

*Такою сардэчнасцю прасветленыя вершы Віктара Шніпа.*

Васіль ЗУЁНАК

## Галоўнае — талент

ГЕНАДЗЮ ШУПЕНЬКУ — 65



**Менавіта так называецца і адна з кніг літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій Генадзя Серафімавіча.Аналізуючы творчасць І. Мележа, М. Лупсякова, П. Місько, В. Хомчанкі і іншых празаікаў, Г. Шупенька пераканаўча паказвае, што мастакоўскі пошук нязменна прыносіць жаданы плён, калі аўтар валодае значнымі задаткамі таленту. Менавіта гэта дапамагае яму пры добрым веданні жыцця ствараць яркія, непаўторныя творы. Да таленту крытык ставіцца як да першаасновы, на якой вырастае дрэва літаратуры. У няменшай ступені талент неабходны і крытыку, даследчыку літаратуры. Толькі ў такім разе пры наяўнасці належнай тэарэтычнай падрыхтоўкі можна дэталёва прааналізаваць той ці іншы твор у яго ідэйна-эстэтычнай цэласнасці. А такім талентам і валодае Г. Шупенька.**

**Нарадзіўся Генадзь Серафімавіч 6 красавіка 1936 года ў вёсцы Падбярэззе Мядзельскага раёна. Жыццё не песціла яго. Яшчэ ў час Вялікай Айчыннай вайны адчуў, па чым фунт ліха, быў пакалечаны фашысцкімі нелюдзямі. Таму і на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта паступіў толькі ў 1965 годзе. Але на гэтым нягоды не скончыліся. У час вучобы цяжка захварэў і дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў праз дзесяць гадоў. Пасля вучыўся ў аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры БДУ, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, а з 1979 года лёс звязаў з выдавецтвам "Мастацкая літаратура": быў рэдактарам, загадваў рэдакцыяй серыйных выданняў, цяпер зноў працуе рэдактарам.**

**Як крытык і літаратуразнаўца заявіў аб сабе ў 1969 годзе. Першая ўжо кніга "Цеплыня чалавечнасці" (1977) засведчыла, што Г. Шупенька належыць да даследчыкаў, якія асноўную ўвагу надаюць глыбокаму спасціжэнню мастакоўскай задумы пісьменніка, засяроджваюцца на творах, што з'яўляюцца для літаратуры вызначальнымі. У прыватнасці, ён з асаблівай павагай ставіцца да напісанага І. Мележам, першым высока і справядліва ацаніў раман І. Пташнікава "Алімпіяда".**

**Зарэкамендаваў сябе Г. Шупенька і як перакладчык. Па-беларуску пераўвасобіў творы Ц. Дзеры, П. Лагерквіста, што выходзілі асобнымі кнігамі, а таксама паасобныя апавяданні многіх пісьменнікаў колішняга Савецкага Саюза.**

**З 65-годдзем, шаноўны Генадзь Серафімавіч! Жыццёвай моцы Вам і новых творчых поспехаў!**

## "Всемирная литература", N 2

**Другі ў сёлетнім годзе нумар часопіса "Всемирная литература" прадстаўляе літаратуру Венгрыі і прысвечаны 40-годдзю творчай дзейнасці вядучай перакладчыцы з венгерскай мовы Т. Варонкінай. Ён выпушчаны пры садзеянні і фінансавай падтрымцы венгерскага боку, а ўсе аўтары і перакладчыкі ахвяруюць ганарар у фонд развіцця часопіса. Адкрываецца нумар словам Т. Варонкінай "Прызнанне ў любові". У яе перакладзе прапануюцца пачатак рамана Л. Біта "Павучэнне Ісаака", апавяданні І. Эркеня, вершы Э. Тота, а таксама іншыя творы. Вершы Ш. Пецёфі падаюцца ў перакладзе Б. Пастэрнака. У раздзеле "Літаратурная крытыка" ў перакладзе Т. Варонкінай друкуюцца артыкулы Л. Саба "Хімія слоў і выказаны свет" і І. Гараціяа "Падводзячы вынікі".**

## Голас "Гомана"

**З 28 лютага 1916 года да канца 1918-га ў Вільні выходзіла беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага адраджэнскага накірунку "Гоман". Яна паслядоўна выступала за нацыянальна-культурнае адзінства беларускага народа, за незалежную Беларускую рэспубліку, якая б магла ўваходзіць на канфедэратыўнай аснове ў адроджанае Вялікае Княства Літоўскае. Змяшчалася шмат матэрыялаў па гісторыі і нацыянальнай культуры. Упершыню былі апублікаваны некаторыя творы Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Алеся Гурло...**

# Пецярбургскія мроі

Анатоль КІРВЕЛЬ

***Пародыя, літаратурная містыфікацыя ці самапародыя — надта няўдзячныя жанры: гузакі дастаюцца найперш іх аўтару. Што ж — адным гузаком больш, адным менш — якая розніца? Галоўнае — каб не было сумна таму, хто асмеліцца слізгануць вокам па гэтых гузах і не заробіць ніводнага — на сваю бедную чытацкую галаву.***

***Поспехаў!***

•

Літаратура — гэта не тое, што ты бярэш, гэта тое, што ты аддаеш.

А той, хто бярэ, — адкрывае не цябе, пісьменніка, — адкрывае сябе. Бо ты — проста дапаможнік, даведнік: падказваеш чытачу, як адчыніць замкнёныя дагэтуль дзверы — не ў свой! — у яго непаўторны свет.

•

Паэзія там, дзе яе стварыў Бог.
На ўцеху Сабе ці нам?
Але й нам перапала. Май толькі вочы — каб міма не прайсці!

•

Не любяць пісьменнікі дзяліцца славаю. Хаця паасобку — добрыя хлопцы.

А добрым хлопцам — што дзяліць? Усё роўна Андрэй Федарэнка ніколі не напіша — ды й не будзе пісаць! — так, як, напрыклад, Юры Станкевіч, а той, у сваю чаргу, ніколі не пойдзе сцежкамі Барыса Пятровіча.

А Барыс Пятровіч галаву не ламае: даўно ведае, што літаратура — справа святая. Хіба тут да дзяльбы?!

•

Хто залічвае ў пісьменнікі: творчае прафесійнае аб'яднанне ці ты сам?

Раней было ўсё проста і зразумела: гэтым займаліся адпаведныя людзі на адпаведных пасадах і ў адпаведных установах...

Памятаю сваё здзіўленне, калі мне на вочы выпадкова трапілася паперка з архіваў былога ЦК КПБ, у якой, сярод мноства іншых, убачыў і сваё прозвішча з нечаканым для мяне ўдакладненнем: пісьменнік. А за маімі плячыма на той час (на той, калі складалася паперка) — адно аднюсенькае апавяданне "Бульбіна" ў часопісе "Маладосць", староначкі мо на паўтары, а то й меней...

Няўжо для тых, хто займаўся гэткімі справамі, тых староначак было дастаткова? Дык хто ж, цікава, залічыў мяне ў пісьменнікі: ЦК КПБ ці — што справядлівей! — Міхась Стральцоў, які працаваў тады ў часопісе рэдактарам аддзела прозы і ўхваліў тую "бульбяную" карацельку?

•

Гартаў надоечы даведнік "Беларускія пісьменнікі". Уражвае. Гэтульні імёнаў. Улічаных. А няўлічаных? Колькі іх? Даведніка не хопіць. Бо кожны, нават не пісьменнік, склаў на працягу жыцця хоць адзін верш, або напісаў шчыры чалавечы сказ, часам гэткі, што і класік пазайздросціць... Гэткая вось незвычайная пісьменніцкая нацыя — беларусы... Не кожны трэці ці кожны чацвёрты, а ўсе! Такога паказальніка не мае, напэўна, ніводная краіна, нават паднявольная.

•

У мяне — ажно тры "хросныя" бацькі. Першы — як ужо згадваў — Міхась Стральцоў. Чалавек-таямніца.

Апошні раз бачыў яго на мінскім чыгуначным вакзале. Тады яшчэ не разбураным. Чакаў цягніка. І раптам — ля тэлефонных будак, ля самага ўвахода, — Міхась Стральцоў. Задуменны нейкі, засяроджаны на нечым сваім.

Карцела падысці, павітацца, ды клопат Міхасёў быў занадта моцны, што мяне і стрымала. Так і не асмеліўся парушыць ягоную засяроджанасць. Падумаў — другім разам падыду... Хто мог ведаць, што другога разу ўжо не будзе... Так і хаджу з адчуваннем віны, што не зрабіў чагось патрэбнага — не мне — Міхасю...

Другі "хросны" — Уладзімір Дамашэвіч. "Маладосць" пераехала ў Дом друку, і я, завітваючы да родных у Менск, заходзіў, калі было з чым, у маленькі пакойчык, дзе сядзеў непрыступны, так мне здавалася, і ўжо тады сіваваты Уладзімір Максімавіч.

Хваліў мае асабістыя праўкі, але не спяшаўся даваць "дабро" чарговаму апавяданню. І якім вялікім было маё здзіўленне, калі ён ледзь не выхапіў у мяне з рук напісанае перад самым ад'ездам апавяданне, яшчэ не дапрацаванае, як мне здавалася, але Максімавіч быў непахісны, нібыта адчуваў, што правіць там нічога не трэба. А праз тыдзень здзівіў мяне яшчэ больш,паведаміўшы, што прапаноўвае апавяданне да друку. Так адбылося маё "ўваскрашэнне" пасля амаль што дзесяцігадовага маўчання...

І ўжо — на пачатку Адраджэння — меў ласку пачуць ад шаноўнага Івана Антонавіча добрыя словы ў свой адрас, і мо якраз ён — трэці "хросны" — даў сапраўдную пуцёўку ў вялікі свет літаратуры.

•

Ужо колькі гадоў адна незвычайная акалічнасць выклікае ў мяне непаразуменне: чаму штаны Леаніда Галубовіча маюць усяго адну кішэню — левую? А дзе правая? Ці яе зусім не было?

Непаразуменне высветлілася зусім нечакана: тыдні два таму набыў сабе штаны. Прынёс дахаты, зірк — а адной кішэні няма! Якраз левай! Адна правая...

Тутака і здагадаўся: распаролі жартаўнікі двое штаноў — адны з кішэнямі, а другія без іх, — ды зноў злучылі, але на іншы лад. І адны з гэтых штаноў трапілі Лёню Галубовічу, а другія — мне...

Вось гэтак мэнчымся... Адзіная ўцеха, што штаны ў нас з Лёнем аднолькавыя — літарацкія. Толькі кішэні розныя...

•

Сядзіць Міхась Скобла ў метро — едзе ад Садовай да Праспекта Бальшавікоў... Здагадаліся, што не ў Менску гэта...

І раптам бачыць: насупраць я сяджу.

Міхась варухнуў незадаволена вусамі і хацеў ужо сказаць яму: "Ну, што ты, Анатоль, тут, у Піцеры, робіш? Ехаў бы на Беларусь, чытача свайго парадаваў!" — ды перадумаў: ці варта казаць, калі ён сам не здагадваецца.

Зірнуў яшчэ раз і вырашыў не ехаць да Бальшавікоў. Хуценька на Віцебскі вакзал і — білет да Менска: "Не хоча Анатоль, дык сам паеду! І ў мяне чытач ёсцека! Асабліва ў розніцу — з розгамі!"

•

Белабрысенькі і худы, што дубец, Андрэй Федарэнка адчайна гнаў на роліках па Неўскім, і тралейбусы не тое каб дзівіліся — асцярожненька саступалі яму дарогу — разумелі: у Піцер прыйшла Вёска! І не абы-якая! Са Шчарбатым Талерам у кішэні!

•

Барыс Пятровіч стаяў ля "Кацькі", што насупраць Елісееўскай крамы, і, задраўшы галаву, прыдзірліва вывучаў кожнага з фаварытаў славутай імператрыцы.

"Чаму ў нас гэткага помніка няма? — думаў ён. — Незалежнасць ёсць, а помніка няма. Хіба мы горшыя за гэтых дармаедаў?! — касавурыўся Барыс Пятровіч на царскіх паплечнікаў ды падхалімаў. — Нам, як і ім некалі, таксама жыць хочацца... Аб'ядналіся ці што?! Толькі не поймуць гэтага: каго ў нас панімалі так, як трэба?!"

•

А вось хто ў сапраўднасці быў у Піцеры, дык гэта Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч, светлых яму начэй у цёмным Аідавым царстве. Быў разам з Пісьмянковым і непараўнальным дыпламатам Васілём Васільевічам Зуёнкам.

Распавядаючы пра свае творчыя кантакты, Іван Гаўрылавіч, нібыта між іншым, зазначыў:

— Нейкія вы, ленінградцы — тады шчэ гэткае найменне ўжывалася, — нясмелыя: не гэткія бойкія, як маскоўскія беларусы.

На што я, папрасіўшы прабачэння ў масцітага класіка, асцярожна ўдакладніў:

— То, можа, мы **болей** беларусы, чым масквічы, калі больш сціплыя ды нясмелыя?

На што Іван Гаўрылавіч у сваю чаргу ажно ў далоні запляскаў — ад задавальнення:

— Бач як! **Болей** беларусы, чым у Маскве! Відаць, і праўда... — і доўга яшчэ круціў галавой, абсмоктваючы з усіх бакоў нечаканую для яго думку.

А яны й дагэтуль такія самыя, пецерскія беларусы... Ці то сапраўды ад сціпласці, ці то ад вучонасці вялікай, Бог ім суддзя!

•

Уладзя Арлоў не верыў сваім вачам і таму адмоўна круціў галавой: "Не-е! Летні сад — гэта не Гайд-парк! І Піцер, так бы мовіць, не Лёндан, расейшчыны шмат, хаця шыльды — ледзь не спрэс па-ангельску. Іншая справа — Полацак: там усё сваё — арлоўскае..."

•

Каго не сустрэў у Піцеры, то гэта Драньга-Майсюка: адналюб ён. Ачмурэў ад Парыжа — і кропка! Што яму Піцер!

•

Алесь Пісьмянкоў, не расплюшчваючы вачэй, дарэмна намагаўся адарваць сваю русявую чупрыну ад не надта зручнай — бо вузенькая і гладкая, адно прысесці ці клунак паставіць — фірмовай лавачкі на фірмовым тралейбусным прыпынку: нарабілі ў Піцеры і гэткіх. І не толькі на Неўскім...

Дык вось якраз тут, насупраць "Гасцінкі", і праляжаў паэце ўсю ноч, **думаючы вершы**... Гэтулькі надумаў, што ўранні галавы не падняць. А шчэ кажуць, што муза па начох не гуляе... Чакай, дзе ж яна?! Во толькі побач шастала...

•

Якое цудоўнае слова — псеўданімб...

Апрач самастойнай вартасці, мае яшчэ і тую, што прыдумалася яно ў самым "пекле" — у маленькім лімаўскім пакойчыку, дзе гаспадаром Барыс Пятровіч, і дзе нараджаецца і спее практычна кожны нумар тыднёвіка.

А "пекла" таму, што яно літарацкае: і Андрэй Федарэнка сюды заскочыць, і Лёня Галубовіч зазірне, і Юры Станкевіч прытупае... Карацей, уся літарацкая раць... І спуску тут нікому не даюць... Як некалі ў піцерскім "Сайгоне", былой кавярні на Неўскім, адкуль і Даўлатаў вылузнуўся, і "Міцькі", і Б. Г....

Таго "Сайгона" даўно няма... Ды Барыс Пятровіч не прамарудзіў — падхапіў эстафету... Адно кавай не частуе... А так — амаль Піцер...

•

Міраслава Лукша, як апантаная, бегала па даўжэзнай піцерскай выспе — Неўскім праспекце — і ледзь не галасіла:

— Вось і знайдзі іх тутака! І куды яны ўсе пахаваліся, пся крэў! І Мікола Нікалаеў (файны такі хлопчык, але дужа ж вучоны — доктарам зрабіўся!)... І Валянцін Пятровіч (той, што брата старэйшага ў Менску пакінуў — у Піцер з сабою не ўзяў, — і гэны праз тое гісторыкам зрабіўся, Анатолем Грыцкевічам, чулі, напэўна)... І Аўгінечка Кавалюк (пэўна, нячысцік яе ў гэткае месца занёс: хто ж, калі шчыра, вершы на балоце піша?!)... І Анатоль Кірвель (ну, калі ён, бедалага, супыніцца: то ў Менск, то назад у Піцер?! Не Лось, дзякуй богу, ды й не Воўк! Дармо што мармуровы... Па-чалавечы, дык хапіла б з яго і Любчыных прыгодаў, аднак не... Шчэ штосьці прыдумляе...)... Ну і суполка падабраласа: што ні імя — то багна, што ні купіна — то ўжо асоба... І не хочаш, а спатыкнешся, пся мосць...

# "Ой, на Бесядзі-рацэ цвяты расцвіталі..."

"Тканыя ручнікі на пачатку маршруту трапляліся зрэдку... Усё запаланіла стыхія вышывання "крыжыкам"... Тое ж самае доўжылася і ў Хоцімскім раёне..."

Гэтыя радкі нагадваюць радкі дзённікаў, у якіх вандроўнікі запісвалі пра ўсё ўбачанае на невядомых дасюль землях. Гэта — урывак з тэксту Галіны Нячаевай, чалавека, бязмежна ўлюбёнага ў свой край, дырэктара Веткаўскага музея народнай творчасці. Яна адкрыла і адкрывае для ўсяго свету таямніцы неглюбскіх, казацка-балсунскіх — беларускіх ручнікоў, ды іншыя культурныя прасторы. Радкі з тэксту, напісаныя да адной з частак выстаўкі "Да вытокаў Бесядзі", сталіся радкамі своеасаблівага падарожнага дзённіка, як і шматлікія экспанаты, набытыя ў падарожжы. А яго першымі "чытачамі" былі тыя, хто патрапіў на адкрыццё выстаўкі, што адбылася ў Гомельскім філіяле Веткаўскага музея народнай творчасці.

Аказваецца, і ў XXI стагоддзі ёсць "белыя" плямы на карце, нявызначаныя і не знаёмыя для большасці суайчыннікаў. Назву гэтай карце можна даць такую: "Абрады, звычаі, традыцыйныя ўяўленні пра свет, распаўсюджаныя сярод жыхароў вёсак, размешчаных уздоўж Бесядзі". Гэта вёскі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, Хоцімскага ды Касцюковіцкага раёнаў Магілёўскай вобласці, Краснагорскага раёна Браншчыны, а таксама вёскі Ершыцкага раёна Смаленскай вобласці.

Праз гэтыя пяць раёнаў Беларусі ды Расіі праходзіў маршрут экспедыцыі, наладжанай супрацоўнікамі Веткаўскага музея народнай творчасці.

Зразумела, што да канца выявіць, спасцігнуць традыцыйную духоўную і матэрыяльную культуру нават часткі насельніцтва таго ці іншага народа — справа безнадзейная не толькі для самага стараннага этнографа, фалькларыста, але і для цэлага інстытута. Бо прастора культуры — неабсяжная.

Дзе, як і якія святы адзначалі? Як трэба прасіць нябёсы і Усявышняга, каб на зямлю праліўся дожджык, ці каб ён супыніўся? Для чаго ўвосень абавязкова трэба пакінуць апошні яблык на яблыні, а ў канцы жніва — не зрэзаць апошнія каласы? Як засцерагчы сябе ад няшчасцяў, хвароб, як вылечыцца? Што можна і што нельга рабіць у тыя ці іншыя дні? Гэта — толькі некаторыя пытанні, на якія ў народнай традыцыйнай культуры даўно ёсць абгрунтаваныя адказы.

Вясковыя людзі, найбольш жанчыны сталага ўзросту, валодаюць такой якасцю як цэльнае ўспрыманне свету. Асабліва таму каштоўныя іх аповеды, у тым ліку — пра тое, як жыта сеялі, як дамы будавалі ды ўпрыгожвалі іх, як хлеб пяклі, як жылі і як паміралі. Дзіўным можа падацца аповед адной жанчыны, выпадкова пачуты: штораз, калі яна едзе з вёскі Веткаўскага раёна пажыць месяцы два да родных у Гомель, бярэ з сабой, акрамя іншага, "смяротнае" адзенне: "А што ж, калі памру, клопату ім дам, каб тады ехалі за ім у вёску?", а потым вязе адзенне назад.

...І ўсё ж пэўныя вынікі экспедыцыі "Да вытокаў Бесядзі", канечне, ёсць. Супрацоўнікамі музея А. Літвінавым, Л. Новікавай, Г. Лапаціным, Л. Мазейкай, Л. Раманавай, а таксама Г. Нячаевай паводле апытанняў зроблены карты, у якіх зафіксаваны колькасць, асаблівасці, месцы распаўсюджвання абрадаў, святаў: "Ад Благавешчання да Купалля", "Свята "Свячы", "Выкліканне дажджу. Жывёльны код у абрадах", "Культ крыніц. Крыжы на могілках".

Уражвае колькасць рэчаў, набытых за 17 дзён экспедыцыі. Гэта — каля 60 ручнікоў, 55 прадметаў жаночага адзення, на аснове якога навуковы супрацоўнік фондаў ВМНТ Л. Новікава (а менавіта яна была адказная за стварэнне выстаўкі) удалося ўзнавіць жаночыя святочныя строі шасці вёсак (1910—1950 гг.): Баханы, Паўлаўка, Бярозкі, Ржавец Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці, вёскі Відуйцы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці, строй вёскі Кузьмічы Ершыцкага раёна Смаленскай вобласці. На выстаўцы таксама ёсць строі з вёсак Казацкія Балсуны, былой Барталамееўкі Веткаўскага раёна, з вёскі Верхлічы Краснагорскага раёна Бранскай вобласці.

Супрацоўнікі Веткаўскага музея, а таксама іншыя ўдзельнікі экспедыцыі наведалі болей сарака вёсак. Пачыналася ж вандроўка з тэрыторыі Смаленскай вобласці. Побач з вёскай Бясёдаўка, што ў Ершыцкім раёне, бярэ выток адна з прыгажэйшых рэк Беларусі. Вельмі часта шлях праходзіў праз выселеныя вёскі. Іх давялося пабачыць вельмі шмат, асабліва на Магілёўшчыне. У памяць пра іх у цэнтры выставы — ліштва пад троіцкай зелянінай клёна, у прасторы акна — ручнік. Добра вядомы ў многіх мясцінах звычай вешаць ручнік на крыж на Радаўніцу, вешаць на шула варот, або класці на падваконне ў доме, дзе нехта памёр. Ручнік — тая ж дарога, па якой сыходзяць і прыходзяць душы нябожчыкаў. Могуць з'явіцца яны ў выглядзе птушак, заляцець у дом у выглядзе матылькоў — "цярэшак", "мятлушак". *"Чые-небудзь угодкі, вот, мятлушка прыляцела. Душа яго прыляцела Ці шэсць нядзель, ці паўгода, ці год. Лёталі ка мне, а я гавару: "Чыя душа прыляцела? Ці хазяінава, ці дзедава, ці бабіна, ці маміна"?* (Запісана ад Таццяны Іванаўны Прывалавай, 1914 г. н., у вёсцы Белы Камень Касцюковіцкага раёна Г. Лапаціным, Г. Нячаевай).

Белыя, як снег, матылькі, выразаныя з паперы, нашыты на ручнікі, стваральніцы якіх адышлі ў Той Свет. Па словах Г. Нячаевай, гэтыя жанчыны пакінулі нам сваю радасць.

Адна з частак выставы прысвечана в. Чамярня Веткаўскага раёна. Менавіта тут, непадалёк ад вёскі, археолагамі былі знойдзены рэшткі курганных пахаванняў: кавалачак пахавальнай тканіны, кераміка, жаночыя ўпрыгожванні XI—XII стагоддзяў. Нават на дзіцячай далоні можа змясціцца мініяцюрны гліняны гаршчок, знойдзены Святланай Кавалёвай падчас экспедыцыі. Зроблена магчымая рэканструкцыя рытуальных дзеянняў, што выконваліся радзімічамі пры ўзвядзенні курганных насыпаў.



Адзін з комплексаў выставы прысвечаны матроне Еціпнёвай (1919—1996 гг.), вядомай выканаўцы народных песень. Добрым словам згадваюць яе знаёмыя, а таксама Лапацін, які неаднойчы размаўляў з ёй: "Вялікая майстрыха, вялікая знаўца, вялікая жанчына. За яе скажуць ручнікі, іх падтрымаюць песні, аповеды пра святы, вяселлі. За яе скажам мы". Непадалёк, тут жа, стаіць крыж з ручнікамі — вобраз многіх-многіх малітваў, якія вельмі часта прамаўляліся і прамаўляюцца каля крыніц. На думку Лапаціна, прыхільніка міфалагічнай школы ў вывучэнні фальклору і абрадаў, у традыцыі асноўнага еўрапейскага міфа — бойкі Змея з Грамавержцам знаходзяцца і абрады выклікання дажджу, і "стрэльныя" песні, і духоўны верш пра Юрыя, запісаны ад Алены Фяськовай з вёскі Заляддзе Веткаўскага раёна.

Вельмі шмат на выставе фотаздымкаў, зробленых падчас экспедыцыі А. Чыжовым. Гэта — краявіды, архітэктура Гомельшчыны і Магілёўшчыны, Браншчыны ды Смаленшчыны. На іх — і разбураная царква ў вёсцы Жалезнікі, і раздвоенае, быццам арфа, дрэва, іконы-"свечы", пясок, вымыты крыніцамі ў вытоку Бесядзі, гасцінныя жанчыны, з якімі давялося сустрэцца. Добразычлівыя, шчырыя ўсмешкі на іх тварах. Іх сэрцы — нібы тыя ж чыстыя крыніцы ўздоўж Бесядзі, да якіх прыходзяць па "святую" гаючую ваду.

На адкрыцці выстаўкі хораша спявалі жанчыны — удзельніцы фальклорнага калектыву "Казачка" з Казацкіх Балсуноў. Яно пачалося песняй "Ой, на Бесядзі-рацэ цвяты расцвіталі"... Жанчыны дапаўнялі экскурсію Г. Нячаевай, расказвалі пра свае звычаі: *"На Ушэсце карагоды вадзілі, штоб вецер крыш не ламаў, каласкі рвалі да й хавалі, штоб граза не паліла".* Госці, запрошаныя на выстаўку, пачулі ў выкананні спявачак духоўны верш "Плача маць, зямля сырая", добра вядомы ў розных варыянтах у веткаўскіх вёсках.

**Ларыса РАМАНАВА,**
**навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці**

# Суфлёр



ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**На падставе рашэння Калегіі Міністэрства культуры РБ N 11 п. 1 ад 24.12.2000 "Аб навуковай канцэпцыі экспазіцыі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі" Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь абвяшчаецца конкурс на лепшую эскіз-ідэю архітэктурна-мастацкага рашэння экспазіцыі музея.**

**УМОВЫ КОНКУРСУ:**

1. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца мастакі, дызайнеры, архітэктары, члены творчых саюзаў, аб'яднанняў, творчых майстэрань Беларусі.

2. Аўтары ці творчыя калектывы, якія прымаюць удзел у конкурсе, прадстаўляюць: мастацкія альбо графічныя лісты эскіз-ідэі, тлумачальную запіску, звесткі аб аўтары (аўтарах, калі ўдзельнічае творчы калектыў).

3. Для пераможцаў конкурсу вызначаюцца наступныя грашовыя прэміі:

першая (адна) — 500 тыс. руб.

другая (адна) — 300 тыс. руб.

4. Тэрмін прадстаўлення работ на конкурс да 1 кастрычніка 2001 года.

5. Конкурсныя праекты прымаюцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі па адрасе: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 12 (тэл. для даведак: 227-06-33, 227-30-06).

6. Выстаўка конкурсных праектаў будзе арганізавана ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі з 4 па 18 кастрычніка 2001. У азначаны тэрмін працуе журы конкурсу.

7. Вынікі конкурсу будуць падведзены да 25.10.2001 і абвешчаны праз сродкі масавай інфармацыі.

8. Тэрмін запатрабавання аўтарамі праектаў, якія не ўвайшлі ў лік пераможцаў, да 28.10.2001.

9. Конкурс праводзіцца ў адзін тур. Пры неабходнасці правядзення другога тура прымаецца спецыяльнае рашэнне журы, аб чым будуць паведамлены ўдзельнікі конкурсу.

## VII Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, МГА "Хрысціянскі Адукацыйны Цэнтра імя свсв. Мяфодзія і Кірылы" паведамляюць аб правядзенні 22—24 мая 2001 г. чарговых Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Міжнароднаму дню славянскага пісьменства і культуры. Тэма чытанняў: "Царква і культура: дыялог на мяжы тысячагоддзяў".

Плануюцца наступныя секцыі:

1. Культуралагічныя даследаванні.
2. Кірыла-Мяфодзіеўская традыцыя ў духоўнай і кніжнай культуры славянскіх народаў.
3. Агульнаславянская спадчына ў развіцці пісьменства, мовы і літаратуры.
4. Духоўнасць і асветніцкія традыцыі славян.
5. Багаслоўская і царкоўна-гістарычныя даследаванні.
6. Рэлігійна-філасофскія і рэлігіязнаўчыя даследаванні.

Чытанні завершыць "круглы стол" на тэму "Царква і грамадства".

Чытанні будуць праходзіць у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і на факультэце тэалогіі ЕГУ.

Для ўдзелу ў чытаннях просім прадаставіць свае матэрыялы да 15 красавіка 2001 г.

Прадугледжваецца выданне зборніка матэрыялаў чытанняў.

Адрасы аргкамітэта:

Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, аддзел рэдкай кнігі 220001, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17. Тэл. (375-17) 222-83-27, 222-24-10, факс (375-17) 222-24-09.

Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, факультэт тэалогіі. 220030, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 24. Аргкамітэт VII Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў. Тэл. (375-17) 289-11-61, факс (375-17) 229-20-55.

ПАРОДЫІ

## Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Безназейная барацьба

Божа,
Я табе не зычыў зла...
Я прасіў у ворагі арла,
Даў ты мне нягеглую варону.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ці ж яна раўня
Куліку ці чайцы-прыбярэжцы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Каб не траціць пораху без толку,
Мог бы і з рагаткі нават збіць,
А тым болей з гулкае
Двухстволкі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А пакуль што гэта:
кар-р ды кар-р! —
У радок міжволі
залятае.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

З кн. "Квадратура круга"

***Божа,***
***У мяне не хопіць сіл***
***Ладзіць квадратуру абароны.***
***Для натхнення чайку я прасіў,***
***Даў ты мне агрэсара-варону.***

***Браў не раз***
***Я ў рукі добры дрын,***
***Ды як толькі часам правароню,***
***Дык яна за нейкіх пяць хвілін***
***Правядзе "зачыстку" на балконе.***

***Можа,***
***Аб'явіць мне ёй вайну?***
***(Да авансу зноў цярплю без сала).***
***Падляціць — з рагаткі так шпульну! —***
***Будзе, як гаворыцца, нямала.***

***Затаіўся***
***Зранку пад сцяной,***
***Кінуў недапісанымі вершы...***
***Зірк на неба! — зграя нада мной,***
***Быццам "Мессершміты"***
***ў сорак першым.***

***Знаць,***
***Зладзейка прывяла сваіх.***
***Тут ужо не адмахнешся дрынам.***
***Два патроны заганю ў ствалы***
***І дуплетам, як з гарматы, грымну.***

***У жыцці***
***Амаль, як на вайне:***
***Хто дужэйшы, той слабых ганяе.***
***Я — да птушак, птушкі — ад мяне,***
***Гвалт уздымуць, кружацца над гаем.***

***Пудзіў іх***
***Тады і апасля.***
***А яны ўсё роўна назаляюць.***
***Кар-р ды кар-р! — нібы ў каго пытаюць:***
***"Дзе балкон паэта Васіля?"***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 3.4.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1922

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12